

*Леанарда да Вінчы. «Апошняя Вячэра», 1498 г.*
*Мілан. Рэфектарый пры касцёле Санта Марыя дэлле Грацые.*





зерцало жену сию преславную предочима имеюще
вдобрыхъ делехъ иелюбви ѿчины нетолико жены но
имужи наследовали, ивсякого тружания искарбовъ
для посполитого доброго идля ѿчины своея нелюто
вали • Понеже ѿприрожения звери ходящие въпу
стыни знають ямы своя • Птици летающие повозъ
духу ведають гнезда своя • Рибы плывающие помо
рю иерекахъ чують виры своя • Пчелы итымъ подо
бная боронять ульевъ своихъ • Такожъ илюди игде
зродилися иускормлены суть побозе ктому месту ве
ликую ласку имають • Протожъ исия вдовица Іу
дифъ для места рожения своего, выдала есть жи
вотъ свой нанебезпеченство, Но гдь богъ для добро
го умыслу ея помогъ ей, яко непобедимого ѿлюдей
победила • Потреба теже ведати иже сия Кни
га Іудифъ яко Книга Данила пррока икниги Ез
дры Еврейскими словами, Но Халдейскимъ язы
комъ найпервей ѿлетописцевъ написана есть :~
Конець Предъсловия :~

*Францыск Скарына.*
*З прадмовы да Кнігі Юдзіф.*



**У нумары 1/2017**
# НАША ВЕРА




Пасля трох кніг размоваў з Ёзафам Ратцынгерам (Бэнэдыктам XVI) нямецкі журналіст Пэтэр Зээвальд прапануе чытачам чацвёртую, апошнюю кнігу размоваў з гэтым вялікім тэолагамі Папам[1]. Але гэтым разам гутарка ідзе не столькі пра тэалагічныя пытанні, колькі пра Пантыфікат Бэнэдыкта XVI, пра яго дабравольнае адмаўленне ад папскай улады і рэтраспектыўны погляд на жыццё. Гэта вельмі асабістая кніга, якая ў многіх аспектах дазваляе па-іншаму зірнуць на жыццё і служэнне Ёзафа Ратцынгера.

Мы палічылі патрэбным апублікаваць прадмову да кнігі «Апошнія размовы», напісаную Пэтэрам Зээвальдам, і некалькі фрагментаў з кнігі — тых, у якіх гаворка ідзе аб рашэнні Бэнэдыкта XVI адмовіцца ад пасады, а таксама пра яго стаўленне да папы Францішка.

*Рэд.*

Бэнэдыкт XVI

# АПОШНІЯ РАЗМОВЫ

## З ПЭТЭРАМ ЗЭЕВАЛЬДАМ

«Верыць — гэта не што іншае,
як у ночы свету дакрануцца да рукі Бога
і гэтак — у цішыні — слухаць Слова, бачыць Любоў».

*Бэнэдыкт XVI,*
*вялікапосныя рэкалекцыі для Рымскай Курыі*
*перад заканчэннем Пантыфікату, 23 лютага 2013 г.*

**ПРАДМОВА**

<...> 23 мая 2016 года, уз’язджаючы па стромкай дарозе, што вядзе да кляштара *Mater Ecclesiae* (Маці Касцёла) у Ватыканскіх садах, я баяўся, што гэта можа быць наша апошняя доўгая размова.

Сястра Кармэла адчыніла дзверы, але гэтым разам яна была не ў фартуху, а ў элегантным касцюме. У прыёмным пакоі вісела карціна з выяваю святога Аўгустына, вялікага духоўнага настаўніка, які так шмат значыў для Бэнэдыкта XVI, таму што праз яго асобу можна было даследаваць драматычныя і ў той жа час такія чалавечыя змаганні за праўды веры.

Замест чырвоных туфляў Бэнэдыкт XVI насіў цяпер сандалі, нібы манах. Пра тое, што ён шмат гадоў назад аслеп на левае вока, ведалі нямногія, паступова да гэтага дадалося і аслабленне слыху. Цела было схуднелае, але ва ўсёй яго постаці адчувалася мяккасць, як ніколі дагэтуль. І гэта ўзрушвала: смелы мысляр, Божы філосаф, першы чалавек, які можа называць сябе *Papa emeritus*, нарэшце апынуўся там, дзе аднаго інтэлекту недастаткова, у цішыні і малітве, якія з’яўляюцца сэрцам веры.

Ішоў лістапад 1992 года, калі я ўпершыню сустрэўся з тагачасным прэфектам Кангрэгацыі Веравучэння. <...>

Гэтак жа, як і Караль Вайтыла, Ёзаф Ратцынгер спазнаў на ўласным вопыце наступствы атэістычных сістэмаў. У тыя часы, калі быў дзіцем, ён бачыў, як са школаў знікалі крыжы; сямнаццацігадовым салдатам ён быў сведкам таго, як вар’яцтва стварэння «новага чалавека» ў свеце без Бога закончылася тэрорам і апакаліптычным спусташэннем. Неабходнасць адстойваць хрысціянства ад пераацэнкі вартасцяў, у тым ліку аргументацыйна, стала для яго заданнем і адбілася на яго думках, на ўсіх ягоных творах. «У веры маіх бацькоў, — кажа ён, — я бачыў сцвярджэнне каталіцызму як бастыёну праўды і спра-

вядлівасці ў змаганні супраць таго панавання атэізму і падману, якім быў нацыянал-сацыялізм».

Драматычны шлях з перамогамі і паражэннямі прывёў надзвычай адоранага юнака, які рана распазнаў сваё пакліканне, ажно да Пасаду святога Пятра. Вось ён вучань з вострым розумам, які піша вершы грэцкім гекзаметрам і захапляецца Моцартам. Вось ён маладзенькі хлопец, які на разбураных бомбамі вуліцах Мюнхена марыць пра абуджэнне хрысціянства. Вось ён дапытлівы студэнт вышэйшай школы, выхаваны на прагрэсіўным мысленні найлепшых тэолагаў свайго часу, ламае галаву над кнігамі Аўгустына, К’еркегора і Ньюмана. Вось ён неардынарны святар, які выклікае захапленне ў моладзевых групах. Але таксама і моцна прыгнечаны габілітант[2], які раптам разумее, што яго кар’ера павісла над безданню і можа пацярпець крах.

Лёс пажадаў скласціся інакш. І ў адзін момант амаль што хлапечага выгляду прафесар з малой вёскі ў баварскай правінцыі становіцца новаю зоркаю на небасхіле тэалогіі.

Свежасць выказванняў, крэатыўны падыход да Евангелля, праўдзівае навучанне, якое ён увасабляў, змушалі натапырваць вушы. «У тэалогіі вялікага мысляра, — пісаў яго мюнхенскі выкладчык і мэтр Готліб Зёнген, — змест і форма тэалагічнай думкі ўзаемна вызначаюцца, утвараючы жывую еднасць». Аўдыторыі Ратцынгера былі перапоўненыя. Канспекты ягоных лекцый тысячу разоў перапісваліся ад рукі. Яго «Уводзінамі ў хрысціянства»[3] захапляўся ў Кракаве Караль Вайтыла, а ў Парыжы — чальцы *Académie des Sciences Morales et Politiques*, адной з пяці нацыянальных акадэмій Інстытута Францыі, чальцом якога ён стаў пазней.

Ратцынгеру было ўсяго 35 гадоў, калі яго ініцыятывы прынеслі Другому Ватыканскаму Сабору тую адкрытасць, з якою Касцёл увайшоў у сучаснасць. Ніхто іншы, як толькі гэты тэалагічны падлетак, тлумачыў удзячны Ян XXIII, не мог лепей выказаць тое, чаго ён як ініцыятар хацеў дасягнуць, склікаючы Сабор.

У той час, калі вядомыя тэолагі, якіх лічылі прагрэсіўнымі, прыстасоўваліся да дробнаабывацельскіх, па сутнасці, уяўленняў і абслугоўвалі, у асноўным, толькі мэйнстрым[4], Ратцынгер заставаўся нязручным: як прафесар, як Мюнхенскі біскуп, як прэфект Кангрэгацыі Веравучэння ў Рыме, які на працягу чвэрці стагоддзя «забяспечваў тылы» Яну Паўлу II і з-за гэтага часта бываў біты. «Сапраўднай праблемай нашага гістарычнага часу, — перасцерагаў ён, — з’яўляецца тое, што Бог знікае з далягляду чалавека». З-за таго, што «згасае святло, якое прыходзіць ад Бога», на чалавецтва абрушваецца дэзарыентацыя, «разбуральнае дзеянне якой становіцца ўсё больш бачным».

Не абыходзіў ён крытыкай і свой Касцёл. Ужо ў 1958 годзе Ратцынгер гаварыў пра *Entweltlichung* (пар. рус. *размирщение*)[5]. Ён лічыў гэта неабходным для таго, каб вера зноў магла праяўляць свае дзейсныя субстанцыі. Трэба заставацца адпорным, непрыстасавальным, каб без усялякай мішуры нанова паказваць, што з хрысціянствам злучаны светапогляд, які сягае далёка па-за ўсё, звязанае з цалкам свецкай, матэрыялістычнай паставай, уключаючы адносіны да Аб’яўлення пра вечнае жыццё. Было б наіўным думаць, што дастаткова апрануцца ў новае адзенне і гаварыць так, як гавораць іншыя, і ўсё будзе ў парадку. Трэба, хутчэй, вярнуцца да сапраўднага прапаведавання і такой літургіі, якая зноў надасць ззянне таямніцы эўхарыстычнай цэлебрацыі.

Незабыўная яго скарга падчас Крыжовага шляху ў Рыме, у сакавіку 2005 года. «Як шмат бруду ў Касцёле, — усклікаў ён, — і таксама менавіта сярод тых, хто праз святарства павінен цалкам яму належаць».

Стары кардынал стаў своеасаблівым вуглавым каменем, на які больш ніхто не хацеў абапірацца. Сам Ратцынгер прагнуў пайсці на пенсію. Але ўжо праз некалькі дзён пасля свайго заклiку да рэфлексіі і ачышчэння, які прагучаў у Вялікую пятніцу, ён з’явіўся перад радаснымі натоўпамі з-за заслоны на лоджыі сабора святога Пятра як 265-ы намеснік першага Апостала. «Малы Папа», які прыйшоў пасля вялікага Караля Вайтылы, «просты работнік у вінаградніку Пана», — так ён прадставіўся 1,2 мільярдам католікаў ва ўсім свеце; і ён ведаў, што́ трэба рабіць.

Сапраўдная праблема Касцёла, тлумачыў новы Пантыфік, заключаецца не ў страце яго вернікаў, а ў страце веры. І праяўляецца гэта ў згасанні хрысціянскай свядомасці, што вядзе да крызісу, у абыякавасці на малітве і падчас літургіі, у занядбанні місіі. Для яго сапраўдная рэформа — гэта справа ўнутранага абуджэння, палаючых сэрцаў. Найвышэйшы прыярытэт мае прапаведаванне таго, што можна пазнаць з надзейных ведаў пра Хрыста і ў што можна верыць. Гаворка ідзе пра тое, «каб слова Божае было захавана ва ўсёй яго велічы і чысціні насуперак усялякім спробам прыстасавання і выпустошвання».

На працягу некалькіх гадоў Пантыфікат нямецкага Папы — гэта суцэльнае «гасанна». Ніколі раней так шмат людзей не ўдзельнічала ў папскіх аўдыенцыях. Энцыклікі Бэнэдыкта *Deus caritas est* («Бог ёсць любоў»), *Spe salvi* («Мы збаўлены праз надзею») і *Caritas in veritate* («Любоў у праўдзе») выдаваліся мільённымі накладамі. Ужо даўно многія яго кнігі сталі класікай, а цяпер ягоныя выказванні служылі загалоўкамі

для першых старонак сусветнай прэсы. Адно толькі тое, што пасля доўгага і ўзрушальнага Пантыфікату Вайтылы пераход быў здзейснены без ніякага пералому, можна лічыць яго ўнікальным дасягненнем.

Але гэты 78-гадовы чалавек з'яўляецца не толькі Папам, які ўдзельнічаў у выпрацоўцы канцэпцыі Сабору, ён таксама той, хто пра гэта заўсёды марыў. Яснасць мыслення, дыялог, канцэнтрацыя на істотным — усё гэта вызначала той новы стыль, што пранік у Ватыкан. Зменшаны затраты на справаванне літургіі, скарочана працягласць Сінодаў Біскупаў, аднак у той жа час ім нададзена калегіяльная форма праз увядзенне дыскусій.

Бэнэдыкт XVI працуе ў цішыні таксама і над тымі справамі, якія былі адкладзены яго папярэднікам. Ён адмаўляецца ад эфектнасці. Моўчкі ліквідуе цалаванне рукі, замяняе ў гербе велічную папскую тыяру на простую біскупскую мітру. Але таксама, кіруючыся павагаю да традыцыі, прымае некаторыя звычаі, якія не зусім адпавядаюць яго густу. Ён паводзіць сябе не як шэф, не як культавы аб'ект Касцёла, які імкнецца быць на пярэднім плане. Ён толькі стаіць на месцы Таго, Каго адзінага належыць любіць і ў Каго належыць верыць, — Езуса Хрыста, Слова Божага, якое стала Чалавекам.

Пасля Яна Паўла II Бэнэдыкт XVI стаў другім Намеснікам святога Пятра, які прамаўляў у мячэці. У той жа час нямецкі Пантыфік стаў першым Папам, які ўдзельнічаў у пратэстанцкім набажэнстве. Небывалым гістарычным актам было наведванне ім як галавою Каталіцкага Касцёла месцаў дзейнасці Лютэра. Ён зрабіў (гэта таксама было зусім новым) пратэстанта старшынёю Папскай Рады па справах навукі, запрасіў мусульманіна ў якасці прафесара Папскага ўніверсітэта. У той жа час, дзякуючы свайму тэалагічнаму і інтэлектуальнаму патэнцыялу, Бэнэдыкт XVI узняў папства на такі ўзровень, што Каталіцкі Касцёл для тых, хто знаходзіцца па-за ім, стаў прыцягальным і застаецца такім да гэтага часу не ў апошнюю чаргу з прычыны трох такіх змястоўных тэматычных ініцыятываў як Год святога Паўла, Год святарства і Год веры. Тое, што ён сваім апостальскім пасланнем *Summorum Pontificum* дазволіў святарам зноў цэлебраваць літургію ў трыдэнцкай форме, якая дзейнічала на працягу стагоддзяў і дазволу на якую раней трэба было прасіць у біскупа, з'яўляецца актам адкрытасці, свабоды, а не рэгрэсу. <...>

Нібы пастаянны абстрэл, абрушваліся на Ратцынгера незлічоныя *coverstory*[6] і паведамленні сродкаў масавай інфармацыі. «Калі б Папа атрымліваў толькі апладысменты, — адказваў ён, прымаючы ўдары, — то мусіў бы спытаць сябе, ці не рабіў нешта няправільна». <...>

Прыхільнікам Бэнэдыкта не хапае яго мудрых прамоваў, якія маглі б ахалодзіць розум і сагрэць сэрца; багацця ягонай мовы, добрасумленнасці ў аналізаванні; бясконцай цярплівасці ў слуханні; таго кшталту высакароднасці, увасабленнем якой ён быў амаль як ніводны іншы іерарх. І, вядома ж, яго сарамлівай усмешкі, яго часта крыху нязграбных рухаў, калі ён, нібыта Чарлі Чаплін, ішоў праз подыум. Асабліва — яго настойвання на здаровым розуме як гаранце веры, які ахоўвае рэлігію ад спаўзання ў памылковае фантазёрства і фанатызм. Не ў апошнюю чаргу — яго наватарства, якога многія не маглі альбо не хацелі бачыць. Бэнэдыкт застаўся верным яму таксама ў гатоўнасці рабіць тыя рэчы, якіх дагэтуль яшчэ ніхто не рабіў.

Пры ўсім мностве напісаных ім працаў, казанняў, разважанняў, карэспандэнцыі (толькі да прыняцця біскупскай сакры ім напісана 30 000 лістоў) Ёзаф Ратцынгер ніколі не распрацоўваў нейкага ўласнага вучэння. Як тэолаг ён прымаў тое, што было, акрэсліваў яго сутнасць, знаходзіў адпаведнае месца ў кантэксце часу і паказваў яго нанава, каб уратаваць для наступных пакаленняў пасланне Евангелля і веды, здабытыя на працягу гісторыі хрысціянства. З улікам таго, якое значэнне пры гэтым ён надаваў Касцёлу, зразумелай становіцца і яго барацьба за гэты Касцёл дзеля таго, каб ён заставаўся збаўчым караблём у прасторы і часе, Ноевым каўчэгам для пераходу ў лепшы свет. Ён называў гэта «эсхаталагічнай радыкальнасцю хрысціянскай рэвалюцыі».

Адзін толькі трохтомны твор Папы «Езус з Назарэта» робіць гэты Пантыфікат унікальным. Бэнэдыкт XVI стварыў свайго роду вадэмекум[7], неабходны для будучай тэалогіі, катэхезы і святарскай фармацыі, карацей кажучы: фундамент веравучэння для трэцяга тысячагоддзя. Круг змог замкнуцца не на катэдры ўніверсітэта, а на Пятровай катэдры. І ніхто іншы не меў такой адукацыі, біяграфіі, сілы і такога натхнення, каб з навуковай скрупулёзнасцю і містычным рэалізмам ачысціць падрапаны да непазнавальнасці партрэт Езуса і нанова зрабіць даступным для чалавецтва.

Англійскі гісторык Пітэр Ватсан называе Бэнэдыкта XVI адным з апошніх прадстаўнікоў «нямецкага генія», ставячы яго нароўні з Лесінгам, Кантам і Бетховенам. Для перуанскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Марыа Варгаса Льёса ён — адзін з самых значных інтэлектуалаў сучаснасці, «свежыя і смелыя рэфлексіі» якога даюць адказ на маральныя, культурныя і экзістэнцыяльныя праблемы нашага часу. Гісторыя рассудзіць, якое значэнне па праве належыць гэтаму Папу па-за межамі сённяшняга дня.

У адным можна быць пэўным ужо сёння: ніхто, акрамя Ёзафа Ратцынгера, не стаяў на працягу больш чым трох дзесяцігоддзяў на чале самай вялікай і самай старэйшай установы ў свеце. Яго выступленні на Саборы, адкрыццё нанова айцоў Касцёла, ажыўленне веравучэння, а таксама ачышчэнне і кансалідацыя Касцёла зрабілі яго не толькі аднавіцелем веры, але, як тэолага на Пасадзе святога Пятра, адным з самых выдатных Папаў і доктарам Касцёла сучаснасці — такім, якіх больш ужо не будзе. Нарэшце, гістарычны акт яго адстаўкі не толькі кардынальна змяніў падыход да пасады наступніка Пятра. Бэнэдыкт XVI вярнуў ёй тое духоўнае вымярэнне, якое надавалася гэтай пасадзе з самага пачатку.

Бэнэдыктам XVI закончылася цэлая эпоха, магчыма, нават эон[8] — адзін з тых адрэзкаў часу, які вымяраецца тысячагоддзямі, вызначаючы вялікія пераломныя моманты ў гісторыі. Восем гадоў ягонага Пантыфікату былі быццам вялікія рэкалекцыі, якія патрабаваліся Касцёлу, каб умацаваць унутраную цвярдыню і ўзмацніць сваю душу. З такога пункту гледжання апошні Папа эпохі, якая мінае, пабудаваў мост для прыйсця нечага новага, якім бы яно ні выглядала. Бэнэдыкт XVI, як падсумаваў яго наступнік, быў «вялікім Папам» — «вялікім з прычыны сілы і пранікліваcці яго інтэлекту, вялікім з прычыны яго выдатнага ўнёску ў тэалогію, вялікім з прычыны яго любові да Касцёла і да людзей, вялікім з прычыны ягоных цнотаў і яго рэлігійнасці». Яго дух, як адзначыў папа Францішак, «будзе ўсё з большаю моцаю праяўляцца з пакалення ў пакаленне».

Гэтыя размовы адбываліся незадоўга да адмовы Бэнэдыкта XVI ад пасады і адразу пасля яе ў рамках працы над біяграфіяй; яны дазваляюць яшчэ раз адкрыць для сябе адну з самых незвычайных асобаў нашага часу. Тэкст быў прачытаны Папам на пенсіі, і быў атрыманы яго дазвол на публікацыю. Няхай гэтая кніга стане невялікім унёскам у выпраўленне фальшывых вобразаў, прынясе святло ў цемру, асабліва ў абставіны яго сыходу на пенсію, што выклікала шок ва ўсім свеце. Урэшце, гаворка ідзе пра тое, каб лепш зразумець чалавека Ёзафа Ратцынгера і пастыра Бэнэдыкта XVI, належным чынам ацаніць яго святасць, а перадусім — адкрыць доступ да яго справы, у якой змешчаны скарб для будучых пакаленняў.

*Пэтэр Зээвальд*



Бэнэдыкт XVI і Пэтэр Зээвальд.

**АДМОВА АД ПАСАДЫ**

<...>

*— Ці трэба было лічыцца з тым, што Ваша рашэнне адмовіцца ад пасады можа выклікаць расчараванне, ва ўсялякім выпадку, разгубленасць?*

— Яны былі мацнейшымі, чым я думаў, бо тады менавіта сябры, людзі, якія, можна сказаць, трымаліся на маім пасланніцтве, для якіх яно было важным і вызначальным, у адзін момант аказаліся збітымі з панталыку і адчувалі сябе пакінутымі. <...>

*— Незадоўга да моманту абвяшчэння ў справу былі пасвечаныя толькі чатыры асобы. На гэта была нейкая прычына?*

— Так, вядома; таму што ў той момант, калі даведваюцца людзі, місія развальваецца, бо падае аўтарытэт. Было важна таксама, каб я да канца адпавядаў сваёй пасадзе і мог у поўні ажыццяўляць сваё служэнне.

*— Не было боязі, што нехта яшчэ адгаварыў бы Вас ад гэтага кроку?*

— Не (*весела смяецца*), хоць я і думаў пра гэта, але боязі не было, бо я меў унутраную пэўнасць, што павінен гэта зрабіць, і тады ніхто ўжо не можа мяне адгаварыць. <...>

*— Вы хацелі прадухіліць непазбежнасць таго, што выглядалі б перад светам гэтак, як Ваш папярэднік?*

— Мой папярэднік меў сваю ўласную місію. Я ўпэўнены ў тым, што пасля таго, як ён з такой вялікай энергіяй распачаў працу, нібы ўзяўшы на плечы ўсё чалавецтва, і на працягу дваццаці гадоў з вялікаю адвагаю зносіў цярпенні і цяжары гэтага стагоддзя, абвяшчаючы Добрую Навіну, фаза цярпення стала як бы часткаю гэтага Пантыфікату і была яго ўласнаю місіяй. Людзі таксама бачылі гэта менавіта так. Дакладней кажучы, менавіта церпячага яны па-сапраўднаму сталі яго любіць. Чалавеку становішся асабліва блізкім, калі

адкрываешся. Таму гэта цалкам зразумела. Тым не менш, я быў упэўнены, што такое нельга паўтарыць калі заўгодна. Што да Пантыфікату, які склаў восем гадоў, нельга дабаўляць яшчэ, магчыма, восем гадоў, на працягу якіх здарыцца нешта падобнае.

*— Вы сказалі, што, прымаючы гэтае рашэнне, кансультаваліся ў найвышэйшага Шэфа. Як гэта адбываецца?*

— Тут проста неабходна як мага ясней выкласці Яму сваю справу і абгрунтаваць адмаўленне ад пасады не толькі з пазіцыі дзейснасці гэтага кроку ці ў падобных катэгорыях, але таксама з пазіцыі веры. Менавіта ў гэтай перспектыве я прыйшоў да пераканання, што Пятрова служэнне патрабуе ад мяне канкрэтных рашэнняў і праніклівасці, але калі б гэта ўжо было немагчыма ў бліжэйшы час, Пан не будзе жадаць ад мяне гэтага і, так бы мовіць, вызваліць ад гэтага цяжару. <...>

*— Ці не было ў Вас адчування, што Ваш Пантыфікат неяк вычарпаў сябе, што на самай справе ўжо не было руху наперад? А можа, асоба Папы ўжо была не рашэннем, а праблемаю?*

— Гэта не так, не. Вядома, я ўсведамляў, што, па сутнасці, няшмат ужо змагу даць. Але што я быў, так бы мовіць, праблемаю для Касцёла, то так я не лічыў і не лічу.

*— Ці адыграла тут сваю ролю тое, што Вы былі расчараваным у сваіх бліжэйшых супрацоўніках, адчувалі недахоп падтрымкі?*

— Таксама не. Думаю, што скандал, звязаны з Паоло Габрыэле, гэта фатальнае здарэнне. Але, па-першае, маёй віны не было — ён быў правераны адпаведнымі інстанцыямі і прызначаны на гэтую пасаду; і, па-другое, трэба лічыцца з тым, што з людзьмі здараюцца такія рэчы. Увогуле, тут няма ніякай маёй свядомай памылкі.

*— Тым не менш, італьянскія СМІ спекулявалі на тым, што нібыта сапраўдную прычыну Вашай адмовы ад пасады ўсё ж трэба шукаць у скандале Ваціlікс, за якім утоена не толькі сітуацыя з Габрыэле, але таксама фінансавыя праблемы і інтрыгі ў Курыі. Нібыта Вы былі ў такім шоку ад справаздачы па выніках праведзенага расследавання, якое налічвала трыста старонак, што не бачылі ўжо іншага выйсця, як толькі саступіць месца наступніку.*

— Не, гэта не так, зусім не так. Наадварот, справы былі цалкам урэгуляваныя. Я тады гаварыў — думаю, менавіта Вам, — што нельга адмаўляцца ад пасады, калі пакідаеш нявырашаныя справы, гэта можна рабіць толькі тады, калі яны будуць уладжаныя. Я змог адмовіцца ад пасады, таму што сітуацыя змянілася.

*— У некаторых газетах гаворка ішла нават пра шантаж і змову.*

— Усё гэта поўная лухта. Му шу сказаць, што было б шкада, калі б чалавек, па якіх бы то ні было прычынах, лічыў бы, нібыта павінен учыніць скандал дзеля таго, каб ачысціць Касцёл. Ніхто мяне не шантажаваў. Я і не дазволіў бы сябе шантажаваць. Калі б нехта спрабаваў гэта рабіць, то менавіта тады я не адышоў бы, бо нельга пакідаць пасаду пад націскам. Не было ўва мне і расчаравання альбо нечага падобнага. Наадварот, хвала Богу, быў настрой супакою і пераадолення. Настрой, пры якім ужо сапраўды ўпэўнена можна было перадаць руль наступніку. <...>

*— Ці была хоць адна хвіліна, калі Вы раскайваліся ў тым, што адмовіліся ад пасады?*

— Не! Не і не. Кожны дзень я бачу, што гэта было правільна. <...>

**«Я НЕ ПАКІДАЮ КРЫЖА»**

<...>

*— Якія ў Вас былі думкі, калі Ваш наступнік з'явіўся ў лоджы базылікі святога Пятра? Да таго ж, адзеты ў белае?*

— Ну, гэта яго справа; белае адзенне мы таксама насілі. Толькі ён не захацеў адзець мацэту[9]. Але мяне гэта не хвалявала. Аднак мяне вельмі ўсхвалявала тое, што ён, перад тым як выйсці ў лоджыю, захацеў патэлефанаваць мне, але не ўдалося звязацца, бо мы сядзелі перад тэлевізарам; ён маліўся за мяне; была хвіліна разважання, а потым — тая сардэчнасць, з якою ён вітаў людзей, так што адразу, як кажуць, з'явілася іскра паразумення. Такога ніхто не чакаў. Безумоўна, я ведаў яго, але не думаў, што яго выберуць. Таму гэта было для мяне вялікаю неспадзяванкаю. Але потым адразу ўспыхнула сімпатыя: па-першае, з-за таго, як ён маліўся, па-другое — як прамаўляў да людскіх сэрцаў. <...>

*— У асобе папы Францішка ёсць шмат новага: першы езуіт на Пасадзе святога Пятра; першы, які носіць імя Францішак. А перадусім — ён першы Папа з Новага Свету. Што гэта значыць для структуры ўсяго Каталіцкага Касцёла?*

— Гэта значыць, што Касцёл гнуткі, дынамічны і адкрыты і ў ім адбываюцца новыя працэсы. Што ён не застыў у якойсьці схеме, але ў ім зноў і зноў адбываецца нешта нечаканае, што яму ўласцівы дынамізм, які можа пастаянна аднаўляць яго. Гэта цудоўна і абнадзейвае, бо менавіта ў наш час адбываюцца такія рэчы, якіх ніколі не чакалі і якія паказваюць, што Касцёл жывы і поўны новых магчымасцяў.

З другога боку, меркавалася, што і Паўднёвая Амерыка будзе іграць вялікую ролю. Гэта самы вялікі каталіцкі кантынент і ў той жа час найбольш церпячы і праблемны. Тут ёсць сапраўды вялікія біскупы і, пры ўсіх цярпеннях і праблемах, вельмі дынамічны Касцёл. Так што гэта была ў нейкім сэнсе гадзіна, калі прыйшла чарга Паўднёвай Амерыкі. Прычым новы Папа

адначасова і італьянец, і паўднёваамерыканец, так што ў гэтым таксама праяўляецца спляценне Старога і Новага Свету і ўнутраная еднасць гісторыі. <...>

*— Калі, як кажуць, Бог крыху выпраўляе кожнага Папу ў яго наступніку, то ў чым выпраўляе Вас папа Францішак?*

— (*Смяецца*). Так, я сказаў бы, што гэта адбываецца праз непасрэдны кантакт з людзьмі. Думаю, гэта вельмі важна. Ён, несумненна, Папа рэфлексіі. Калі я чытаю *Evangelii gaudium*[10] альбо таксама інтэрв'ю, то бачу, што ён удумлівы чалавек, той, хто духоўна падыходзіць да выклікаў часу. Але разам з тым такі чалавек непасрэдна звяртаецца да народу, бо прывык заўсёды знаходзіцца сярод людзей. Тое, што ён жыве не ў палацы, а ў Доме святой Марты, вынікае з таго, што ён хоча заўсёды быць у акружэнні людзей. Я лічу, што гэтага можна было б дасягнуць і ў *Palazzo Apostolico*, але гэта мае новы акцэнт. Магчыма, я сапраўды недастаткова бываў сярод людзей. І яшчэ я адзначыў бы мужнасць, з якой ён рэагуе на праблемы і шукае рашэнняў. <...>

*— Ці не здаецца Вам, што Ваш наступнік, можа, занадта імпэтны, занадта эксцэнтрычны?*

— (*Смяецца*). У кожнага чалавека свой тэмперамент. Адзін можа быць крыху больш стрыманы, другі крыху больш дынамічны, чым, здавалася б, павінен быць. Але я лічу, што такі непасрэдны яго кантакт з людзьмі — гэта добра. Канешне, цікава, як доўга ён зможа гэта вытрымаць, бо кожную сераду дзвесце альбо больш разоў паціснуць рукі і гэтак далей — такое каштуе шмат сілаў. Але пакінем гэта Богу. <...>

*— Ці бачыце Вы які-небудзь пералом у ацэнках Вашага Пантыфікату?*

— Не. Зразумела, можна даваць ілжывыя тлумачэнні некаторых момантаў, каб потым сказаць, што цяпер усё адбываецца інакш. Калі выцягваюцца асобныя моманты, то можна сканструяваць нешта супрацьлеглае, але трэба глядзець на справу ў сукупнасці. Магчыма, існуюць новыя акцэнты, гэта зразумела, але няма супрацьлегласці.

*— Ну і як, ці задаволены Вы служэннем папы Францішка да гэтага часу?*

— Так. Гэта новы павеў у Касцёле, новая радасць, новая харызма, якая падабаецца людзям, усё гэта цудоўна. <...>

*— У Вашай развітальнай прамове было выразна падкрэслена: «Я не пакідаю крыжа».*

— Так, хадзілі размовы, што нібыта я сышоў з крыжа, што хачу для сябе выгодаў. Гэта быў папрок, якога таксама трэба было чакаць. Перадусім мне давялося разабрацца з ім унутры сябе перш чым зрабіць такі крок. Я быў упэўнены, што гэта не былі ўцёкі, ва ўсялякім разе, не пад знешнім націскам; яго не было. Але таксама не было ўнутраных уцёкаў ад тых вымаганняў веры, якія прыводзяць чалавека да таямніцы крыжа. Наадварот, гэта іншы спосаб заставацца ў лучнасці з *церпячым* Езусам — у цішыні маўчання, у памнажэнні інтэнсіўнай малітвы за ўвесь Касцёл. У гэтых адносінах здзейснены мною крок быў не ўцёкамі, а толькі іншым спосабам заставацца верным свайму служэнню. <...>

*— Калі Вы потым адляталі на верталёце, знешне гэта выглядала як нейкая частка ўсёй гэтай драматургіі. Можна было б сказаць, што яшчэ ніводзін жывы Папа не «ўзышоў на неба»... (Папа смяецца). Якія ў Вас тады мільгалі думкі?*

— Гэта мяне вельмі ўзрушыла. Сардэчнасць развітання і тое, што на вачах супрацоўнікаў (*узрушаным голасам*) былі слёзы. Да таго ж над Домам *Pastor Bonus* быў вялікі надпіс *Vergelt's Gott* (*Божа, аддзяч!*) і званы Рыма (*Папа выцірае слёзы*). Усё гэта мяне вельмі ўзрушыла. У любым выпадку, лунаючы над горадам і слухаючы званы Рыма, я ведаў, што магу дзякаваць і што асноўны настрой — удзячнасць.

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

Паводле: *Benedikt XVI. Letzte Gespräche: Mit Peter Seewald, 2016.*

---

[1] Кніга *Benedikt XVI. Letzte Gespräche: Mit Peter Seewald* выйшла ў свет 9 верасня 2016 г. у нямецкім выдавецтве *Droemer HC*. Фрагменты з трэцяй кнігі Пэтэра Зэевальда «Святло свету» друкаваліся ў нашым часопісе (НВ, № 3, 2011; № 4, 2011; № 1, 2012).

[2] Габілітацыя (ням. *Habilitation*, ад лац. *habilis — здольны, прыдатны*) — у некаторых еўрапейскіх і азіяцкіх краінах працэдура атрымання вышэйшай акадэмічнай кваліфікацыі, наступнай пасля вучонай ступені доктара філасофіі. Пасля праходжання працэдуры габілітацыі прэтэндэнту прысвойваецца вучоная ступень габілітаванага доктара (лац. *doctor habilitatus, Dr. habil*.), якая дае права заняць прафесарскую пасаду ва ўніверсітэце.

[3] Ratzinger, J. *Einführung in das Christentum: Vorlesungen über das Apostolische Glaubensbekenntnis*; першае выданне выйшла ў свет у 1971 годзе. Фрагменты з кнігі «Уводзіны ў хрысціянства» ў перакладзе на беларускую мову друкаваліся ў часопісе «*Ave Maria*» ў 2009–2011 гадах.

[4] Мэйнстры́м (англ. *mainstream* — асноўная плынь) — пераважны кірунак у якой-небудзь галіне (навуковай, культурнай і інш.) для адпаведнага перыяду часу. Часта выкарыстоўваецца для азначэння «афіцыйных», масавых тэндэнцый у культуры, мастацтве.

[5] Добрае тлумачэнне тэрміна *Entweltlichung* (*размирщение*) дае адзін з найбуйнейшых даследчыкаў Новага Запавету ў ХХ ст. Рудольф Бультман: «„Размирщение" — гэта, па сутнасці, не аскеза, а захаванне дыстанцыі ў адносінах да свету. Пры гэтым усялякі ўдзел у свецкім здзяйсняецца з пазіцыі „як тыя, хто не" (1 Кар 7, 29–31)» (гл. Бультман, Р. *Избранное: Вера и понимание*. Т. І–ІІ / Пер. з ням. — Масква, 2004. — С. 16).

[6] *Coverstory* (амер.) — галоўны артыкул часопіса, ілюстрацыя да якога даецца на яго вокладцы.

[7] Вадэмекум (ад лац. *vade mecum — ідзі са мною*) — даведнік, кішэнны дапаможнік, паказальнік.

[8] Эон (грэц. αιών — *век, эпоха, вечнасць*) — у тэалогіі працяглы адрэзак часу ў гісторыі збаўлення, якому адпавядае пэўны пункт гледжання, але таксама вечнае мінулае або бязмежная будучыня.

[9] Мацэта (іт. *mozzetta*) – кароткая накідка, якая ахоплівае плечы і зашпіляецца на грудзях; з'яўляецца часткаю ўбрання каталіцкага духавенства (Папы Рымскага, кардыналаў, біскупаў і абатаў), яе колер адпаведны іерархічнаму сану таго, хто яе носіць.

[10] *Evangelii gaudium* («Радасць Евангелля») – першая апостальская адгартацыя папы Францішка, абвешчаная на заканчэнне Году веры 24 лістапада 2013 г. у Ватыкане.

СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША,
КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ
ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ,
КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ
ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ
І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ.
НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ПЕРШАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ПАЧУЦЦЯЎ

**У якой гаворыцца, што такое «*Цёмная ноч*» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць злучэння з Богам. У прыватнасці, гаворка будзе ісці пра «*цёмную ноч пачуццяў*» і жаданняў, пра шкоду, якую яны могуць нанесці душы.**

### РАЗДЗЕЛ 11

**У якім даводзіцца, што душа павінна пазбавіцца ўсіх жаданняў, нават самых нязначных, каб дасягнуць паяднання з Богам.**

1. Мне здаецца, што чытач ужо даўно хоча запытацца пра наступнае: каб дасягнуць стану паяднання з Богам, неабходна спачатку ўтаймаваць усе свае жаданні, вялікія і малыя, альбо толькі некаторыя з іх, не звяртаючы ўвагі на астатнія, прынамсі на тыя, якія не з'яўляюцца вельмі небяспечнымі. Бо здаецца, што гэта вельмі цяжкая справа для душы — дасягнуць такога ўзроўню чысціні і аголенасці, каб не мець ніякага жадання і ніякай прывязанасці да рэчаў.

2. І вось мой адказ: не ўсе жаданні перашкаджаюць душы і шкодзяць ёй аднолькавым чынам. Шкодзяць толькі жаданні волі, таму што натуральныя жаданні вельмі мала ці зусім не перашкаджаюць паяднанню з Богам, асабліва калі ім не паддавацца і калі воля не бярэ ў іх удзелу, ні спачатку, ні потым. У гэтым жыцці немагчыма пазбавіцца ад іх і ўтаймаваць іх цалкам, а тыя, што застаюцца, не могуць перашкодзіць душы, каб дасягнуць паяднання з Богам. Гэта адбываецца таму, што яны знаходзяцца ў ніжэйшай частцы прыроды чалавека, і найвышэйшая, гэта значыць душа, можа быць цалкам свабоднаю ад іх. Больш за тое, можа так здарыцца, што калі воля цалкам заглыбленая ў малітву Спакою, жаданні, якія знаходзяцца ў пачуццёвай частцы душы чалавека, не ўдзельнічаюць у духоўнай частцы, занятаю малітваю.

Але душа, якая прагне дасягнуць поўнага злучэння з Богам, павінна пазбавіцца і вызваліцца ад усіх іншых добраахвотных жаданняў: найцяжэйшых, звязаных са смяротным грахом; меней цяжкіх, звязаных з грахом штодзённым; ці ўвогуле нязначных, калі гаворка ідзе ўсяго толькі пра недасканаласці. Але душа павінна пазбавіцца ад усяго нават самага малога і спустошыцца, каб дасягнуць суцэльнага злучэння з Богам. Сэнс у тым, што гэтае злучэнне з Богам палягае на суцэльным перамяненні нашай волі ў волю Бога, калі ў ёй ужо няма нічога, што б пярэчыла волі Божай, а наадварот, усе яе памкненні — гэта памкненні выключна волі Божай.

3. І таму сцвярджаю, што ў гэтым стане паяднання з Богам ужо не існуюць дзве волі, а толькі адна — Божая, якая стаецца і воляю душы. Вось чаму, калі б душа пажадала нечага недасканалага, насуперак Божай волі, гэта значыць, што яна недастаткова паяднаная з Богам, бо душа прагне таго, чаго Бог не прагне. І таму зразумела, што, каб дасягнуць дасканалага

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

паяднання з Богам праз волю і любоў, душа павінна вызваліць сябе ад усялякага добраахвотнага жадання, нават найменшага. Для гэтага неабходна, каб воля свядома і разважліва не дазваляла б сабе ніякага памкнення да недасканаласці, каб дасягнуць такой моцы і свабоды, што можна было б адмовіцца ад недасканаласці адразу ж, як толькі яна яе заўважыць. Я сказаў *свядома і разважліва*, таму што калі душа не заўважае ці не распазнае адразу ж недасканаласць, яна ўпадае ў штодзённы грэх, паддаючыся прыродным жаданням, пра якія мы гаварылі. Пра гэтыя грахі, часта не добраахвотныя і нават міжвольныя, напісана, што справядлівы ўпадзе сем разоў у дзень і ўстане (гл. Прып 24, 16). Тут жа гаворка ідзе пра грахі добраахвотныя, якія могуць быць і штодзённымі грахамі, свядома зробленымі, хоць і самымі малымі. Дастаткова не змагчы толькі аднаго, каб перашкодзіць паяднанню з Богам. Тут я маю на ўвазе неўтаймаваны навык, бо калі жаданні ўтаймаваныя, які-небудзь асобны чын не можа пашкодзіць душы, нават калі і яго трэба пазбегнуць, бо ён паходзіць з недасканалага навыку. Але некаторыя звычкі паходзяць з недасканаласцяў добраахвотных, і калі іх не перамагчы, дык яны не толькі перашкодзяць паяднанню з Богам, але і не дазволяць ісці наперад па шляху ўдасканалення.

4. Звыклымі недасканаласцямі могуць быць наступныя: распаўсюджаная звычка шмат гаварыць; маленькая прывязанасць да нечага, якую душа ніяк не можа пераадолець, як, напрыклад, прывязанасць да нейкай асобы, да нейкай вопраткі, да сваёй келлі, да пэўнага харчу, да гутарак, да некаторых маленькіх задавальненняў, да ведаў і чутак ці іншага падобнага. Кожная з гэтых недасканаласцяў, да якіх прывязаная душа і якія перараслі ў звычку, становіцца вялікаю перашкодаю для ўзрастання ў цноце і руху наперад на шляху да дасканаласці. І больш за тое, яны з'яўляюцца значна істотнейшаю перашкодаю, чым мноства здзейсненых недасканаласцяў і асобных штодзённых грахоў, якія не паходзяць з кепскай звычкі пэўнага злога навыку. Асобныя падзенні не нашкодзяць душы так, як яе прывязанасць да пэўных рэчаў. І пакуль яна не вызваліцца ад гэтых недасканаласцяў, нават самых найменшых, яна не зможа пасунуцца наперад на шляху ўдасканалення. Без розніцы, якою вяроўкаю прывязаная птушка, тонкаю ці тоўстаю, бо яна так ці інакш знаходзіцца ў няволі і не зможа ўзляцець, пакуль не разарве вяроўку. Хаця будзе слушна заўважыць, што чым танчэйшая прывязь, тым лягчэй яе разарваць, але, не разарваўшы яе, птушка ніколі не ўзляціць. Такім самым чынам і душа, прывязаная да нечага, нават калі валодае мноствам цнотаў, ніколі не дасягне сапраўднай свабоды паяднання з Богам. Жаданне і прывязанасць душы падобныя да рыбы-прыліпалы, пра якую апавядаюць, што яна, нягледзячы на свой малы памер, прыліпае да днішча карабля і настолькі яго абцяжарвае, што перашкаджае ім кіраваць, каб даплысці да порта. І таму вельмі шкада бачыць такія душы, якія, нібы карабель, напоўненыя багаццем духоўных дзеянняў і практыкаванняў, цнотаў і Божай ласкаю, але, паколькі ім не хапае смеласці канчаткова пазбавіцца нейкага маленькага задавальнення, нейкай прывязанасці ці нейкага пачуцця — што па сутнасці адно і тое ж — яны ніколі не рухаюцца наперад і ніколі не змогуць дасягнуць порта дасканаласці. У той час, калі было б дастаткова ўсяго толькі ўзляцець, разарваць прывязь, да якой яны прычэпленыя, і канчаткова вызваліцца ад гэтай прыліпалы — жадання.

5. Вельмі балюча бачыць, што гэтыя душы, якія дзеля Божай любові пазбавіліся ад моцных канатаў прывязанасцяў да граху і да марнасцяў, не хочуць пазбавіцца, па Ягоным патрабаванні, ад нейкай дробязі, не большай за нітку ці волас, каб рушыць наперад. І з прычыны такой прывязанасці яны не толькі не рушаць наперад, але нават пачынаюць адступаць у тыл, губляючы ўсё тое, чаго яны дасягнулі і што перамаглі многімі гадзінамі працы. Мы ўжо ведаем, што на духоўным шляху той, хто не рушыць наперад, вяртаецца назад, і хто не крочыць перамагаючы, той крочыць губляючы. Наш Пан вучыць нас гэтаму, калі гаворыць: «*Той , хто не са Мною, той супраць Мяне, і хто не збірае са Мною, той губляе*» (гл. Мц 12, 30). Той, хто не клапоціцца, каб заляпіць маленькую расколіну ў гліняным гаршку, няхай не дзівіцца, калі згубіць увесь напой у ім. Таму добра таксама нас вучыць Эклезіяст: «*Хто не зважае на маленькія рэчы, паступова дойдзе да разбурэння*» (пар. Экл 19, 1), і ён жа гаворыць у іншым месцы: «*Дастаткова адной іскры, каб распачаўся пажар*» (гл. Экл 11, 34). Такім чынам, адной толькі недасканаласці дастаткова, каб прывабіць іншыя, а гэтыя апошнія спрычыняюцца да ўзнікнення наступных. І амаль ніколі

нельга спаткаць душу, якая, калі не дбае пра тое, каб перамагчы нейкае жаданне, не мела б мноства іншых недасканаласцяў, што паходзяць менавіта з яе ня-дбання і ўвесь час пагаршаюцца. Я знаёмы з многімі асобамі, якім Бог даў ласку, каб яны рушылі наперад у адарванасці і свабодзе духу, але, як толькі яны пачалі смакаваць і шукаць задавальненне ў размовах і сяброўствах, яны адразу пачалі губляць духоўную радасць ад зносінаў з Богам у святой адзіноце і паступова страцілі адчуванне радасці і цікавасці да духоўных практыкаванняў, і не спыніліся на гэтым, пакуль не страцілі ўсё. І гэта адбываецца таму, што яны не ўтаймавалі задавальнення і пачуццёвага жадання і не засталіся ў адзіноце перад абліччам Бога.

6. Той, хто хоча дайсці да канца гэтага шляху, павінен няспынна крочыць наперад і ніколі не спыняцца. Гэта азначае, што ён павінен нястомна працаваць, каб пазбавіцца жаданняў, а не падтрымліваць іх. Калі не пазбавішся іх, ніколі не дасягнеш мэты. І як дровы ніколі не ператвараюцца ў вогнішча, калі не хапае толькі аднаго градуса цяпла, гэтаксама і душа не пераменіцца ў Бога, калі мае адну толькі недасканаласць, нават найменшую ў параўнанні з добраахвотнымі жаданнямі. Як пазней будзе сказана ў *«Ночы веры»*, адбываецца гэта таму, што душа мае толькі адну волю, і калі яна забрудзіцца ці зоймецца чымсьці іншым, яна не зможа быць свабоднаю, самотнаю і чыстаю, каб Бог змог перамяніць яе.

7. Вобраз таго, пра што мы цяпер сказалі, знаходзіцца ў Кнізе Суддзяў (гл. Суд 2, 3), дзе апавядаецца, як анёл явіўся сынам Ізраэля і абвясціў ім, што, паколькі яны не знішчылі варожы люд, а, наадварот, заключылі з ім саюз, Бог пакіне сярод выбранага народу ворагаў, пакуль яны не стануць для яго прычынаю падзення і згубы. І Бог справядліва чыніць гэта з пэўнымі душамі. Ён забраў іх з гэтага свету, адарыў іх сваёю ласкаю, якой былі забітыя веліканы, гэта значыць грахі, знішчыў мноства іх ворагаў — ці падставаў для граху, якія яны мелі ў свеце. Усё гэта Ён зрабіў для таго, каб гэтыя душы ў вялікай свабодзе ўвайшлі ў Абяцаную зямлю паяднання з Богам. Аднак яны пачалі сябраваць і хаўруснічаць з людам, поўным недасканаласцяў, замест таго каб знішчыць яго. І таму наш Пан у гневе дазволіў, каб яны сталі здабычаю сваіх жаданняў.

8. У Кнізе Езуса Навіна (гл. Нав 6, 21) ёсць таксама вобраз сказанага. Калі габрэі амаль што ўвайшлі на Абяцаную зямлю, Бог паслаў Езуса Навіна і загадаў, каб габрэі цалкам знішчылі горад Ерыхон з усім, што ў ім знаходзілася, не пакідаючы нікога ў жывых, ні мужчыну, ні жанчыну, ні малога, ні старога, ні жывёліну, і не дазволіў нікому прысвоіць сабе ніводнай часткі здабычы. Гэтым самым Пан хоча сказаць нам, што, каб увайсці ў паяднанне з Ім, душа павінна знішчыць у сабе ўсе прывязанасці, якія жывуць у ёй, вялікія і малыя, многія і нешматлікія. Яна нават павінна вызваліцца ад самога жадання іх, адлучыцца ад іх, нібыта яны не існуюць для яе і яна не існуе для іх. Як добра вучыць нас святы Павел, калі піша да Карынцянаў: «*Я вам кажу, браты: час ужо кароткі, так што тыя, што маюць жонак, хай жывуць, як бы не мелі, і тыя, што плачуць, як бы не плакалі; і тыя, што радуюцца, як бы не радаваліся: і тыя, што купляюць, як бы не набывалі; і тыя, што карыстаюцца светам гэтым, як бы не карысталіся; бо праміне вобраз свету гэтага*» (гл. 1 Кар 7, 29–31). Гэта кажа нам Апостал, навучаючы, наколькі адарванаю ад усіх рэчаў павінна быць душа, калі яна прагне дасягнуць Бога.

## РАЗДЗЕЛ 12
### У якім даецца адказ на іншае пытанне і тлумачыцца, якіх жаданняў дастаткова, каб нашкодзіць душы.

1. Мы маглі б яшчэ шмат чаго сказаць пра *«Ночы пачуццяў»* у тым сэнсе, што шмат можна сказаць пра шкоду, якую наносяць душы жаданні, і якімі іншымі спосабамі, апроч тых, якія мы ўжо ўзгадалі. Але тое, што я хацеў сказаць, я ўжо сказаў. Мне падаецца, што я дастаткова прадэманстраваў, чаму ўмярцвенне называецца «ноччу» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць паяднання з Богам. Аднак перш чым апавядаць пра тое, як увайсці ў гэтую «ноч», неабходна ў якасці заключэння звярнуцца да некаторых пытанняў, якія могуць узнікнуць у чытачоў у сувязі з ужо сказаным.

2. Першае пытанне наступнае: ці дастаткова любога жадання, каб нанесці душы двайную шкоду: адмоўную, гэта значыць пазбавіць душу ласкі Божай, і станоўчую, гэта значыць спрычыніцца да пяці асноўных шкодаў, пра якія мы гаварылі. Другое пытанне: ці дастаткова любога жадання, нават самага найменшага і любога кшталту, каб яно справакавала ўсе пяць асноўных шкодаў разам, ці адно канкрэтнае жаданне прычыняе толькі адну канкрэтную шкоду, напрыклад, калі адно правакуе хваляванне, другое — стомле-

насць, іншае — душэўную цемру і гэтак далей.

3. На першае пытанне адкажу вось як: адмоўная шкода (гэта значыць, калі душа пазбаўляецца Бога) наносіцца толькі добраахвотнымі жаданнямі, якія вядуць да смяротнага граху, — адзінага, што можа пазбавіць душу Божай ласкі ў гэтым жыцці, а ў наступным жыцці — Божай хвалы, гэта значыць Валадарства Божага. На другое пытанне трэба адказаць, што, каб нанесці душы ўсе пяць шкодаў, разам узятых, дастаткова аднаго толькі добраахвотнага жадання, якое вядзе ці да смяротнага граху, ці да штодзённага граху, ці да недасканаласці. Нават калі ў выніку яны чыняць душы адмоўную шкоду, мы называем іх «станоўчымі», таму што яны скіраваныя на прывязанасць да стварэнняў, а «адмоўнымі» мы называем тыя, якія аддаляюць ад Бога. Паміж першымі і другімі ёсць розніца. Жаданні, якія вядуць да смяротнага граху, асляпляюць, мучаюць, забруджваюць і цалкам аслабляюць душу. Жаданні, якія вядуць да штодзённага граху ці недасканаласці, не прычыняюць душы зла ў найвышэйшай ступені, бо не пазбаўляць цалкам душу ласкі, але душа падпадае пад іх уладу (смерць ласкі Божай — гэта іх жыццё). Такія жаданні спрычыняюцца да змяншэння ласкі. Такім чынам, чым мацнейшае жаданне, тым больш яно аслабляе Божую ласку і тым самым павялічвае мучэнне, слепасць і нячыстасць душы.

4. Неабходна адзначыць, што нават калі любое жаданне наносіць душы ўсе пяць шкодаў, якія мы назвалі «станоўчымі», асобнае жаданне наносіць толькі адну канкрэтную шкоду, з якой потым вынікаюць усе астатнія. Сапраўды, пажадлівасць, напрыклад, з'яўляецца прычынаю ўсіх згаданых шкодаў, але асаблівым чынам і найбольш яна брудзіць душу і цела. Усе гэтыя сумныя рэчы вынікаюць з прагнасці, але найбольш яна спрычыняецца да душэўнага неспакою. Ганарыстасць правакуе ў душы ўсе благія вынікі, але непасрэдна і ў першую чаргу спараджае ў душы цемру і слепасць. І нават калі абжорства — прычына ўсяго благога, яно асабліва ахалоджвае практыкаванне ў цноце. І тое самае можна сказаць і пра іншыя.

5. Кожны чын добраахвотнага жадання наносіць душы ўсе шкоды разам, бо ён непасрэдна супрацьставіцца чыну цноты. І як з аднаго чыну цноты ў душы нараджаюцца разам мяккасць, спакой, суцяшэнне, святло, чысціня і моц, гэтак з аднаго толькі бязладнага жадання паўстаюць пакута, стомленасць, цяжар, слепасць і лянота. Усе цноты ўзрастаюць праз практыкаванне толькі адной з іх, і ўсе заганы ўзрастаюць у душы ўслед за ўзрастаннем толькі адной з іх. Нельга ўбачыць усіх наступстваў заганы ў момант задавальнення жадання, бо смакаванне, якое спазнае душа, не дазваляе гэтага. Але рана ці позна будуць адчувацца ўсе благія наступствы. Гэтую праўду вельмі добра тлумачыць раздзел з Адкрыцця (гл. Ап 10, 9–10), дзе святы Ян апавядае, як ён па загадзе анёла з'еў кнігу, смак якой быў вельмі салодкі, але пасля ён адчуў гаркоту ў вантробах. Гэтаксама і жаданне ў момант яго задавальнення здаецца вельмі прыемным і салодкім, і толькі потым адчуваеш усе яго горкія наступствы. І пра гэта вельмі добра можа ведаць той, хто паддаўся ўсім гэтым дрэнным схільнасцям. Нават калі існуюць такія асобы, настолькі сляпыя і нячулыя, што не адчуваюць гэтай горычы, бо яны не шукаюць Бога і таму не заўважаюць перашкодаў, што стаяць на шляху да Яго.

6. Я не буду спыняцца на прыродных жаданнях, і таму неўсвядомленых, на думках, што ўзнікаюць міжволі, і на іншых недазволеных спакусах, якія не спараджаюць у душы ніводнага названага зла. Калі асоба схільная да іх і яны выклікаюць у ёй на нейкі момант непамыснасць, то яна мяркуе, што забрудзілася ці аслепла. Але гэта не так. Наадварот, яны нараджаюць супрацьлеглыя вынікі ў душы, бо яна, змагаючыся з імі, набывае моц, чысціню, святло, суцяшэнне і шмат іншага дабра, паводле таго, як наш Пан абвясціў святому Паўлу: *цнота дасканаліцца праз слабасць* (гл. 2 Кар 12, 9). Добраахвотныя жаданні, наадварот, спараджаюць шмат благога, пра што мы ўжо гаварылі. Таму духоўныя настаўнікі клапоцяцца аб тым, каб іх духоўныя дзеці ўмярцвялі ўсе свае жаданні дзеля вызвалення ад усёй іх нікчэмнасці, а значыць ад усіх магчымых жаданняў.

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел V
## Эрас, або каханне

Кажучы «Эрас», я, зразумела, маю на ўвазе стан, які мы называем закаханасцю або, калі пажадаеце, такую любоў, якую адчуваюць адно да аднаго каханкі. Некаторых чытачоў магло здзівіць, што ў папярэднім раздзеле, апісваючы прыязнасць, я назваў яе любоўю, якая найбольш прыпадабняе нас да жывёлаў. Несумненна, магло ўзнікнуць пытанне: ці ў гэткай жа меры прыпадабняе нас да жывёлаў нашая сексуальнасць? Гэта праўда, калі гаворка ідзе пра чалавечую сексуальнасць у цэлым. Але я не збіраюся разглядаць гэтую тэму асобна. Сексуальнасць датычыць прадмета нашай размовы настолькі, наколькі становіцца часткаю складанага стану закаханасці. Мне падаецца несумненным, што сексуальны досвед можна атрымаць без Эрасу, без закаханасці, а Эрас можа складацца з многіх рэчаў, апроч праяваў сексуальнасці. Можна сказаць, што я імкнуся даследаваць не тую сексуальнасць, што яднае нас з жывёламі і з'яўляецца агульнаю для ўсіх людзей, а тую яе непаўторную, уласцівую толькі чалавеку варыяцыю, якая развіваецца ў каханні, — гэта я называю Эрасам. Пачуццёвую, жывёльна-сексуальную частку Эрасу я па старажытнай традыцыі буду называць Венераю. Венера — гэта сексуальнасць не ў нейкім патаемным незвычайным значэнні, якую мог бы на глыбокім узроўні вывучаць псіхатэрапеўт, а ў самым звыклым разуменні. Гэта тое, што лічаць сексуальным звычайныя людзі, абапіраючыся на ўласны досвед, тое, што можна прызнаць сексуальным па выніках самых простых назіранняў.

Сексуальнасць можа функцыянаваць і ў складзе Эрасу, і па-за ім. Паспяшаюся дадаць, што я адрозніў гэтыя рэчы толькі для таго, каб дакладней акрэсліць пытанне нашага даследавання і аддзяліць яго ад любых маральных высноваў. Я зусім не згодны з распаўсюджанаю думкаю, што менавіта адсутнасць або наяўнасць Эрасу чыніць сексуальны акт «нячыстым» або «чыстым», нізкім або ўзвышаным, незаконным або законным. Калі б усе выпадкі, у якіх людзі клаліся ў адзін ложак без Эрасу, былі нягоднымі, кожны меў бы плямы ў генеалогіі. Рэдка ў якую эпоху і рэдка дзе заключэнне сужэнства залежала ад кахання нарачоных. Большасць нашых продкаў заключала шлюб у ранняй маладосці, бацькі выбіралі сваім дзецям жаніха або нявесту па прычынах, якія не мелі нічога агульнага з каханнем. У сужэнскім ложку яны не натхняліся нічым іншым, як, проста кажучы, звычайнымі жывёльнымі інстынктамі. І ў гэтым не было нічога нячыстага, яны заставаліся праведнымі хрысціянамі, мужамі і жонкамі, якія паслухаліся сваіх бацькоў, выконвалі свой «сужэнскі абавязак» і гадавалі дзяцей у боязі Божай. І наадварот, гэты самы сужэнскі акт, здзейснены на ўздыме пачуццяў і ў вясёлкавым ззянні кахання, калі ніякія развагі амаль не бяруцца ў разлік, можа стаць сапраўдным чужаложствам, у выніку якога сэрца жонкі застаецца разбітым, муж — падманутым, сябра адчувае, што яму здрадзілі, гасціннасць адчувае зняважанасць, дзеці — пакінутасць. Адрозненне паміж грахом і абавязкам не можа, паводле Божай волі, палягаць на адных толькі пачуццях. Сексуальны акт, як і ўсё іншае, апраўдваецца або не апраўдваецца адпаведна з нашмат больш празаічнымі і дакладнымі крытэрыямі: стрымліваннем або парушэннем абяцанняў, справядлівасцю або несправядлівасцю, міласэрнасцю або эгаізмам, паслухмянасцю або непаслухмянасцю. Я не даследую тут сексуальнасць саму па сабе, без Эрасу, не з прычынаў маральнасці, а проста таму, што не стаўлю перад сабою такой мэты.

Прыхільнік тэорыі эвалюцыі будзе лічыць, што Эрас (чалавечая яго праява) вырастае з Венеры і развіўся даволі позна, ускладніўшы спрадвечны біялагічны інстынкт. Аднак нельга сцвярджаць, што менавіта гэта абавязкова адбываецца ў свядомасці кожнага індывіда. Магчыма, спачатку мужчына адчуў сексуальны голад па жанчыне, а пасля пакахаў яе. Але, на маю думку, гэтак бывае не заўжды. Найчасцей спачатку ўзнікае асалода захаплення Каханаю — агульнае, неакрэсленае захапленне асобаю ў цэлым. Закаханы мужчына сапраўды не мае і хвіліны, каб думаць пра секс. Усе яго думкі занятыя каханаю асобаю. Тое, што яна з'яўляецца жанчынаю, менш важна за тое, што яна з'яўляецца самою сабою. Закаханы мужчына поўны жадання, але гэтае жаданне можа не быць звязаным з сексуальнасцю. Калі запытацца ў закаханага, чаго ён жадае, праўдзівы адказ часта будзе такі: «Працягваць думаць пра яе». Яго каханне — сузіральнае. Калі ж з цягам часу ў ім абудзіцца пажадлівасць, закаханы і не падумае (калі не паддасца ўплыву розных навуковых тэорый), што менавіта ў гэтым была ўся справа. Ён хутчэй палічыць, што хваля пачуцця, якая залівае яго, знішчыўшы шмат пясчаных замкаў і ператварыўшы мноства скалаў у астравы, нарэшце дабралася і да гэтай часткі яго натуры, магутным высачэзным валам зачапіўшы тую лужынку сексу-

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

альнасці, якая плёскалася на беразе да таго, як яе накрыла прылівам. Эрас, як захопнік, уваходзіць у ягоныя землі, пачынае валадарыць у іх і змяняць адну за адной усе ўстановы заваяванай краіны. Далёка не адразу ён можа дабрацца да сексуальнасці, а дабраўшыся, змяняе і яе таксама.

Ніхто яшчэ не здолеў апісаць прыроду гэтых зменаў дакладней і выразней за Джорджа Оруэла, які сам ставіўся да іх непрыхільна, аддаючы перавагу сексуальнасці ў яе прыродным стане, незакранутым Эрасам. Жудасны герой рамана «1984» (нашмат менш падобны да чалавека, чым чатырохлапыя героі цудоўнай «Фермы»!) перад тым, як авалодаць гераіняй, патрабуе ад яе пацвярджэння: «Табе падбаецца гэтым займацца? Я маю на ўвазе не менавіта са мною, а наогул, сам працэс». Ён не задавольваецца, пакуль не атрымлівае адказ: «Я ад гэтага ў захапленні». Маленькі дыялог дакладна паказвае сутнасць зменаў, якія прыносіць каханне. Сексуальнае жаданне без Эрасу імкнецца да «самога працэсу», Эрас жа імкнецца да каханай асобы.

«Працэс» прыносіць асалоду пачуццям, гэта тое, што адбываецца з чалавечым целам. Мы вельмі няўдала гаворым пра мужчыну, які бадзяецца па вуліцах у пошуках любоўных прыгодаў: «Яму патрэбная жанчына». Строга кажучы, акурат жанчына яму і не патрэбна. Яму патрэбная асалода, для атрымання якой неабходная жанчына ў якасці абсталявання. Тое, як мужчына ставіцца да самой жанчыны, можна ацаніць па яго стаўленні да партнёршы праз пяць хвілін пасля любошчаў (ніхто не трымае пры сабе пусты пачак пасля таго, як выкурыў усе цыгарэты). Эрас жа змушае мужчыну жадаць не проста жанчыну, а адну адзіную жанчыну. Неяк таямніча, але неаспрэчна атрымліваецца, што закаханаму патрэбная яго каханая, а не асалода, якую яна можа даць. Ніводзін закаханы ў свеце не шукае абдымкаў каханай жанчыны таму, што нейкім чынам, хоць бы і падсвядома, падлічыў, што яе абдымкі будуць прыемнейшыя, чым у любой іншай жанчыны. Задаўшыся гэтым пытаннем, ён, несумненна, будзе спадзявацца, што так і ёсць. Але задаць сабе такое пытанне — значыць выйсці па-за межы закаханасці, Эрасу. Я ведаю толькі аднаго чалавека, які ўзнімаў гэтую тэму — Лукрэцыя — і ён дакладна не быў тады закаханы. Яго развагі цікавыя. Строгі эпікурэец лічыў, што каханне перашкаджае атрымліваць задавальненне ад сексу, адцягвае на сябе ўвагу. Яно псуе здольнасць да халоднага і разборлівага смакавання. (Вялікі паэт, але ж, «Божа, што за пачварныя людзі былі тыя рымляне!»)[35]

Чытач заўважыць, што Эрас цудоўным чынам ператварае чыстую асалоду-патрэбу ў найвышэйшага кшталту асалоду-ацэнку. У прыродзе асалоды-патрэбы — паказваць нам аб'ект жадання толькі ў той меры, у якой гэта датычыць нашай патрэбы, можна сказаць — імгненнай патрэбы. Але калі з'яўляецца Эрас, нават наймацнейшая патрэба выразна ўспрымае свой аб'ект як цудоўны сам па сабе, важнейшы нашмат больш, чым ён суадносіцца з патрэбамі закаханага.

Калі б мы не перажывалі нічога падобнага, а заставаліся толькі тэарэтыкамі, то маглі б збянтэжыцца, не разумеючы, як гэта: жадаць самога чалавека ў адрозненне ад асалоды, выгодаў, паслугаў, якія ён можа даць. Гэта сапраўды цяжка растлумачыць. Самі закаханыя спрабуюць выказаць гэта (атрымліваецца не вельмі дакладна), прызнаючыся, што жадаюць «з'есці» адно аднаго. Мільтан выказаўся больш удала, дапусціўшы, што анёлы, целы якіх створаныя са святла, могуць цалкам пранікаць адно ў аднаго, у той час калі мы можам толькі абняцца. Чарльз Уільямс[36] сказаў: «Ці я кахаю цябе? Я *і ёсць* ты».

Без Эрасу сексуальнае жаданне, як і любое іншае, датычыць выключна нас саміх. У прасторы Эрасу яно датычыць хутчэй каханай асобы. Яно амаль становіцца спосабам успрымання і ў поўнай меры становіцца спосабам выяўлення пачуццяў. Яно нібыта набывае ўласную форму, становіцца нечым рэальным, што існуе па-за нашай істотай. Таму Эрас, кароль усіх асалодаў, у найвышэйшай сваёй праяве заўсёды ставіцца да ўласна задавальнення як да пабочнага прадукту. Думаць пра яго — значыць ізноў заглыбіцца ў сябе, вярнуцца ў межы ўласнай нервовай сістэмы. Гэта заб'е каханне, як можна «забіць» найцудоўнейшы горны краявід, абмежаваўшы яго прастораю ўласнай сятчаткі і вочных нерваў. І ў любым выпадку, пра чыё задавальненне ідзе гаворка? Эрас адною з першых сцірае розніцу паміж паняццямі «даваць» і «атрымліваць».

Да гэтага часу я спрабаваў займацца проста апісаннем, а не ацэнкаю. Але пэўныя маральныя пытанні непазбежна ўзнікаюць, і я не магу хаваць свайго погляду на іх. Я проста падзялюся меркаваннем, не навязваючы яго як адзіна праўдзівае, і няхай мяне паправяць лепшыя за мяне людзі, лепшыя хрысціяне, здольныя лепш любіць.

У мінулым была шырока распаўсюджаная думка, якую і цяпер падтрымлівае мноства наіўных людзей: маўляў, духоўная небяспека кахання амаль цалкам узнікае з яго цялеснага складніку, і Эрас становіцца «шляхетнейшым» і «чысцейшым», калі ўплыў Венеры на яго мінімальны. Старэйшае пакаленне тэолагаў маралі лічыла, што ў сужэнстве мы найчасцей павінны асцерагацца, каб не паддацца сваім пачуццям і не загубіць гэтым душу. Аднак трэба заўважыць, што Святое Пісанне падыходзіць да гэтага інакш. Святы Павел, адгаворваючы нованавернутых хрысціянаў ад сужэнства, нічога не кажа пра пачуццёвы аспект праблемы, толькі заклікае не ўхіляцца доўга адно ад аднаго (гл. 1 Кар 7, 5). Ён баіцца, што сужэнцы будуць занадта заклапочаныя, будуць імкнуцца няспынна дагаджаць адно аднаму, і разнастайныя хатнія справы забяруць на сябе ўсю ўвагу. Хутчэй само сужэнства, а не сужэнскі ложак перашкаджае нам заўжды заставацца слугамі Божымі. Дык святы Павел усё ж мае рацыю? Па ўласным досведзе я суджу, што, незалежна ад таго, у сужэнстве чалавек ці не, найбольш нам замінаюць практычныя і звычайныя жыццёвыя клопаты, асабліва самыя дробныя і самыя простыя з іх. Камарыная хмара нязначных турботаў і рашэнняў,

як распланаваць наступную гадзіну, перашкаджала мне ў малітве часцей, чым якая жарсць або пачуццё. Найбольшая і заўсёдная спакуса ў сужэнстве — не пачуццёвыя прагненні, а прагавітасць і хцівасць. З усёю павагаю да настаўнікаў Сярэднявечча, я не магу не ўзгадваць, што ўсе яны жылі ў цэлібаце і, магчыма, не ведалі, як Эрас уплывае на нашую сексуальнасць: не абвастрае, а заспакойвае навязлівы і пакутлівы голад пажадлівасці. Эрас не проста насычае пачуцці, а, не змяншаючы жадання, робіць устрыманасць лягчэйшаю для закаханых. Вядома, Эрас імкнецца выклікаць захопленасць каханаю асобаю, што можа стаць перашкодаю ў духоўным жыцці, але гэтая захопленасць не цалкам завязаная на пачуццёвасці.

Я лічу, што сапраўдная духоўная небяспека Эрасу заключаецца зусім у іншым. Да гэтага я яшчэ вярнуся, а цяпер мне хацелася б сказаць пра небяспеку, якая, на маю думку, асабліва моцна пагражае любоўнаму акту ў нашыя часы. У гэтым пытанні я не тое каб пярэчу іншым людзям (зусім не), але не згаджаюся з меркаваннем многіх тых, хто прамаўляе ад імя іншых людзей. Мне здаецца, што яны навязваюць усім нам занадта сур'ёзнае стаўленне да Венеры, прынамсі, гэта неадпаведная сур'ёзнасць. Колькі я жыву, столькі назіраю, як недарэчна і пампезна сексу надаецца характар урачыстай цырымоніі.

Адзін аўтар сцвярджае, што Венера павінна задаваць сужэнскаму жыццю «ўрачысты і сакральны рытм». Юнак, якому я сказаў, што раман, які яму так моцна падабаецца, «парнаграфічны», быў збіты з панталыку: «Парнаграфічны? Ну як жа? Там усё апісваецца так сур'ёзна». Быццам посны твар можа служыць маральным дэзінфектарам. Нашыя сябры, якія туляць у сваім розуме цёмных багоў, прыхільнікі ідэі «моцы крыві», усур'ёз спрабуюць аднавіць нешта накшталт фалічнага культу. Рэклама, ціснучы на рычагі нашай сексуальнасці, малюе справу як узнясенне на нябёсы, бездань пачуццяў, рэлігійны экстаз з рэдкім намёкам на весялосць. Псіхолагі так замучылі нас сваім прапаведаваннем таго, якое бясконца важнае значэнне мае поўная сексуальная сумяшчальнасць і наколькі немагчыма дасягнуць яе ў ідэальнай ступені, што — я гатовы паспрачацца — некаторыя маладыя пары прыступаюць да справы, толькі калі ложак абкладзены поўнымі зборамі твораў Фрэйда, Крафт-Эбінга, Хэўлака Эліса і доктара Стоўпс[37]. Стары весялун Авідзій, які, не ігнаруючы муху, не робіць, аднак, з яе слана, будзе больш дарэчным. Мы дайшлі ўжо да таго стану, калі нішто не дапаможа больш за гучны старамодны смех.

Аднак, скажуць мне, гэта ўсё сапраўды сур'ёзна. Так, і нават вельмі сур'ёзна, па чатырох прычынах. Найперш, з пазіцыі тэалогіі, з прычыны ролі цялеснасці ў сужэнстве, якое, па Божай волі, містычна ўвасабляе саюз Бога і чалавека. Другую прычыну я б адважыўся назваць субхрысціянскаю або язычніцкаю, або прыродна сакрамэнтальнаю, бо гэта ўдзел чалавека і праяўленне праз нас натуральнай сілы жыцця і плоднасці — саюз неба-айца і зямлі-маці. Трэцяя прычына датычыць маральнасці, тых абавязкаў, якія ўскладаюцца на нас, і невымернай важнасці нашай ролі як бацькоў і продкаў. І яшчэ гэта сур'ёзна (час ад часу, не заўжды) з той прычыны, што выклікае ва ўдзельнікаў вельмі сур'ёзныя эмоцыі.

Але ежа — гэта таксама сур'ёзна. З пазіцыі тэалогіі — бо мы кормімся святой Камуніяй; этыкі — бо мы абавязаныя накарміць галоднага; сацыялогіі — бо стол спрадвеку з'яўляецца месцам сустрэчаў і размоваў; медыцыны — пра што засведчаць усе хворыя на страўнік. Аднак мы не прыносім з сабою на абед афіцыйных даведнікаў і не паводзім сябе за сталом, як у святыні. Калі хто гэтак і робіць, то яны хутчэй гурманы, а не святыя. Жывёлы заўжды сур'ёзна ставяцца да харчавання.

Нельга з поўнаю сур'ёзнасцю ставіцца да Венеры. Гэта і немагчыма зрабіць, не гвалцячы ўласную прыроду. Менавіта таму ўсе сусветныя мовы і літаратуры поўныя жартаў на тэму полу. Многія з гэтых жартаў бываюць нудныя або брыдкія, і ўсе яны без вынятку «барадатыя». Але трэба згадзіцца, што ў іх выяўляецца такое стаўленне да Венеры, якое ў рэшце рэшт нашмат менш пагражае хрысціянскаму жыццю, чым набожная сур'ёзнасць. Мы не павінны імкнуцца знайсці абсалют у цялесным. Прагоніце з сужэнскага ложка смех і гуллівасць, і там вызваліцца месца для падманнага боства. Нават больш падманнага, чым грэцкая Афрадыта, бо грэкі, нават спяваючы багіні хваласпевы, называлі яе «тою, што любіць смех». Людзі ў большасці зусім не памыляюцца ў сваім перакананні, што каханне — у нечым смешная рэч. Мы зусім не павінны выконваць усе нашыя любоўныя дуэты ў манеры Трыстана і Ізольды, дрыготкімі галасамі апяваючы каханне «на вечныя вякі» і «разбітае сэрца». Давайце часцей спяваць пра каханне так, як гэта робяць Папаген і Папагена, каханкі з «Чароўнай флейты».

Калі мы прымаем за чыстую манету сур'ёзнасць (выпадковую) усяго, што датычыць кахання, Венера сама жудасна адпомсціць за гэта. Забаўна, хоць і не жадаючы таго, распавёў пра гэтую помсту сэр Томас Браўн[38], сказаўшы, што служэнне ёй — «самае вялікае глупства ў свеце, якое чыніць мудры чалавек, і нішто мацней не засмуціць яго цвярозае ўяўленне, калі ён разважыць, якою недарэчнаю і нявартаю дурасцю займаўся». Найперш, не выказваючы каханню такой урачыстай павагі, чалавек не адчуў бы пакутнага засмучэння. Калі б яго ўяўленне не рухалася ў памылковым кірунку, то ў «цвярозым» стане яно не перажывала б такой моцнай рэакцыі адчужэння. Але помста Венеры бывае і горшаю.

Яна сама — гарэзлівы і свавольны дух, хутчэй эльф, чым боства, яна кпіць з нас і гуляе з намі. Калі ўсе абставіны спрыяюць таму, каб закаханыя аддаліся на волю жарсці, тады адзін ці абое аказваюцца зусім да гэтага не ахвочыя. Калі ж нельга адкрыта праявіць свае пачуцці і нават позіркамі ніяк не абмяняцца — у цягніках, крамах, падчас

бясконцых свецкіх раутаў — гарачая жарсць змушае кроў закіпаць у жылах. Праз якую гадзіну, калі і час, і месца адпавядаюць, жарсць чароўным чынам некуды знікае, прынамсі, у аднаго з дваіх. Як жа гэта бянтэжыць тых, хто абагаўляў Венеру, як мучаць іх абурэнне, самашкадаванне, сумневы, параненыя амбіцыі і ўсё іншае, што цяпер называюць модным словам «фрустрацыя»! Але закаханыя, якія не страцілі здаровага розуму, толькі пасмяюцца. Гэта частка любоўнай гульні — гульні ў сляпога ката, калі бегатню, спатыканні, сутыкненні ілбамі трэба ўспрымаць як вясёлую валтузню.

Я не магу не думаць пра тое, як Бог пажартаваў, непарыўна звязаўшы каханне, — такое ўзнёслае і звышнатуральнае пачуццё — з чыста цялесным жаданнем, што, як і ўсе іншыя прагненні, наўпрост залежыць ад празаічных жыццёвых фактараў: надвор'я, здароўя, харчавання, стрававання, кровавароту. На крылах Эрасу мы ўзлятаем да нябёсаў, Венера раптоўна торгае нас уніз, каб нагадаць, што мы — толькі паветраныя балонікі на вяровачках. Гэта няспыннае сведчанне той праўды, што людзі — складана створаныя істоты, разумныя жывёлы, з аднаго боку, роднасныя анёлам, а з іншага — катам. Дрэнна, калі мы не разумеем жартаў. Горш, калі не разумеем Божых жартаў, якія, паверце, хоць і чыняцца за наш кошт, але, несумненна, служаць нашаму бясконцаму дабру.

У людзей склаліся тры погляды на ўласнае цела. Па-першае, ёсць такія аскетычныя язычнікі, якія назвалі цела вязніцаю, або «магілаю» для душы, і хрысціяне, такія, як Фішар[39], для якіх яно — «мех з гноем», ежа для чарвякоў, бруднае і вартае сораму, крыніца спакусаў для благіх людзей і выток прыніжэння для добрых, а больш нічога. Па-другое, ёсць неаязычнікі (якія, аднак, рэдка валодаюць грэцкаю моваю), нудысты і пацярпелыя ад цёмных багоў, якія праслаўляюць усё цялеснае. Па-трэцяе, ёсць думка, якую выказваў святы Францішак, называючы сваё цела «братам Аслом». Магчыма, я асабіста не ўпэўнены, усе тры погляды ў нечым правамерныя, але мне найбліжэй святы Францішак.

Асёл — найлепшы прыклад, бо ніхто ў здаровым розуме не будзе пакланяцца аслу і не будзе яго ненавідзець. Гэта карысная, цягавітая, лянівая, упартая, цярплівая жывёліна, якая раптам выклікае замілаванне, а раптам раз'юшвае, раптам заслугоўвае пугі, а раптам морквы. Яго прыгажосць адначасова кранальная і недарэчная. Гэтак жа і цела. Немагчыма ўжыцца з ім, не зразумеўшы, што адно з прызначэнняў цела — быць нашым блазнам, камедыянтам. Кожны мужчына, жанчына і дзіця разумеюць гэта, пакуль нейкая тэорыя не саб'е іх з панталыку. Насамрэч, тое, што ў нас ёсць целы — найстарэйшы жарт у свеце. Эрас (гэтак жа, як смерць, мастацтва і вывучэнне медыцыны) часам змушае нас ставіцца да цялеснага вельмі сур'ёзна. Але нельга рабіць з гэтага памылковую выснову, што каханне — заўжды такое і ў ім не дапускаюцца ніякія жарты. Усё зусім інакш. Пра гэта добра сведчаць самі твары шчаслівых закаханых. Яны, калі толькі іх каханне не мімалётнае, зноў і зноў перажываюць у цялесных праявах Эрасу не толькі праявы камедыі, гульні, а нават і буфанады. Калі не, тады цела стане прычынаю іх расчаравання. Яно — занадта нязграбны інструмент, каб выконваць на ім любоўную мелодыю, хіба што, саму гэтую нязграбнасць успрымаць як тое, што дадае ўсяму досведу кахання нейкую асаблівую гратэскавую прывабнасць. Гэта падобна да пабочнай сюжэтнай лініі, камічнай пантамімы, калі падчас інтэрмедыі ў вясёлай грубаватай і мітуслівай манеры нам паказваецца тое, што велічна разыгрывае на сцэне душа. (Гэткім жа чынам у старых камедыях лірычнае каханне героя і гераіні адначасова парадзіруецца і падмацоўваецца нашмат больш прыземленаю інтрыжкаю Бруска і Одры[40], лёгкая і пакаёўкі.) Вышэйшае не бывае без ніжэйшага. Зразумела, у пэўныя моманты і цела напаўняе высокая паэзія, але, дазвольце адзначыць, што адтуль немагчыма прыбраць непадатлівую і недарэчную непаэтычнасць. Яна праявіцца калі не ў адной сітуацыі, дык у іншай. Лепш ужо напрамую ўключыць гэтую непаэтычнасць ў драму кахання як жартаўлівы перапынак, чым рабіць выгляд, што мы не заўважаем яе.

Рэч у тым, што гэты перапынак нам патрэбны. Ёсць і паэзія, і не паэзія, цяжкасць кахання і яго лёгкасць, *gravis ardor* — спальванне цяжару жарсці. Задавальненне, даведзенае да крайнасці, б'е і працінае, як боль. Прагненне паяднання, якое можна задаволіць толькі цялесна, і спаўненне якога сама цялеснасць і нашы ўзаемна аддзеленыя целы, робяць назаўсёды недасяжным, можа мець веліч метафізічнага пошуку. Каханне, як і гора, можа выклікаць слёзы. Венера не заўжды прыходзіць «шалёна, учапіўшыся ў сваю здабычу», як пісаў Расін[41], але той факт, што яна можа такою быць, тлумачыць, чаму варта заўжды захоўваць нейкую кроплю гарэзлівасці ў сваім стаўленні да яе. Калі натуральныя рэчы прэтэндуюць на боскасць, значыць недзе побач ужо хаваецца д'ябал.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*

Паводле: «*The Four Loves*», *C. S. Lewis*, 1958.

*Працяг будзе.*

---

[35] Цытата з рамана «Прыгоды Пэрэгрына Пікла» (*The Adventures of Peregrine Pickle*, 1751) шатландскага пісьменніка Тобіяса Джорджа Смолета (*Tobias George Smollett*, 1721–1771).

[36] Чарльз Уільямс (*Charles Williams*, 1886–1945) — брытанскі паэт, раманіст, драматург, літаратурны крытык, тэолаг. Разам з К. С. Льюісам быў чальцом літаратурнага таварыства «Інклінгі» ў Оксфардзе.

[37] Навукоўцы і даследчыкі чалавечай сексуальнасці, распрацоўшчыкі сексалогіі як навуковай дысцыпліны.

[38] Сэр Томас Браўн (*sir Thomas Browne*, 1605–1682) — англійскі эрудыт і даследчык эпохі Барока, вядомы сваімі пісьмовымі працамі на розныя тэмы навукі, медыцыны, рэлігіі.

[39] Джон Фішар (*John Fisher*, каля 1456–1535) — англійскі біскуп, тэолаг і палітык, паплечнік Томаса Мора, прыяцель Эразма Ратэрдамскага. Як мучанік прыняў пакаранне смерцю, адмовіўшыся прызнаць караля Генрыха VIII кіраўніком царквы ў Англіі. Кананізаваны ў 1935 годзе.

[40] Брусок і Одры — блазан і сялянка, героі камедыі Шэкспіра «Як вам спадабаецца».

[41] Расін, «Федра», акт 1, сцэна 3.

Марына Пашук

# СПРАВЯДЛІВЫ ЭНОХ



Герард Коэт (Gerard Hoet). «Эноха пераносяць на неба». Ілюстрацыя да кнігі «Біблія і яе гісторыя» Чарльза Хорна, 1909 г.

Энох, або Гэнох (габр. חֲנוֹךְ [ḥănôḵ], гр. Ενωχ) – гэта імя трох згаданых у Старым Запавеце постацяў. Паводле генеалогіі, у якой Каін з'яўляецца старэйшым сынам Адама (Быц 4, 17–18), гаворка ідзе пра Эноха, які быў сынам Каіна і айцом Ірада. Яго імем Каін назваў горад, які сам заснаваў[1]. Паводле іншай генеалогіі, у якой першым сынам Адама быў Сэт, гаворыцца пра сёмага патрыярха, патомка Адама і Евы ў 7-м пакаленні, а менавіта — пра нашчадка Сэта, сына Ерэда і айца Мэтушэляха, прадзеда Ноя (*Быц* 5, 18-24; *1 Кр* 1, 3; *Лк* 3, 37)[2]. У іншых фрагментах (*Быц* 46, 9; *Ліч* 26, 5; *Зых* 6, 14; *1 Кр* 5, 3) Энох згадваецца як сын Рубэна, першынца Ізраэля.

З імем героя з Кнігі Быцця (5, 18–24) звязана багатая традыцыя, якая ўзнікла ў юдаізме на мяжы эпохаў і шырока распаўсюдзілася ў хрысціянстве.

Імя Энох паходзіць ад паўночна-семіцкага кораня *ḥnk*, што азначае 'распачаць, пачаць, увесці', а таксама звязана з назоўнікам *ḥēn* 'паднябенне'. Згадваюць таксама і іншае значэнне імя – 'заснавальнік', бо з Энохам звязана заснаванне першага горада (*Быц* 4, 17).

**Марына Пашук** – доктар біблійнай тэалогіі, супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993) і Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998), Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (2016).

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што імя паходзіць ад габр. *ḥānak* ‘асвячаны, утаямнічаны’[3], што пацвярджае апакрыфічную традыцыю пра Эноха, які пазнаў таямніцы сусвету.

Энох быў чалавекам богабаязным і справядлівым, які «*жыў у сяброўстве з Богам*» (*Быц* 5, 22), а калі перакласці даслоўна – ‘хадзіў з Богам[4], прагульваўся з Богам’ (וַיִּתְהַלֵּךְ חֲנוֹךְ אֶת־הָאֱלֹהִים), што сведчыць пра асаблівыя адносіны, якія існавалі паміж Богам і Энохам[5], пра яго пабожнае і святое жыццё і яго вялікую любоў да Бога[6].

Старазапаветнае апавяданне пра Эноха вельмі кароткае і таямнічае. Ён жыў у такім вялікім сяброўстве з Богам, што не спазнаў смерці і быў забраны ў неба (*Быц* 5, 22; *Гбр* 11, 5), маючы 365 гадоў. Яго жыццё значна карацейшае за жыццё яго продкаў па лініі Сэта, але ў лічбе пражытых гадоў Эноха лёгка заўважыць сімвалічнае аднясенне да колькасці дзён сонечнага году – 365.

Нічога не вядома пра смерць Эноха, пра яго апошнія дні на зямлі, сказана толькі, што ён «*знік* [або: *не стала яго*], *бо забраў* (габр. *lāqaḥ*) *яго Бог*» (*Быц* 5, 24). Гэта значыць, што Энох быў выключаны з агульнага лёсу тых, хто падлягаў смерці, а менавіта з целам быў забраны ў неба[7], і «*не было іншага, такога як Энох, сярод створаных на зямлі, бо ён быў узняты з зямлі*» (*Сір* 49, 14). Кніга Сіраха не шкадуе слоў пахвалы: «*Энох падабаўся Богу і быў перанесены (забраны ў рай) як прыклад навяртання для пакаленняў*» (*Сір* 44, 16).

Богабаязнае жыццё Эноха супрацьпастаўляецца жыццю 7-га пакалення нашчадкаў Каіна, якое зграшыла праліцём крыві (*Быц* 4, 23-24). Яго постаць асабліва вылучаецца сярод справядлівых асобаў Старога Запавету як прыклад старазапаветнай святасці. Кніга Мудрасці, хоць і не называе імя Эноха, аднак вельмі ўзнёсла кажа пра тое, што ён атрымаў ва ўзнагароду несмяротнасць, якую Бог абяцае справядлівым: «*Паколькі спадабаўся Богу, знайшоў Яго любоў і, жывучы сярод грэшнікаў, быў перанесены*» (*Мдр* 4, 10)[8].

Постаць Эноха з прычыны сваёй таямнічасці захапляла не толькі юдэяў і хрысціянаў, але таксама мусульманаў, якія лічылі Эноха адным са святых прарокаў ісламу. Пра яго няма падрабязнай інфармацыі на старонках Старога Запавету, толькі кароткія згадкі, і гэта абуджае вялікую зацікаўленасць, спробы што-небудзь дасказаць. Папулярнасць яго постаці прычынілася да ўзнікнення многіх апокрыфаў, названых яго іменем. Паколькі ён быў сябрам Бога, лічылася, што ён ведаў шмат Ягоных таямніцаў, а таму мог быць аўтарам апакрыфічных кніг. У апакаліптычна-апакрыфічнай літаратуры Энох паказаны як справядлівы, вучоны, мудры муж, які пазнаў таямніцы стварэння і будовы сусвету, яго мінулае і будучыню, а таксама як той, хто мае анёльскія рысы. З іменем Эноха звязаныя астралагічныя і астранамічныя адкрыцці, а свае веды, атрыманыя ад анёлаў, ён перадаў свайму сыну Мэтушэляху.

Сярод апокрыфаў, якія носяць яго імя, ёсць тры Кнігі Эноха. Найбольш папулярнай і найчасцей цытаванай з’яўляецца І Кніга Эноха з ІІ ст. да Н. Х. (вядомая таксама як эфіопская Кніга Эноха)[9]. Яна з’яўляецца кампіляцыяй шэрагу больш старажытных тэкстаў, прадстаўленых у Кнізе ў 5-ці частках: Кніга Чуваючых, Кніга Прыпавесцяў, Астранамічная Кніга, Кніга Сноў Эноха, Ліст Эноха. ІІ Кніга Эноха, што паходзіць прыблізна з І ст. пасля Н. Х. (вядомая як славянская Кніга Эноха, або Кніга справядлівага Эноха), захавалася да нашых дзён толькі ў стараславянскіх манускрыптах з XIV ст. пасля Н. Х.[10] ІІІ Кніга Эноха паходзіць ад рабінаў, датуецца V–VI стст. пасля Н. Х. Яна больш вядомая як габрэйская Кніга Эноха. Наступная — гэта Кніга Гігантаў (або Маніхейская Кніга Эноха), фрагменты якой былі знойдзены ў Кумране і якая была дапаўненнем да Кнігі Чуваючых.

І Кніга Эноха (або інакш эфіопская ці проста Кніга Эноха) расказвае пра тое, як прарок Энох падарожнічае ў свеце і ў часе з істотамі «з іншага свету», якіх ён лічыць анёламі ці іншымі найвышэйшымі істотамі. Ва ўступе да Кнігі Энох названы благаслаўлёным і справядлівым, якому Пан адкрыў вочы і адарыў святым нябесным бачаннем (*ЭнЭф* 1, 2). У IV частцы Кнігі, у Кнізе Сноў, апісаныя дзве візіі Эноха пра будучую гісторыю свету і Ізраэля, а ў V частцы, у гэтак званым Лісце Эноха, патрыярх прадказвае благаслаўленне для справядлівых і пакаранне для грэшнікаў.

ІІ Кніга Эноха (або інакш славянская ці гэтак званая Кніга таямніцаў Эноха) пачынаецца Кнігай таямніцаў пра забранне справядлівага Эноха, якога аўтар адорвае рознымі хвалебнымі эпітэтамі: мудрэц, вялікі вучоны, якога Пан забраў у неба ва



Ілля і Энох. Абраз XVII ст.
Гістарычны музей у Саноку (Польшча).

ўзросце 365 гадоў (*ЭнСлав* 1; 1, 8). З вуснаў справядлівага Эноха мы чуем незвычайныя для язычніка развітальныя словы, скіраваныя да сыноў: «...*Не адварочвайцеся ад Пана і не аддавайце пашаны несапраўдным багам, якія не стварылі ні неба, ні зямлі*» (*ЭнСлав* 2, 2). Кніга расказвае пра забранне на неба Эноха і апісвае яго падарожжа ў таварystве анёлаў праз сем нябёсаў, а ў сёмым небе анёлы паказваюць яму здалёк Пана, які сядзіць на троне і запрашае Эноха стаць перад Яго аблічам навекі (пар. *ЭнСлав* 20, 3; 22, 5; 67, 2), а таксама адкрывае яму свае адвечныя таямніцы (*ЭнСлав* 24, 3). Пасля гэтага Энох вяртаецца на зямлю, каб даць настаўленні сваім нашчадкам, і зноў вяртаецца на неба. А калі Пан аб'яўляецца ў сне сыну Эноха, Мэтушэляху, Ён кажа словы, якія ставяць Эноха ў адзін шэраг з Абрагамам, Ісаакам і Якубам: «*Я – Пан, Бог твайго айца Эноха*» (*ЭнСлав* 68, 4; 69, 4).

У другой частцы III Кнігі Эноха (габрэйскай Кнігі Эноха) таямнічы кабалістычны Метатрон[11], найвышэйшы ў анёльскай іерархіі, кажа рабіну Ішмаэлю, што ён – Энох, сын Ерэда (*ЭнГбр* 4, 2), якога Бог перад патопам перанёс у неба, гэта значыць узвысіў яго ў вачах людзей па-над усімі анёламі на вышынях, каб ён стаў сведчаннем супраць людзей, і прызначыў яго «*князем і валадаром анёлаў, якія служаць*» (*ЭнГбр* 4, 5). Калі анёлы пачынаюць пратэставаць супраць забрання Эноха на вышыні, аўтар Кнігі ўкладвае ў вусны Пана Бога такія словы: «*Я прагну яго больш за вас усіх, хачу, каб ён быў князем і валадаром над вамі...*» (*ЭнГбр* 4, 8). Энох пазбыўся матэрыяльнага цела – яго цела было пераменена ў агонь (*ЭнГбр* 15, 1-2). Ён стаў анёлам[12], які служыць «Трону хвалы» (*ЭнГбр* 7, 1; 15, 1). Анёлы ж пакланяюцца яму, кажучы: «*Благаслаўлёны ты і благаслаўлёныя твае бацькі, бо знайшоў у табе ўпадабанне Той, хто стварыў цябе*» (*ЭнГбр* 4, 9).

Энох згадваецца таксама ў іншых апакрыфічных кнігах. Напрыклад, у Кнізе Юбілеяў (168–150 гг. да Н. Х.) Энох параўноўваецца з прарокам Майсеем і выступае як яго папярэднік. Ён «*першы сярод сыноў чалавечых.., які пазнаў пісанне, здабыў веды і мудрасць. <...> Ён убачыў у сне тое, што было, і тое, што будзе... Ён убачыў і пазнаў усё...*» (*Юб* 4, 17-19). Энох ажаніўся, калі яму было 60–64 гады, з Адні, дачкой Данэля, і нарадзіўся ў яго сын Мэтушэлях (пар. *Юб* 4, 20–21)[13]. Затым Энох быў з Божымі анёламі 6-ці юбілеяў (294 гады), а яны «*паказалі яму ўсё, што ёсць на зямлі і ў небе...*» (*Юб* 4, 21–22). Энох сведчыў супраць Чуваючых, а пасля быў забраны «*ад сыноў чалавечых*». Анёлы завялі яго ў сад Эдэн, каб там ён спазнаў вялікую пашану (*Юб* 4, 23). У Эдэне Энох выконвае анёльскія функцыі — запісвае суд над светам і прысуды (*Юб* 4, 23–24), а таксама прыносіць ахвяру з кадзіла, якую прымае Бог (*Юб* 4, 25). Такі ж вобраз Эноха мы бачым у II Кнізе Эноха і ў Запавеце Абрагама (карацейшая версія), у якой выразна падкрэсліваец-

ца ўніверсальнасць збаўлення, без адрознення юдэяў і язычнікаў[14]. У гэтай апошняй кнізе Энох прадслаўлены як «*настаўнік неба і зямлі і пісар справядлівасці*» (*ЗапАбр* 11, 3), а яго заданнем, паводле загаду Пана Бога, з'яўляецца запісванне «*грахоў душы*» (*ЗапАбр* 11, 7.9).

У чацвёртай Кумранскай пячоры было знойдзена шмат фрагментаў з I Кнігі Эноха і звязанай з ёю Кнігі Гігантаў, якія датуюцца II ст. да Н. Х. і пачаткам I ст. пасля Н. Х. Гэта сведчыць пра тое, што Энохава традыцыя была важнаю для кумранскай супольнасці, якая чытала і захоўвала гэтыя творы.

Шматразова згадваецца Энох у Запавеце Дванаццаці Патрыярхаў, дзе ён названы справядлівым (*Зап. XII Пат. III* 10.5; *VII* 5.6; *XII* 9. 1), напрыклад, у Запавеце Сімяона і Левія (*II* 5.4). У Запавеце Левія ад імя Эноха прамаўляецца прароцтва пра адступніцтва і знеслаўленне ерузалемскай святыні (*III* 14.1; 16.1). Пра злачынства Юды, Дана, Нэфталія і Беньяміна, абвешчаных Энохам, гаворыцца ў адпаведных раздзелах Запаветаў (*IV* 18.1; *VII* 5.6; *VIII* 4.1; *XII* 9, 1). У заканчэнні Запаветаў Энох згадваецца разам з Ноем, Сэмам, Абрагамам, Ісаакам і Якубам у ліку тых, хто «*ўстане*» (або ўваскрэсне) у радасці напрыканцы часоў і будзе сядзець па правіцы Бога (*XII* 10.6).

У кнігах Новага Запавету і ў хрысціянскай традыцыі Энох увасоблены як прататып Езуса Хрыста. Магчыма таму Копцкі Касцёл залічыў да кананічных Кнігу Эноха і нават стварыў некалькі новых твораў пра Эноха, як, напрыклад, «Іншыя апавяданні пра нараджэнне Эноха», якія ўвайшлі ў «Кнігу таямніцаў неба і зямлі», і ў кнігу «Візій Эноха». У Новым жа Запавеце пра Эноха, як пра героя веры[15], гаворыцца ў Пасланні да Габрэяў, дзе падкрэсліваецца ў першую чаргу яго вера: «*Вераю Энох быў перанесены* (gr. μετατίθημι), *каб не бачыць смерці, і не знайшлі яго, таму што Бог перанёс яго. Бо перад перанясеннем было засведчана яму, што ён спадабаўся Богу*» (*Гбр* 11, 5). Слова μετατίθημι 'пераносіць на іншае месца', адпаведнік габрэйскага לקח [*lāqaḥ*], выкарыстоўваецца таксама ў Сэптуагінце ў кантэксце забрання Эноха і Іллі, у аналагічных творах грэцкіх і лацінскіх класікаў гэты выраз азначае, што чалавек увайшоў у кола багоў[16]. У творах некаторых Айцоў Касцёла і на падставе *Сір* 44, 16 рабіліся высновы, што Бог забраў Эноха ў рай, адкуль выгнаў Адама і Еву. Аднак сёння гаворыцца, што выраз *lāqaḥ* (gr. μετατίθημι) азначае заўчасны адыход Эноха, якога Бог адарыў такой прыхільнасцю, каб уратаваць яго ад водаў патопу і аддзяліць яго ад сапсаванага свету[17]. У кнігах Новага Запавету таксама цытуюцца апакрыфічныя творы пра Эноха. Так, напрыклад, у Пасланні Юды пададзена цытата з *I Эн* 1, 9[18]: «*Прарочыў пра іх Энох, сёмы пасля Адама, кажучы: "Вось прыйшоў Пан з мірыядамі святых, каб учыніць суд над усімі і дакарыць кожнага за ўсе ўчынкі бязбожнасці і за ўсе жорсткія словы, сказаныя супраць Яго бязбожнымі грэшнікамі*"» (*Юд* 14-15). Натхнёныя аўтары новазапаветных кніг лічаць Эноха чалавекам гераічнай веры, дзякуючы якой ён падабаўся Богу, а таксама прапаведнікам, які заклікае грэшнікаў да пакаяння[19].

У раннехрысціянскай інтэрпрэтацыі словаў з Апакаліпсіса св. Яна пра неназваных па імені двух сведкаў Пана, якія будуць прарочыць у канцы часоў, агульнапрынятае, што імі з'яўляюцца прарок Ілля і Энох[20]: «*Дам двум сваім сведкам, апранутым у мешкавіну, прарочыць тысяча дзвесце шэсцьдзясят дзён. Яны маюць уладу закрыць неба, каб не ішоў дождж на зямлю ў дні прароцтва іхняга.* <...> *І калі скончаць яны сведчанне сваё, звер, які выходзіць з бездані, пачне вайну з імі, і пераможа іх, і заб'е іх. І трупы іхнія пакіне на плошчы вялікага горада...*» (*Ап* 11, 3. 6-8).

І хоць Энох, як кажа св. Ірэнэй Ліёнскі, быў чалавекам без абрэзання, язычнікам, ён спадабаўся Богу і дагэтуль з'яўляецца сведкам справядлівага Божага суду (пар. *Iren. Adv. Haer. IV* 16.2), а таксама належыць да тых справядлівых, «*якія дасягнулі дасканаласці*» (*Гбр* 12, 23).

---

1 Пар. *Księga Rodzaju. Wstęp. Przekład z oryginału. Komentarz*, opr. St. Łach. T. I – 1. — Poznań, s. 241.
2 Пар. D. Fouilloux, A. Langlois, A. Le Moigné, F. Spiess, M. Thibout, R. Trébuchon, *Kultura biblijna. Słownik*. — Warszawa, 1997, s. 92; *Encyklopedia biblijna*, red. naukowa P. J. Achtemeier. — Wzrszawa, 1999, s. 393.
3 Пар. L. Koehler, W. Baumgartner, J. Stamm, *Wielki słownik hebrajsko-polski i aramejsko-polski Starego Testamentu*. Tom 1, s. 316.
4 Так дакладна перакладаюць габрэйскі фразеалагізм Я. Станкевіч і М. Гітлін, а таксама Ж. Некрашэвіч-Кароткая. У перакладзе В. Сёмухі бачна няправільнае разуменне сэнсу гэтага фразеалагічнага злучэння: „хадзіў *прад* Богам" замест „хадзіў *з* Богам".
5 Пар. Ю. Ф. Рууп, *Книга Бытие*, ВСБ, 1993, с. 56.
6 Пар. *Księga Rodzaju*.., s. 241.
7 Пар. А. Мень, *Исагогика. Ветхий Завет*. — Москва, 2000, с. 137.
8 Ks. J. Homerski, *Prawda o zmartwychwstaniu i życiu wiecznym w najmłodszych pismach natchnionych Starego Testamentu*, «Roczniki teologiczno-kanoniczne». Tom XXXVII, zeszyt 1 - 1990, s. 15.
9 Пар. H. Langkammer, *Słownik biblijny*. — Katowice, 1989, s. 68; А. Мень, *Исагогика*.., с. 137.
10 Пар. *Słownik wiedzy biblijnej*, red. B. M. Metzger, M. D. Coogan. — Warszawa, 1997, s. 212.
11 Пар. *Słownik wiedzy*.., s. 212.
12 Пар. *Apokryfy Starego Testamentu*, opr. R. Rubinkiewicz. — Warszawa, 1999, s. 215.
13 Пар. *Apokryfy*.., s. 270.
14 Пар. *Apokryfy*.., s. 83.
15 Пар. *Słownik wiedzy*.., s. 212.
16 *Księga Rodzaju*.., s. 242.
17 Пар. *Księga Rodzaju*.., s. 242.
18 Пар. H. Langkammer, *Słownik*.., s. 68; *Biblia Tysiąclecia*. — Poznań — Warszawa, 1988, нататка да Юдт 15, s. 1395.
19 Пар. *Księga Rodzaju*.., s. 242;
20 Пар. *Księga Rodzaju*.., s. 242.

Ірына Багдановіч

# КСЁНДЗ АДАМ СТАНКЕВІЧ ЯК ПАСЛЯДОЎНІК СПРАВЫ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

*Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*
*і 125-годдзя з дня нараджэння кс. Адама Станкевіча*



Сёння дасведчанаму беларусу бадай ужо не трэба тлумачыць, хто такі быў ксёндз Адам Станкевіч і якая роля яго ў духоўным, грамадска-палітычным і культурным адраджэнні нашай Бацькаўшчыны. Але ўзгадаць яго асобу і паўтарыць у сувязі з юбілейнай датай — 125-годдзем з дня яго нараджэння, што гэта быў выключны ў сваім пакліканні святар, які ўсю сваю энергію (дух), веды (інтэлект) і сілы (здароўе) ахвяраваў адраджэнню Беларусі, будзе зусім справядліва і слушна. Яго жыццё было цалкам прысвечана служэнню — народу Беларусі і Богу. Таму ягонае пакліканне і абавязкі святара, якія ён выконваў у даручаных яму парафіях, спалучаліся з актыўнай грамадскай і асветніцкай дзейнасцю: ён быў паслом у польскім сейме; адным з ініцыятараў стварэння і чынным сябрам партыі Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Таварыства беларускай школы, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры; заснавальнікам каталіцкіх перыядычных выданняў («Хрысціянская думка»), выдавецтва і друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні; бліскучым духоўным пісьменнікам і публіцыстам — аўтарам грунтоўных па ахопу фактычнага матэрыялу і глыбіні іх асэнсавання кніг, брашур, артыкулаў, прысвечаных беларускаму хрысціянскаму і грамадскаму руху, яго гісторыі, вызначальным падзеям і дзеячам («Хрысціянства і беларускі народ», «Беларускі хрысціянскі рух», «Родная мова ў святынях», працы пра Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча ды іншыя). Без перабольшвання, ксяндза Адама Станкевіча можна назваць з вялікай літары Святаром і Асветнікам, Душпастырам і Настаўнікам народу, які стаў на шлях нацыянальнага вызвалення і меў патрэбу ў духоўным правадырстве.

Можа, пра тое духоўнае правадырства яшчэ і не задумваўся малады клерык Адась Станкевіч, рыхтуючыся да душпастырскай службы ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі і нават цэлебруючы сваю прыміцыйную Імшу ў крэўскім парафіяльным

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.







касцёле 1 студзеня 1915 года[1]. Але ўжо і тады, будучы клерыкам, ён не ашчаджаў сябе дзеля грамадскай справы, стаўшы адным з ініцыятараў і заснавальнікаў культурна-асветнага гуртка беларусаў-семінарыстаў, а неўзабаве актыўна далучыўшыся да іншых ініцыятываў грамадскага і рэлігійнага жыцця: склікання і правядзення 1-га з'езда беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску ў траўні 1917 г., утварэння ў тым жа 1917 г. хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці (партыі) і заснавання яе друкаванага выдання — газеты «Крыніца» («Беларуская крыніца»), рупячыся і ў далейшым пра стварэнне і пашырэнне інстытутаў нацыянальнага грамадскага жыцця, робячы рэальнай справу адраджэння свайго народа, даручанага яго душпастырскай апецы і духоўнаму правадырству.

Не будзем тут спыняцца на падрабязным апісанні жыццёвага шляху і рознабаковай дзейнасці ксяндза Адама Станкевіча, адаслаўшы зацікаўленага чытача да грунтоўнага даследавання Уладзіміра Конана[2]. Адзначым толькі, што, спазнаўшы і ў даваенны час рэпрэсіі з боку польскай улады за сваю актыўную беларускую дзейнасць (аб гэтым сведчыць яго высылка ў 1936 г. на некалькі гадоў з Вільні ў Слонім, дзе ён быў капеланам і спаведнікам у кляштары сясцёр непакалянак), кс. Адам Станкевіч усё ж напоўніцу сутыкнуўся з жорсткай рэпрэсіўнай дзяржаўнай машынай ужо ў пасляваенны час, калі ў Вільню, вызваленую ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, вярнулася савецкая ўлада. Беларуская справа і яе дзеячы ізноў апынуліся ў небяспецы. Адама Станкевіча арыштоўвалі двойчы: у снежні 1944 г., але тады ён быў неўзабаве адпушчаны; і ў красавіку 1949 г., калі ён атрымаў 25 гадоў зняволення, быў адпраўлены ў Тайшэтлаг і там закатаваны амаль адразу па прыбыцці: 4 снежня 1949 года. Так пакутна завяршыўся шлях яго духоўнага правадырства, яго служэння Богу і народу — да паўнаты ахвяры, да аддання жыцця дзеля бліжняга.

Але 24 кастрычніка 1949 г. кс. Адам Станкевіч быў яшчэ ў Вільні, чакаў этапу. Аб гэтым сведчыць яго ліст — запіска з перасыльнай турмы да сясцёр Марыі і Ганны Шутавічанак, напісаная па-руску, што таксама ўскосна дае зразумець, наколькі змянілася сітуацыя і стала неспрыяльнай сама атмасфера грамадскага жыцця ў паваеннай Вільні, дзе пачаўся жорсткі працэс татальнай саветызацыі і


Вильнюс 24.X.49. - Милые, дорогие сестрицы! Писал Вам с перевыльной 22.X. Пишу ещё. Спасибо за передачу, жаль Ваших трудов, можно было бы обойтись. Продуктов достаточно; а какие роскошные брюки и ватовка! Жаль, что нельзя повидаться! Но ничего - всё равно душой мы едино. Сегодня, завтра уезжаем; куда - не знаем. При первой возможности напишу, но когда это будет - Бог знает. 23.x я отправил здесь св. Мшу. Какое счастье! Я служил, а мне прислуживали два ксендза. Горячо я молился и о Вас, мои милые. Приготовьте/если удастся/ молитвенник с мшой по латыни, польский или литовский, а также молитвенник литовский, открытки, карандаш, бумагу, иголку, ножницы /малые, к рукам/, пришлёте, когда сообщу свой адрес. Привет там кому следует. Какой я счастлив, что Вас имею, мои светлые ангелы, и как я благодарен Вам! Марыська и Аннушка - не горюйте, берегите ~~своё~~ здоровье, молитесь, Бог даст увидимся. Я счастлив, что терплю за такие возвышенные идеалы и что Вы мои в этом помощницы. Воспитывайте Ядзю! Целую Вас крепко. Ваш неизменно Ад.Станкевич.---

русіфікацыі. «Вильнюс. 24.X.49. — Милые, дорогие сестрицы! Писал Вам с пересыльной 22.X. Пишу ещё. Спасибо за передачу, жаль Ваших трудов, можно было бы обойтись. Продуктов достаточно; а какие роскошные брюки и ватовка! Жаль, что нельзя повидаться! Но ничего — всё равно душой мы едино. Сегодня-завтра уезжаем; куда — не знаем. При первой возможности напишу, но когда это будет — Бог знает. 23.X. я отправил здесь св. Мшу. Какое счастье! Я служил, а мне прислуживали два ксендза. Горячо я молился и о Вас, мои милые. Приготовьте (если удастся) молитвенник с Мшой по латыни, польский или литовский, а также молитвенник литовский, открытки, карандаш, бумагу, иголку, ножницы (малые, к рукам), пришлёте, когда сообщу свой адрес. Привет там кому следует. Какой я счастлив[ый], что Вас имею, мои светлые ангелы, и как я благодарен Вам! Марыська и Аннушка — не горюйте, берегите здоровье, молитесь, Бог даст увидимся. Я счастлив, что терплю за такие возвышенные идеалы и что Вы мои в этом помощницы. <...> Ваш неизменно — Ад.Станкевич»[3].

У гэтым лісце выявілася таксама ўся паўната і веліч асобы кс. Адама Станкевіча: прымушаны змяніць святарскае ўбранне на «шыкоўную ватоўку», ён застаўся верным свайму душпастырскаму пакліканню, верным Богу, ён цэлебраваў святую Імшу, нават будучы вязнем перасыльнай турмы, і збіраўся гэта рабіць у лагерным зняволенні, колькі б яно ні доўжылася. Можа, гэта і было прычынай хуткай расправы над ім. Ён не толькі не наракаў і не скардзіўся, а пісаў, што ён шчаслівы цярпець за «гэтыя ўзвышаныя ідэалы» — веру ў адраджэнне Беларусі і ў Божае Валадарства.

На дарозе да Божага Валадарства і адраджэння Беларусі заўсёды былі свае правадыры і дзеячы. Найславутым з іх Адам Станкевіч лічыў беларускага першадрукара Францішка Скарыну, асобе і дзейнасці якога надаваў выключнае значэнне ў справе будавання культурнай будучыні Беларусі. У 1925 г. шырока і ўрачыста адзначалася 400-годдзе кнігадруку на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, звязанае з выданнем Скарынам у Вільні ў 1525 г. кнігі «Апостал» (выданне ў 1522 г. «Малой падарожнай кніжкі» было на той час яшчэ невядомае). Менавіта тады Скарына становіцца фактычна культавай фігурай беларускага нацыянальнага адраджэння ва ўспрыняцці інтэлігенцыі, грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, святароў. Пра Скарыну з'яўляюцца публікацыі ў тагачасным перыядычным друку і асобныя выданні. Сярод іх найважнейшае месца займае грунтоўны нарыс кс. Адама Станкевіча «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі (1525–1925)», які быў апублікаваны ў 1925 г. у некалькіх віленскіх перыядычных выданнях («Беларуская доля» і «Крыніца») і тады ж двойчы выйшаў асобнай брашурай на лацініцы і кірыліцы.

Гэта па сутнасці першае на беларускай мове аналітычнае фундаментальнае навуковае даследаванне, прысвечанае асобе і дзейнасці Скарыны (разам з чэшскамоўнай дысертацыяй Ігната Дварчаніна), якое паклала пачатак беларускаму скарыназнаўству. Аўтар звяртае ўвагу на сам 400-гадовы юбілей, калі «вялікі і слаўны беларус — друкар Францішак Скарына з Полацка заснаваў друкарню «*в доме почтиваго мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славнаго и великаго места Виленскаго*»[4]. Гэта была першая друкарня ў Беларусі і ва ўсёй усходняй Еўропе (пазней, як ужо згадвалася, было ўстаноўлена, што дату заснавання друкарні трэба адносіць на тры гады раней). А.Станкевіч у сваім нарысе згадвае кнігу «Апостал», надрукаваную Скарынам у 1525 г. у гэтай друкарні «ў стараславянскай мове са значнай дамешкай мовы беларускай», і падкрэслівае: «За гэта сапраўды вялікае дзела беларускі народ свайму беларускаму культурніку павінен паставіць памятнік, каб памяць аб ім ніколі ня счэзла з душы народнай, каб імя яго было знаёма кожнаму беларусу ад малога да старога»[5]. Аўтар, аднак, скрушліва адзначае, што ў тагачасных варунках жыцця беларускі народ не можа так уславіць свайго вялікага сына, як гэта належыць, «але і моўчкі абысьці гэтае культурнае сьвята беларускі народ такжа не павінен. Тым, чым зможам, павінны мы славіць сёлетні скарынаўскі юбілей»[6]. Сваю працу кс. А.Станкевіч лічыў сціплым унёскам у гэтую ўрачыстасць.

Сёлета Беларусь і ўвесь культурны свет таксама ўрачыста адзначаюць велічную юбілейную дату: 500-годдзе ўсходнеславянскага кнігадруку, бо ўпершыню ў 1517 годзе ў чэшскай Празе Францішак Скарына надрукаваў, як вядома, «Псалтыр», а затым яшчэ цэлы шэраг біблейскіх кніг Старога Запавету. Гэта быў бясспрэчны цывілізацыйны прарыў, бо, як пісаў А.Станкевіч, кнігадрукаванне адкрыла народам Еўропы шлях культурнага і гістарычнага самаразвіцця, паколькі да гэтага кнігі ў Еўропе пісаліся пераважна на латыні і былі даступныя нешматлікім колам адукаваных і багатых прадстаўнікоў насельніцтва. Друк жа, паводле А.Станкевіча, «прымусіў нежывую ўжо мову лацінскую ўступаць паволі месца жывым народным мовам, дапамагаючы гэтак паўставаць новым народам і грамадзянствам

з новым зьместам жыцьця»[7]. З гэтых разважанняў аўтар робіць слушную выснову аб тым, што першыя друкары могуць быць названымі «тварцамі і закладчыкамі сучаснай культуры і цывілізацыі»[8]. Менавіта з такімі меркамі падыходзіць А.Станкевіч і да ацэнкі здзейсненага Ф.Скарынам.

У асобным раздзеле аўтар апісвае жыццё Ф.Скарыны, асвятляе вядомыя на той час яму факты біяграфіі першадрукара. У іншых раздзелах з глыбокай дасведчанасцю А.Станкевіч характарызуе «скарынаўскія друкі», пражскія і віленскія, адзначае іх асаблівасці. Так, гаворачы пра пражскія выданні, А.Станкевіч надае важнае значэнне прадмовам («прадслоўям») і іншым аўтарскім тэкстам Ф.Скарыны, дзе беларускі друкар тлумачыў змест біблейскіх кніг. А. Станкевіч лічыць гэтыя тэксты менавіта творамі літаратурнымі: «Уласныя прадслоўі і некаторыя часам іншыя дадаткі, — піша ён, — паказуюць нам Скарыну ня толькі як выдаўца і перакладчыка, але такжа і як свайго роду літаратара»[9].

Асноўнымі ідэямі скарынаўскіх друкаў А. Станкевіч лічыць ідэі «маральныя» і «прасветныя». Ён называе Скарыну «беларускім патрыётам і чалавекам, усестаронна асьвечаным», які бачыў «усе недастаткі культурнага жыцьця беларускага народу», асабліва маючы магчымасць параўноўваць гэтае жыццё з жыццём народаў Заходняй Еўропы. «Служыць пашырэньню граматнасьці і асьветы агулам, а такжа ўзмацаваньню і паглыбленьню жыцьця маральнага сярод беларускага народу, — вось галоўная ідэя друкарскай дзеяльнасьці Скарыны», — лічыць А. Станкевіч[10]. Ён адзначае, што ў найвялікшай пашане ў беларусаў была менавіта кніга «Псалтыр», якая «найбольш служыла і практычнаму навучаньню граматнасьці»[11].

Спецыяльна затрымліваецца А.Станкевіч на пытанні мовы скарынаўскіх выданняў, якую першадрукар называе ў сваіх прадмовах «*руским языком*» і адрознівае яе ад «*языка словенскаго*». Станкевіч звяртае ўвагу на тое, што камусьці гэтая мова можа падацца не беларускай. Ён даводзіць, што тагачасная беларуская мова адрозніваецца ад сучаснай, бо жывая мова развіваецца і змяняецца, і гэта натуральны працэс. А.Станкевіч пералічвае асноўныя асаблівасці мовы Скарыны і ўплывы на яе: «Беларуская мова, што за часаў Скарыны была яшчэ ня так далёка ад мовы старaславянскай, на якой вучыўся граматы і сам Скарына, за 400 гадоў адбегла ад яе небывала далёка. Далей, апрача ўплываў найсільнейшых на мову Скарыны мовы старaславянскай (аснова), мелі на яе такжа ўплыў мова чэская (словы і звароты), бо з чэскіх друкаваных кніг карыстаўся Скарына ў Празе, мова польская і літоўская (словы), бо ў жыцьці палітычным і культурным была тады стычнасьць як з палякамі, так і зь літоўцамі. Аднак усе гэтыя чужыя ўплывы і залежнасьці мовы Скарыны ў аснове не зьмяняюць і яна не перастае быць, згодна са сваім часам, беларускай»[12].

Дзейнасць Ф.Скарыны зрабіла велізарны ўплыў на далейшае развіццё і пашырэнне ўсходнеславянскага і беларускага кнігадруку, але гэтым значэнне Скарыны не абмяжоўваецца, — піша Станкевіч, падагульняючы свае думкі: «Ф. Скарына сваімі кніжкамі кінуў у беларускую зямлю зерне беларускай *народнай* культуры і зерне любові да свайго краю і народу. Ён першы асьмеліўся парваць зь бяздушнай старaславяншчынай і зьвярнуць вочы нашага народу на яго народную жывую мову, а гэтым самым — і на яго духовыя багацьці. Гэткай ідэяй Скарыны корміцца і сяньня народ беларускі і мае яе за пуцяводную зорку свайго адраджэньня»[13].

Асноўныя палажэнні гэтай працы не страцілі сёння сваёй актуальнасці, на іх абапіраліся, ідучы далей, наступныя пакаленні беларускіх скарыназнаўцаў. Самога ж Адама Станкевіча можна назваць таксама, апрача ўсіх вышэй дадзеных яму тытулаў і характарыстык, паслядоўнікам Францішка Скарыны ў справе духоўнага адраджэння і асветы народа, нездарма ж ён і заснаванай ім у Вільні друкарні даў імя першадрукара, як бы падкрэсліваючы гэтую пераемнасць. Публікуем фрагменты знакамітай кнігі нашага выбітнага мысляра і ксяндза асветніка, ушаноўваючы такім чынам яго 125-гадовы юбілей, а таксама 500-годдзе беларускага «Псалтыра» ў перакладзе Францішка Скарыны, з якога ў 1517 г. распачаўся беларускі кнігадрук.

---

[1] У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў асабістым архіўным фондзе кс. Адама Станкевіча захаваліся яго прымiцыйныя абразкі на беларускай і польскай мовах: Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 144, арк 1–2.

[2] Гл.: Конан У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі. — Мінск: Выд-ва «Про Хрысто», 2003. — 128 с.

[3] Машынапісная копія ліста захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў асабістым фондзе кс. Адама Станкевіча: Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 136, арк. 6.

[4] Станкевіч А. З Богам да Беларусі: Збор твораў. / Уклад., нав. рэдактура, напісаньне камэнтароў і прадмовы А.Пашкевіч і А.Вашкевіч. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. — С. 104.

[5] Тамсама.

[6] Тамсама.

[7] Тамсама, с. 106.

[8] Тамсама.

[9] Тамсама, с. 116.

[10] Тамсама, с. 119.

[11] Тамсама.

[12] Тамсама, с. 121.

[13] Тамсама, с. 125.

Кс. Адам Станкевіч

# Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі (1525–1925)

## Значэньне друкарскай скарынаўскай дзеяльнасьці дзеля далейшага разьвіцьця друкарства ў Беларусі і беларускай культуры*

Ліхія жыцьцёвыя варункі, як мы ўжо гаварылі вышэй, не далі вялікаму беларускаму друкару давясьці да канца яго друкарскую і літаратурную працу для «*люду посполитаго*». У 1525 г. ці, можа, крыху пазьней, надрукаваўшы ў Вільні «Апостала» і «Малую падарожную кніжыцу», Скарына быў прымушаны спыніць сваю ідэйную работу. Пасьля сказанага году ўжо больш нічога ня ведама, каб Скарына дзе што далей друкаваў.

Аднак зярняты, кінутыя вялікім культурнікам у родную зямлю, не заглохлі — яны дзе-нідзе на Беларусі і ў Літве абыходзілі і давалі плод.

Скарынаўскія выданьні сваёй дасканаласьцяй і прыгоствам з боку вонкавага, а такжа жывой народнай мовай, зразумелай для шырокіх масаў, былі прыкладам і прычынай такой жа далейшай работы як у беларусаў, так і ў суседзяў.

Так, напрыклад, Іван Фёдараў, друкар маскоўскі, меў пры сабе да помачы беларуса Пятра Мсьціслаўца і, друкуючы ў Маскве 1563–1564 гг. кнігі, пэўна ж, ведаў ад гэтага беларуса аб друках Скарыны і браў іх сабе за ўзор.

Асабліва выразна відаць уплыў Скарыны — і то з боку ідэйнага — на друкарства ўкраінскае. Ідэя друкаваць Сьвятое Пісаньне ў народнай мове па Скарыне насамперад прывілася на Валыні. У хуткім часе па Скарыне на Валыні паяўляецца аж чатыры кніжкі, друкаваныя па-ўкраінску: Эвангельле 1556–1561 гг. у м. Перасопніцы, Эвангельле 1595 г. у Уладзімеры, Новы Закон 1581 г. у м. Харашэве і Эвангельле 1595 г. у Луцку. За прыкладам Скарыны ўкраінскія друкары ўжо такжа друкуюць кніжкі дзеля дабра «*люду посполітого*».

Але, рэч зразумелая, найбольшае значэньне скарынаўскія друкі мелі для далейшага разьвіцьця беларускага друкарства і беларускай культуры.

Маю на думцы «*Катихисис*» Сымона Буднага, выданы ў Нясьвіжы ў 1562 г., і «*Эвангелие*» Базыля Цяпінскага без абазначэньня году выданьня.

Нясьвіскі «*Катэхисис*» зьяўляецца выразным насьледаваньнем скарынаўскіх друкаў як з боку вонкавага, так і ідэйнага.

Літары, якімі надрукавана большая часьць «*Катихисиса*», такія ж, як і ў скарынаўскіх праскіх друках. А ўзноў, літары, якімі надрукаваны прадслоўі да таго ж «*Катихисиса*», такія, як літары скарынаўскіх друкаў віленскіх.

Ясна, што Сымон Будны, аўтар «*Катихисиса*», ці мо выдаўцы яго, заказваючы літары, як узор давалі літары скарынаўскіх друкаў.

Ня меншы таксама ўплыў мелі друкі Скарыны і на ідэйны бок «*Катихисиса*».

Кніжка гэтая надрукавана такжа па-беларуску і з падобнымі прадслоўямі і пасьляслоўямі.

Вось для прыкладу некаторыя месцы з яго:

*Докончана ест сия книга зовемая Греческимъ языкомъ Катихисисъ… Богу ко чти и посполитымъ людемъ языка рускаго къ наказанью и доброму наученію… Которое вѣры еси ты? Христианское вѣры. Што виненъ оумѣти Христианинъ? Чотыри речи умѣти, и водле того жити маеть.*

Эвангельле Цяпінскага такжа шмат у чым залежнае ад скарынаўскіх друкаў беспасрэдна або пры пасрэдніцтве нясьвіскага «*Катихисиса*». Надрукавана яно, безумоўна, тымі ж літарамі, што «*Катихисисъ*», бо так, як ён, падобнае да друкаў Скарыны і тыя ж, што і «*Катихисисъ*», мае розьніцы ад гэтых жа выданьняў.

Апрача гэтага, у Эвангельлі Цяпінскага спатыкаюцца вялікія літары ў рамках, што і ў скарынаўскіх віленскіх друках, на пачатку разьдзелаў і ў загалоўках. Літары гэтыя, відаць, жыўцом перайшлі ў друкарню Цяпінскага.

Эвангельле Цяпінскага надрукавана такжа па-беларуску. «*Евангелие,* — кажа Цяпінскі, — *вубогой моеи друкарни отмене выдруковано*». Час выданьня няведамы, але ў кожным выпадку незадоўга пасьля «*Катихисиса*».

Маскоўскія друкары — «*Moskwitin*» Іван Фёдараў і беларус Пётар Мсьціславец — у 1564 г. з Масквы пераходзяць на Беларусь і ў Заблудаве, карыстаючы з прыхільнасьці гетмана Рыгора Хадкевіча, у 1569 г. друкуюць «*Эвангеліе*». Бяжэнства гэтых друкароў ня ў іншы край, але ў Беларусь, беларуская народнасьць аднаго зь іх, а такжа прыхільнасьць да друкарска-выдавецкай справы гетмана безумоўна сьведчаць аб вялікіх уплывах скарынаўскай працы і аб яе значным пашырэньні.

Далей бачым, што Пётар Мсьціславец пакідае Заблудаў і пера-




біраецца ў Вільню, дзе ў 1575 г. у друкарні братоў Кузьмы і Лукі Мамонічаў прадаўжае друкарскую працу, перарваную Скарынам.

Такім чынам, скарынаўская друкарская ідэя, пакінуўшы сьляды ў Маскве і ў беларускім Заблудаве, вярнулася ўзноў у Вільню як у цэнтар беларускай культуры і пачала далей цьвісьці і разьвівацца. Друкарня Мамонічаў, якая шмат што з друкарскіх прыладаў атрымала ў спадку па Скарыне, у канцы XVI ст. разьвівае шырокую і разнародную выдавецка-друкарскую дзеяльнасьць. Мамонічы друкуюць кніжкі ня толькі для Беларусі, Літвы і Ўкраіны, але такжа для Маскоўшчыны і для паўдзённых славян.

Пасьля Кузьмы і Лукі Мамонічаў разьвіваў працу сваіх папярэднікаў сын Кузьмы Лявон Мамоніч, каторага выдавецкая дзеяльнасьць пакідае значныя сьляды яшчэ ў першай палове XVII ст.

Побач з друкарняй Мамонічаў пад уплывам добрага пачатку Скарыны ў Вільні паўставалі іншыя. Так, напрыклад, ад 1585 г. да 1604 г. працавала там ужо друкарня каталіцкая, у 1596 г. — друкарня царкоўнага брацтва, ад 1608 г. да 1628 г. — друкарня Сьвята-Траецкага манастыра, ад 1611 г. да 1652 г. — друкарня Сьвята-Духаўскага манастыра ў Вільні і ў Еўі каля Вільні, друкарня ў Лоску, Магілёве і інш.

Усе гэтыя друкарні на працягу якіх 75 гадоў (1574–1650) выдалі, як кажа праф. І. Сьвянціцкі, 110 кніг, каторыя дайшлі да нас. А трэба ведаць, што ўся гэтая пазьнейшая ў нашым краі выдавецка-друкарская дзеяльнасць ёсьць сапраўды дзіця ідэй Скарыны, бо бадай уся яна носіць на сабе сьляды скарынаўскіх друкаў як з боку вонкава-тэхнічнага, так і з боку ідэйнага, ці зьместу.

Але на гэтым не спыняецца значэньне Скарыны на полі культуры беларускай і агулам краёвай. У яго культурнай дзеяльнасьці ёсьць асаблівыя рыскі, на якія такжа мусіма тут зьвярнуць увагу.

Ф. Скарына сваімі кніжкамі кінуў у беларускую зямлю зерне беларускай *народнай* культуры і зерне любові да свайго краю і народу. Ён першы асьмеліўся парваць зь бяздушнай стараславяншчынай і зьвярнуць вочы нашага народу на яго народную жывую мову, а гэтым самым — і на яго духовыя багацьці. Гэткай ідэяй Скарыны корміцца і сяньня народ беларускі і мае яе за пуцяводную зорку свайго адраджэньня.

Скарына праз свае кніжкі кідае ў беларускую душу зерне добра зразумелага *дэмакратызму*: ісьці ў народ і працаваць для дабра «*люду посполитаго*». Ён першы прыступіў да культурнай працы, маючы навоку найшырэйшыя і найцямнейшыя беларускія сялянскія масы. Раскрыць душу народу і паклікаць яе сілы да жыцьця было мэтай працы Скарыны. А думкі гэтыя нашага друкара сьвежы і цяпер: і мы сяньня не да чаго іншага імкнемся.

Скарына сваімі кніжкамі далучае Беларусь да агульнаэўрапейскай культуры. Ён першы ў нас уводзіць паняцьце аб сямі свабодных навуках, каторыя ў XVII ст. разьвіліся ў нас як належыцца.

Знаёміць такжа Скарына Беларусь і агулам з інтэлектуальнай працай Заходняй Эўропы. Так, напрыклад, ён пераносіць на беларускі грунт модную ў той час за граніцай навуку аб праве: «*законы и права*, — як сам кажа, — *имиже люди наземли справоватися имають*». Вось што аб гэтым Ф. Скарына гавора ў прадслоўі да кнігі «*Второзаконие*»:




*Потреба тежъ ведати, иже Закон или право разноличнеся отлюдей називаеть. Единое посполитое (jus naturale) понеже отъ всехъ народовъ посполите соблюдаемо ест… Другое право языческое (jus gentium), от многіхъ ибо языковъ ухвалено ест… Некоеже право Рицерское или военное еже на войне соблюдаемо бываеть… Иное пак право Местьское иное морское, а иное купецькое.*

Словам, Ф. Скарына як вялікі культурнік даў беларускаму народу ўсё што мог, а мог дужа многа, бо паклаў асновы і зрубы пад народны беларускі дом, будаваньне якога сяньня беларускі народ паводле ўзораў свайго вялікага сына і вядзець далей.

*Паводле: Станкевіч, А. З Богам да Беларусі : Збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С. 123–125.*

* У тэксце захавана мова арыгінала.

Андрэй АКУШЭВІЧ

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА АПОСТАЛА ПАЎЛА Ў ВЫДАННЯХ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ



Барталамэо Мантанья. «Святы апостал Павел».

**Андрэй Акушэвіч** — магістр філалогіі, метадыст упраўлення вучэбна-метадычнай работы Дзяржаўнай установы адукацыі «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі» (Мінск). Закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

Фрагменты з «Дзеяў святых Апосталаў», датычныя гісторыі навяртання і місіянерскай дзейнасці апостала Паўла, а перадусім лісты Апостала маюць надзвычайную ролю ў літургіі слова, а таксама ў помніках хрысціянскага пісьменства. Ужо ў канцы I ст. Касцёл прыняў пасланні апостала Паўла «*як боганатхнёнае апостальскае выяўленне асноўных ісцін евангельскага вучэння*»[1]. Асаблівым фактарам у гэтым сэнсе стала тая акалічнасць, што Павел пачаў прапаведаваць вучэнне Хрыста ў той час, калі чатырох кананічных Евангеляў яшчэ не было: пасланні Апостала храналагічна папярэднічаюць ім[2].

Цяжка пераацаніць ролю Апостала і ў якасці місіянера хрысціянскай веры сярод народаў Еўропы. Святы Павел за межамі Тэтраевангелля становіцца фактычна цэнтральнай фігурай Новага Запавету. Так, другую і трэцюю часткі «Дзеяў Апосталаў» цалкам займае аповед пра місіянерскую дзейнасць Паўла, якая ахапіла тэрыторыю ад Ерузалема да Рыма. «*Коратка можна сказаць,* — падкрэслівае біёграф св. Паўла Рынальда Фабрыс, — *што з дваццаці васьмі главаў, на якія падзелена ў друкаваных выданнях кніга Дзеяў, прынамсі шаснаццаць прысвечаныя Паўлу*»[3]. У Новым Запавеце змешчаныя трынаццаць лістоў Паўла, напісаных паміж 50 — 60-мі гадамі да розных народаў, прынамсі сем з гэтых трынаццаці лістоў прызнаныя аўтэнтычнымі, гэта значыць, напісанымі або прадыктаванымі асабіста апосталам Паўлам. Складаным застаецца пытанне пра аўтарства «Паслання да Габрэяў»: пры тым, што ўсходняя (грэчаская) традыцыя прыпісвала яго апосталу Паўлу, у самім тэксце паслання, у адрозненне ад іншых, адсутнічае імя аўтара. Да таго ж, «Пасланне да Габрэяў» паводле мовы і стылёвых асаблівасцяў таксама адрозніваецца ад астатніх[4]. Ёсць меркаванне, што «Пасланне да Габрэяў» з'яўляецца перакладам (зробленым святым Лукою) таго тэксту, які быў напісаны Паўлам па-габрэйску, а Тэртуліян называў аўтарам гэтага паслання апостала Барнабу[5]. Большасць сучасных каментатараў прытрымліваецца думкі, што «Пасланне да Габрэяў» — «Паўлава паводле духу, з'явілася ў асяроддзі, блізкім да Апостала, але фактычна напісана іншаю асобаю»[6].

Цалкам натуральна, што літаратурная спадчына апостала Паўла мела ўплыў на філалагічную і экзе-

гетычную дзейнасць Францыска Скарыны. Уплыў гэты праяўляўся разнастайна. Па-першае, у кнізе «Апостал» (Вільня, 1525) беларускі першадрукар апублікаваў 13 пасланняў апостала Паўла і «Пасланне да Габрэяў», аўтарам якога Францыск Скарына лічыць Апостала, на што паказваюць загаловак да прадмовы, разгорнуты загаловак перад пачаткам самога твора і адпаведнае пасляслоўе: «*Послания ко Евреом Светого Апостола Павла сказание доктором Франциском Скориною с Полоцка Богу ко чти и людем посполитым к навчению починается*»[7]; «*Ко Евреом послание Светого Павла, Апостола Христова, еже написал ест к ним евреіским языком. Потом пак Святый Лука-евангелист выложил е на грѣческий. А замыкаеть в собѣ глав 13*»[8]; «*Доконано ест ко Евреом посланіе светого славного апостола и мученика Христова Павла*»[9].

Нягледзячы на тое, што ў сучаснай біблііcтыцы аўтарства «Паслання да Габрэяў» аспрэчваецца, у сістэме поглядаў Францыска Скарыны яно адносіцца да спадчыны апостала Паўла і ідэнтыфікуецца як яго чатырнаццаты твор, надрукаваны ў «Апостале» (1525). Неаднойчы, звяртаючыся да цытатаў з «Паслання да Габрэяў», Францыск Скарына апеляваў да аўтарытэта менавіта апостала Паўла.

Кожнаму пасланню ў Скарынавым «Апостале» папярэднічае разгорнутая прадмова выдаўца. Толькі прадмова «Паслання да Філімона» невялікая па аб'ёме, як і само пасланне, што складаецца з адной главы. У сваіх прадмовах першадрукар дае неабходныя тлумачэнні і каментары да пасланняў Апостала, пераказвае іх змест, узгадвае ключавыя вобразы, фарміруе асноўную думку і сцісла выкладае сюжэт твораў. Тым самым выдавец выдзяляе найбольш неабходнае, на яго погляд, для разумення чытачом тэкстаў апостала Паўла, расстаўляе акцэнты. Пры гэтым Францыск Скарына не выкарыстоўвае дакладных цытатаў, якія шырока прадстаўлены ў прадмовах да пражскіх выданняў першадрукара. Тыя цытаты, якія можна аднесці да дакладных, уплецены ў прадмовы да пасланняў св. Паўла з «Апостала» (1525) Францыска Скарыны ў пераказ зместу адпаведных твораў «Апостала народаў». Так, у прадмове Францыска Скарыны ў «Пасланні да Эфесцаў», выкарыстана цытата з «Першага паслання да Карынцянаў» (1 Кар 15, 32), якую сам першадрукар маркіруе непасрэдна ў тэксце: «*Прото и святый Павел великую працу имел, нежели навернул их на веру Христову, яко сам о том во первом посланіи ко Коринфом пишет, глаголя, иже во Ефесе со звермиборяшеся*»[10]. З аднаго боку, гэта цытата дапамагае выявіць сюжэтную дамінанту «Паслання да Эфесцаў», з іншага боку, яна функцыянальна набліжаецца да пераказу зместу паслання, прычым з дапамогай іншага паслання са спасылкай на яго. У наступным фрагменце гэтай жа прадмовы выкарыстоўваецца тэкставы матэрыял «Дзеяў Апосталаў» (20, 16–17): «*И для великое любви, юже имеаше к ним, внегда шол мимо Ефес во Ерусалим, от Милита послал к ним, и призвав старейшины церковныя, велми ласкаве навчаше их, яко и о том светчить Лука-евангелист во Деаниех апостолских*»[11].

Прыведзены фрагмент можа быць кваліфікаваны і як цытата ў вузкім значэнні слова, і як пераказ адпаведнага сюжэта з «Дзеяў Апосталаў» са спасылкай на першакрыніцу. У самым пачатку прадмовы «Паслання да Эфесцаў» Скарына падобным чынам зноў адсылае да «Дзеяў Апосталаў» (Дз 19–20), пры гэтым адпаведны фрагмент выкарыстоўваецца ім у якасці гісторыка-біяграфічнага каментарыя: «*Иефес град старейший был ест во Асіи менющей. В нем же прежде бѣ святый апостол Павел три лѣта, проповедая в них слово Божие и препирая жиды на сонъмищех и еллины во училищех, и чуда великая чиняй, яко же пишеть святый Лука во Деаниех апостолских*»[12].

У прадмове «Паслання да Рымлянаў» Сяргей Цемчын выявіў свабодна пераказаны адпаведны дыялагічны фрагмент апакрыфічных «Жарсцяў апосталаў Пятра і Паўла (вялікіх)» (2-я пал. V ст. — сяр. 2-й пал. VI ст.)[13]. Выкарыстанне гэтага фрагмента вучоны звязвае са спробаю выкласці сутнасць біблейскіх тэкстаў для шырокай аўдыторыі, не абазнанай у Святым Пісанні.

Пасланні апостала Паўла апраўленыя ў Францыска Скарыны не толькі прадмовамі, але і загалоўкамі прадмоваў, разгорнутымі загалоўкамі перад асноўным тэкстам біблейскай кнігі, главаў[14] і пасляслоўямі. Адметна, што пасланні апостала Паўла маюць агульны тытульны ліст з адпаведным загалоўкам: «*Починаються епистолы светого, славного и верховнаго в небе навченаго Апостола Христова Павла*»[15]. Загалоўкі прадмоваў да пасланняў у «Апостале» супастаўныя з разгорнутымі загалоўкамі на тытульным лісце пражскіх выданняў Ф. Скарыны, што тлумачыцца спецыфікай афармлення выдання 1525 г.: «*К Селуняном втораго послания Павла, Христова апостола, сказание доктором Франциском Скориною с Полоцка Богу Вседержителю ко вечной чти починается*»[16], «*К Галатом послания светого Павла-апостола сказание доктором Франциском Скориною с Полоцька Богу ко чьти и людем посполитым к науце починается*»[17]. Разгорнутыя загалоўкі перад асноўным тэкстам кнігі, як і загалоўкі прадмоваў, могуць змяшчаць экзегезу, пераказваць асобныя элементы Святога Пісання, называць колькасць главаў у пэўным лісце, што гавораць аб выкананні гэтымі загалоўкамі таксама асобных функцый прадмовы або прысвячэння: «*Коринфом починаеться епистола верховнаго апостола Господьня Павла, юже писал во Филиппусе-граде, и послал Стефаном, и Фортунатом, и Ахаиком, и Тимофеем, а имаеть в собе глав 16*»[18], «*К Галатом послание светого апостола Павла, еже написал сам своею рукою велми чудно и посылаеть к ним от Рима, а замыкаеть в собѣ глав шесть*»[19].

Да адпаведных главаў пасланняў апостала Паўла Францыск Скарына змясціў надпісанні, пра што сам

гаворыць у пасляслоўі да «Апостала» (1525): «*Главы же, яко и во всех книгах Бівліи, Ветхаго и Новаго закона, мною на русъки язык выложеных, што которая в собѣ кратце замыкаеть, ко знайдению скоро всякое речи потребное во Бож[е]ственых писаниех*»[20]. Лічым мэтазгодным ідэнтэфікаваць дадзеныя тэксты менавіта як надпісанні, а не як кароткі пераказ зместу главы: тут запатрабаваныя біблейскія кампаненты (сюжэты, думкі, вобразы), дакладна прасочваецца арыентацыя на паэтыку біблейскага верша (у прыватнасці, біблейскі паралелізм). У сваю чаргу, гэтыя надпісанні могуць быць расцэнены як вершаваныя тэксты, створаныя ў традыцыях біблейскага вершаскладання. У цэлым стварэнне паэтычных травесцій на аснове тэкстаў Святога Пісання адпавядае агульнай тэндэнцыі той эпохі: паэтычныя пералажэнні Бібліі віталіся, бо яны даказвалі, што «паэзія можа быць свяшчэннай»[21].

У надпісаннях главаў, якія Францыск Скарына надрукаваў пры выданні пасланняў апостала Паўла, таксама ёсць пэўны дыдактычны элемент, што гаворыць пра наяўнасць у гэтых тэкстах біблейскай парэнезы. Пад парэнезай разумеецца «кароткае, добразычлівае павучанне(і), што нагадвае [аўдыторыі] аб маральных практыках, якіх яна павінна прытрымлівацца ці пазбягаць; і выяўляе ці мае на ўвазе агульнасць светапогляду ды не дапускае пярэчанняў»[22]. Сама вершаваная форма спрыяе больш моцнаму эстэтычнаму і дыдактычнаму ўздзеянню на чытача, дапамагае яму лепш засвойваць адпаведныя тэксты. У надпісанні Францыск Скарына ўводзіць таксама экзегезу, што можна праілюстраваць наступнымі прыкладамі:

[Надпісанне 16 главы «Паслання да Рымлянаў»]
*Припоминаеть апостол людей богобойных,*
*залецая их.*
*Да и мы таковы же будем вотерпеніи.*
*Таже скончаваеть послание*[23].

[Надпісанне 4-й главы «Другога паслання да Карынцянаў»]
*Похваляеть апостол служение Новаго Закону,*
*и велить для Христа добрые дела чинити,*
*и теж злыя противности терпети*[24].

У асобных надпісаннях можна заўважыць выкарыстанне розных сістэм вершаскладання, што праяўляецца, апроч іншага, у паслядоўным выкарыстанні рыфмы. Адзначаныя асаблівасці дазваляюць сцвярджаць, што некаторыя надпісанні выконваюць таксама функцыю мнеманічных вершаў да главаў пасланняў апостала Паўла, чытанне і дэкламацыя якіх маглі быць, на думку Ф. Скарыны, карыснымі для «паспалітага» чытача, напрыклад:

[Надпісанне 6-й главы «Першага паслання да Цімафея»]
*Навчаеть апостол владыки,*
*дабы о иных печу имели,*
*от злого ся воздержали,*
*доброе наследовали,*
*на богатество не уповали*[25].

Тэксты пасланняў апостала Паўла ў выданні Ф. Скарыны (за выключэннем «Першага паслання да Цімафея») завяршаюцца пасляслоўямі, а «Другое пасланне да Карынцянаў» — пасляслоўем-малітвай. У гэтых тэкстах можна заўважыць, што не толькі святы Павел, але і яго сачыненні надзяляюцца Ф. Скарынам эпітэтамі пазітыўнай ацэнкі: «*Доконано ест чудное к Римляном послание светого, верховнаго в небе, навченаго учителя, Христова апостола и мученика Павла*»[26], «*Доконано ест первое и второе послание к Коринфом светого славного и верховнаго апостола Христова и избранного сосуда Божия Павла*»[27], «*Доконано ест ко Тіту послание светого славного учителя, апостола Христова Павла*»[28] і інш.

Славаслоўе ў адрас святога Паўла прадстаўлена і ў форме жанраў літургічнай паэзіі. Так, у выдадзеным Францыскам Скарынам «Следаваным Псалтыры» (Вільня, 1522)[29] змешчаны «*Акафіст светому верховному апостолу Петру и Павлу и всем апостолом*», «*Канон святым верховным апостолом Петру и Павлу, и всем дванадесети*», малітва пасля адпаведнага акафіста і «*Молитва в четверток святым апостолом, глаголемая по каноне*», у якіх аўтар звяртаецца да Пятра і Паўла. У вершы «*Акафіст пресладкому імени Господа нашего Ісуса Христа*» цытата з паслання апостала Паўла (Флп 2, 9-11) выкарыстана для ўсхвалення імя Збаўцы: «*Дивное имя твое, Ісусе, Спасе нашь, недостойными усты воспоминающе, славим тя, иже ест более всякого имени etc.*»[30]. У гэтым жа акафісце Ф. Скарына звяртаецца і непасрэдна да асобы апостала Паўла: «*Царю мой и Боже мой, поспеши помиловати мя, яко же помиловал есь Петра отверзшегося, много бо кратъ аз отвергохся тебе нечисътыми делы своими, и яко же принял еси Павла, гонившего тя, тако приими мя, Свете, недостойнаго, и яко возвал есь Матфея от мытарей и вчинил его еувангелистом, тако допусти мя прославити имя твое пресвятое, Ісусе, и пети тобѣ в животе и по смерти с ними вовеки: Аллилуйа!*»[31].

Адзначым, што Аляксандр Наумаў і Марыёла Вальчак Мікалайчакова ў польскамоўным выданні літаратурнай спадчыны беларускага першадрукара «*Franciszek Skoryna z Połocka. Życie i pisma*» (Гнезна, 2007) звязваюць з пасланнямі апостала Паўла асобныя месцы твораў Ф. Скарыны з «Следаванага Псалтыра» 1522 года, што абумоўлена спецыфікай і паэтыкай яго тэкстаў[32].

У сваіх выданнях Францыск Скарына неаднаразова адсылае чытача да пасланняў апостала Паўла з дапамогаю маргіналій-спасылак у прадмовах і маргіналій паралельных месцаў у асноўным тэксце Святога Пісання. Таксама ёсць і ўказанні на чытанне твораў апостала Паўла ў Сабборніку з «Апостала» (1525).

Вялікая ўвага святому Паўлу і яго спадчыне на-

даецца ў прадмовах не толькі да саміх пасланняў Апостала, але і да іншых кніг Бібліі. Пры гэтым першадрукар пералічвае лісты Паўла, характарызуе іх змест і адзначае вартасці твораў: «*Третии пак писма дал нам Господь Бог, иже пишуть о мудрости, о разуме и о науце Нового и Ветхаго Закона, яко суть епистолы или послания святого апостола Павла: к Римляном едино, к Коринфом двое, к Галатом едино, ко Ефисеем едино, к Филипписеом едино, к Коласаем едино, к Селуняном двое, к Тимофею двое, к Титу едино, к Филимону едино, ко Іевреом едино*» (Прадмова да «Першай кнігі Самуэля»)[33]; «*Пак ли ти ся любить разумети ло[г]ику, она же учить з доводом розознати правду от кривды, чти книгу светого Іова или Послания светого Апостола Павла*» (Прадмова «*Во всю Библію рускаго языка*»)[34]. «*И* [Пётр. — А. А.] *приводить нас к доброму житию приповестями книг, и страхом судъного дня отводит от злых дел, и велит святого Павла епистолы часто чести*» (Прадмова да «Другога паслання Пятра»)[35].

Францыск Скарына таксама звяртаецца да асобы апостала Паўла, акцэнтуючы ўвагу на яго значэнні ў біблейскай гісторыі: «*Затым — Павел-апостол ко седма церквам пишеть послания, осмое ко Евреем, Тимофея, и Тита и Филомона научаеть, — сосуд избранный и вчитель всех народов*» (Прадмова «*Во всю Библію рускаго языка*»)[36]; «*Вѣликий Лука Анътиохийский, в лекарских науках доктор пренавченый и евангелист Ісус Христов предивный, товариш славнаго всех народов учителя и апостола Господьня Павла*»[37]; «*За тым починаеть жития или деяния светых апостол, а наболей дву верховных, святого Петра и святого Павла, ему же товаришем был, доводне сказывати*»[38]; *Во сих же других пишеть о том же возрастающем, процвѣтающем и плод безчисленый выдающем; яко на первом казаніи святого Петра приступиша ко вере Христове и крестишеся мужев боле[е] трех тысещ, што ж пак потом наболей епистолами и проповеданнем святого Павла и иных светых апостол, они же всю вселенную навратиша*»[39]; «*Наболей пак святый Лука в сей книзе ку концу пишеть о навращеніи дивном ко вере Христове святого апостола Павла, опроповеданіи его, о хоженіи и плаваніи его по морю даже до Рима*» (Прадмова да «Дзеяў святых Апосталаў»)[40].

У сваіх прадмовах беларускі першадрукар актыўна выкарыстоўвае цытаты з пасланняў апостала Паўла. Гэтыя цытаты апелююць да аўтарытэта Апостала, выступаюць важным складнікам экзегезы і з'яўляюцца неад'емнай часткай твораў першадрукара, элементам іх паэтыкі. Спынімся на некалькіх прыкладах.

Прадмова да «Псалтыра» («Кніга Псальмаў», 1517) адкрываецца цытатай з «Другога паслання да Цімафея»: «*Всяко писание Богом водъхненое полѣзно ест ко учению и ко обличению, исправлѣнию и ко наказанию правды. Да совѣршен будеть человѣк Божий и на всяко дѣло добро уготован*», — *яко святый апостол Павел пишеть. И сего ради Светые Писма уставлѣна суть к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи: едины Законом Ветхым и Новым, другые светыми пророки даны суть нам, иные деянием светых отець, а некые прытъчами премудрых учителей, некоторые теже песнями и псалмы, от царя Давыда и от иных Божиих певцев сложеными, яко ест Псалътыр*»[41]. У дадзеным выпадку цытату «*Усё Пісанне натхнёна Богам і карыснае для навучання, дакору, выпраўлення і ўзгадавання ў справядлівасці, каб дасканалым быў чалавек Божы, настаўленым на ўсякае добрае дзеянне*» (2 Цім 3, 16–17)[42] варта лічыць «біблейскім тэматычным ключом» (паводле тэрміналогіі Р.Пікіа[43]) не толькі да гэтай прадмовы, але і да ўсёй творчай спадчыны Ф. Скарыны. Не выпадкова фрагмент менавіта з гэтай цытаты на 18-ці мовах упрыгожвае будынак Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь у Мінску.

Цытаты з пасланняў апостала Паўла могуць размяшчацца ў прадмовах разам з цытатамі з іншых біблейскіх кніг, утвараючы своеасаблівыя камбінацыі з цытатаў, якія набываюць у такім кантэксце новыя адценні значэння: «*Жертва козельца правую а смертелную плоть нашего избавителя преобразовала иному пророку Божию пишущу: «По дву и шестидесяти неделех убит будеть Христос, и не будуть людие его, они же имають отпретися его».*

*Теже и доктор языков глаголеть: «Немощная убо закону о нем же немощьствоваше плотию. Бог своего сына послав в подобие плоти греха и с него учинив жертву за грех, осудил грех плотию его, да оправдание закона скончается в нас, иже не по плоти ходимо, но по духу. Сущии убо живи по плоти плотская мудрьствують, а иже по духу — духовная. Мудрость убо плотская ест смерть, а мудрость духовная — живот*» (Прадмова да «Кнігі Левіта»)[44].

У дадзеным выпадку Францыск Скарына будуе правобразную канструкцыю[45] («*Жертва козельца правую а смертелную плоть нашего избавителя преобразовала*»), выкарыстоўваючы біблейскія цытаты ў якасці аргумента на карысць праўдзівасці сваіх словаў.

Зварот да «правобразаў» назіраецца ўжо ў Новым Запавеце. У «Пасланні да Габрэяў» напісана: «*Закон, маючы цень будучых даброцяў, а не саму выяву рэчаў, аднымі і тымі самымі ахвярамі, штогод без перастанку складанымі, ніколі не можа ўдасканаліць тых, што прыступаюцца*»[46] (Гб 10, 1).

Францыск Скарына не мог не звярнуцца да вопыту апостала Паўла пры стварэнні правобразных канструкцый у сваіх прадмовах, пры тлумачэнні Святога Пісання «паспалітаму» чытачу. Адметна, што першадрукар таксама выкарыстоўвае дакладныя цытаты з пасланняў апостала Паўла, якія змяшчаюць «правобразнае» тлумачэнне, а не пераказвае іх. Напрыклад, разважаючы пра Стары і Новы Запавет,

Ф. Скарына выкарыстоўвае цытату з «Паслання да Галатаў» (Гал 4, 22–26): «*Сии два законы, Ветхий и Новый, вси три светии патриархи пред Моисеем указовали, болшему быти последнему, нежели первому. Авраам два сына имел ест: единаго от рабыне, а другаго от свободныя. Но той, иже от рабыне, по плоти родися, а иже от свободныя — по обетованию; еже иначей бываютъ сказаема — сии суть два законы. Един от горы Синай в работу ражая, еже ест Агар, Синай убо гора ест во Аравии, прилучаеть же ся к нинешнему Ерусалиму, и работает со чады своими. Вышний же Ерусалим свободѣн ест, и той ест мати всех нас*»[47].

Францыска Скарыну і апостала Паўла ў плане літаратурнага ўзаемадзеяння звязвае яшчэ адна акалічнасць. Балгарская даследчыца Ліла Мончава сцвярджае: «*Апостал Павел упершыню ў сваіх лістах выкарыстоўвае разгорнутую прадмову — зварот да адрасата, а таксама і разгорнутую фінальную частку — пасляслоўе. Паўлава прадмова, якая замяняе кароткія прывітанні «будзь шчаслівы» (χαιρε) у грэчаскім і «будзь здаровы» (salve) у лацінскім лісце, з'яўляецца своеасаблівай рэпрэзентацыяй аўтара, у якой ён абгрунтоўвае сваю місію прапаведніка і гаворыць аб асноўнай мэце свайго апаведу. <…> Павел пашырае і заключную частку ліста, якая завяршае агульную дыдактычную лінію ліста фіналам, што ўрачыста бласлаўляе і ўслаўляе боства*»[48]. Услед за Л. Мончавай беларускі даследчык С. Каган вядзе генезіс прадмоваў у старажытнай беларускай літаратуры ад пасланняў апостала Паўла[49]. Сапраўды, першыя біблейскія вершы ў пасланнях святога Паўла нагадваюць прадмову — напрыклад, Рым 1, 1–7, 1 Кар 1–9 і інш. Пэўнае сугучча, а менавіта наяўнасць малітоўнага кампанента, назіраецца ў асобных пасляслоўях Ф. Скарыны і апошніх вершах пасланняў апостала Паўла: «*Супакой братам і любоў з вераю ад Бога Айца і Госпада Ісуса Хрыста. Ласка з усімі, якія любяць Госпада нашага Ісуса Хрыста ў незнішчальнасці* (Эф 6, 23–24)»[50]. «*Скончалася ест книга сия, рекомая Притчи или Присловия премудраго Саломона, царя Израилева, сына Давыдова, он же был царем в Ерусалиме, с помощию Бога, спасителя и утешителя нашего, повелением, працею и выкладом избраннаго мужа, в лѣкарскых науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцка, у славном старом месте Празском лѣта по нарожении Господа нашего Ісуса Христа, Сына Божия, тысещного пятсотого и 17, месеца октоврия, дня шестаго. Ему же то буди хвала, честь и поклонение с отцем и святым духом нынѣ и всегда и в вѣк вѣком. Аминь*»[51].

Усе гэтыя тэкставыя асаблівасці дазваляюць гаварыць пра тое, што пасланні апостала Паўла зрабілі ўплыў на развіццё жанраў прадмовы і пасляслоўя як у творчасці Францыска Скарыны, так і пасля яго. Сачыненні Апостала мелі апасродкаваныя адносіны да ўзнікнення такога феномена ў старадрукаваных выданнях Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVII стст., як «прадмоўна-пасляслоўны комплекс»[52], цэнтральным элементам якога з'яўляецца прадмова.

---

1 Библия. Книги Священного Писания Ветхого и Нового Завета в синодальном переводе с комментариями и приложениями. — Москва, 2006.
2 Курціус, Е. Р. Європейська література і латинське Середньовіччя / Пер. з німецької Анатолій Онишко. – Львів, 2007. — С. 284.
3 Фабрис, Р. Павел. Апостол народов / Пер. с итал. В. Тимофеевой. — Москва: 2008. — С. 4.
4 Гл.: Библия… С. 1893.
5 Тамсама, с. 1893.
6 Тамсама, с. 1893.
7 Францыск Скарына. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія/ Уступ. арт, падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А.Ф. Коршунава, паказальнікі А.Ф. Коршунава, А.В. Чамярыцкага. — Мінск, 1990. — С. 122.
8 Biblia ruska, vyložena doktorom Franciskom Skorinoju (Prag, 1517–1519): Kommentare; Apostol. — Wilna, 1525: Fascimile und Kommentar / hrg. von Hans Rothe und Friedrich Scholz. Paderborn etc., 2002. — S. 787.
9 Францыск Скарына. Творы… С. 123.
10 Тамсама, с. 115.
11 Тамсама, с. 115.
12 Тамсама, с. 115.
13 Темчин, С. Ю. Апокрифический источник Предисловия Франциска Скорины к Посланию к римлянам апостола Павла // Senoji Lietuvos literatūra, № 24. — Vilnius, 2007, p. 101–109.
14 Пад надпісаннем главы мы разумеем тэкст, які размешчаны непасрэдна перад кожнай біблейскай главой і каратка раскрывае яе змест. У творчасці Францыска Скарыны надпісанні главаў выступаюць як асобны літаратурны жанр. Падрабязней гл.: Акушэвіч, А. А. «Надпісанні» главаў як творчая спадчына Францыска Скарыны // Вестник МГЛУ, серия 1: Филология, №4., 2015, с. 111–119.
15 Biblia ruska... S. 458.
16 Францыск Скарына… С. 119.
17 Тамсама, с. 113.
18 Biblia ruska... S. 531.
19 Ibidem. S. 635.
20 Францыск Скарына… С. 123.
21 Pollmann, K. Das lateinische Epos in der Spätantike // *Von Göttern und Menschen erzählen. Formkonstanzen und Funktionswandel vormoderner Epik* / Jörg Rüpke (Hg.). — Stuttgart, 2001. — S. 95.
22 Алиева, О. В. Паренеза: философская и риторическая традиция // Вестник Православного Свято-Тихоновского гуманитарного университета. Серия 3: Филология, вып. 3 (25), 2011. — С. 23.
23 Biblia ruska... S. 521.
24 Ibidem. S. 600.
25 Ibidem. S. 754.
26 Францыск Скарына... С. 110.
27 Тамсама, с. 113.
28 Тамсама, с. 121.
29 Дзякуючы Я. Неміроўскаму гэта выданне ўвайшло ў навуковы дыскурс пад назвай «Малая падарожная кніжка» Аргументацыю на карысць ідэнтэфікацыі гэтага выдання Ф. Скарыны як «Следаванага Псалтыра» гл.: Некрашэвіч-Кароткая, Ж. В. Віленскае выданне Францыска Скарыны: «Следаваны Псалтыр» ці «Малая падарожная кніжка?» // Беларускае літаратуразнаўства: навукова-метадычны зборнік, вып. 10. — Мінск, 2012. — С. 69–74.
30 Францыск Скарына… С. 87.
31 Тамсама, с. 93.
32 Franciszek Skoryna z Połocka. Życie i pisma / pod red. A. Naumowa i M. Walczak-Mikołajczakowej. — Gniezno, 2007.
33 ФранцыскСкарына… С. 33.
34 Тамсама, с. 46.
35 Тамсама, с. 106.
36 Тамсама, с. 50.
37 Тамсама, с. 103.
38 Тамсама, с. 103–104.
39 Тамсама, с. 104.
40 Тамсама, с. 104.
41 Тамсама, с. 17. У дадзенай кнізе А. Ф. Коршунаў вылучыў толькі адзін біблейскі верш у гэтым фрагменце — 2 Цім 3, 17. У выданні «Franciszek Skoryna z Połocka: Życie i pisma» (Гнезна, 2007) межы цытаты вызначаныя правільна, аднак крыніца цытаты ўказваецца недакладна — 2 Цім 3, 17.
42 Біблія: Кнігі Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў МХРБ, Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь. — Мінск, 2012. — С.1053.
43 Гл.: Пиккио, Р. Slavia Orthodoxa : Литература и язык. — Москва, 2003. — С. 431–466.
44 ФранцыскСкарына… С. 58.
45 Пад правобразнай канстукцыяй мы разумеем такі біблейскі кампанент, які ў кароткай форме паказвае правобразы Новага Запавету ў Старым паводле наступнай схемы: вобраз (сюжэт) Старога Запавету + слова, якое ўказвае на тлумачэнне правобраза + вобраз (сюжэт) Новага Запавету. У прыведзеным прыкладзе мы бачым правобразную канструкцыю, падмацаваную біблейскімі цытатамі.
46 Біблія… С. 1063.
47 Францыск Скарына… С. 65.
48 Мончева, Л. Апостолическое письмо в становлении художественно-эстетической традиции средневековой литературы // *ТОДРЛ, т. 42.* — Ленінград, 1989. — С. 191.
48 Каган, С. Л. Генезіс жанру прадмовы ў старажытнай беларускай літаратуры // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе, ч. 1. — Гродно, 2003. — С. 203.
50 Біблія… С. 1036.
51 ФранцыскСкарына… С. 23.
52 Аб прадмоўна-пасляслоўным комплексе гл.: Кароткі, У. Г. Тыпалогія прадмоў і пасляслоўяў беларускіх паслядоўнікаў Скарыны // Спадчына Скарыны: Зборнік матэрыялаў I Скарынаўскіх чытанняў (1986). — Мінск, 1989. — С. 226–232.



Адам Дваракоўскі

# УБАЧЫЦЬ «АПОШНЮЮ ВЯЧЭРУ»

Ёсць творы мастацтва, вядомыя кожнаму з кніг, фільмаў, каляровых рэпрадукцый. Па іх мы атрымліваем уражанне пра карціну, скульптуру або помнік архітэктуры. Калі пашчасціць убачыць нешта з гэтага «ўжывую», узнікае ўнутраны канфлікт паміж тым, што мы бачым, і што малявалася нашаму ўяўленню. Здараецца, што, разглядаючы твор «ужывую», мы не атрымліваем моцнага ўражання. Але ёсць шэдэўры, якія ў рэчаіснасці ўплываюць на чалавека неімаверна моцна, і гэтыя ўражанні застаюцца незабыўнымі. Адзін з іх — гэта «Апошняя Вячэра» Леанарда да Вінчы.

Убачыць фрэску няпроста. Каб захаваць яе, штодня можна прапускаць у рэфектарый міланскага кляштара Санта Марыя дэлле Грацые толькі васемсот чалавек. Гэта зусім няшмат, калі ведаць, што ў сталіцу Ламбардыі кожны дзень прыязджаюць дзясяткі тысяч турыстаў. Квіток трэба набываць мінімум за месяц, і неабходна прыйсці дакладна а вызначанай гадзіне. Пасля група з 25-ці чалавек праходзіць праз кляштарныя брамы ў спецыяльны пакой-шлюз, дзе некалькі хвілін рэгулюецца тэмпература і вільготнасць паветра. Пасля гід тлумачыць правілы бяспекі і распавядае крыху пра Леанарда да Вінчы, і толькі тады адчыняе дзверы. Нарэшце можна ўвайсці ў рэфектарый.

Старажытны кляштарны сталовы пакой — даволі вялікае памяшканне, выцягнуты прастакутнік. Даўжэйшыя сцены белыя, без вокнаў і без упрыгожванняў. На меншых сценах з аднаго боку — манументальнае «Укрыжаванне», а з іншага — мэта нашага наведвання, найбольшая і найцудоўнейшая фрэска генія італьянскага Адраджэння, якая захавалася да нашага часу. Але каб захапляцца ёю, наведнікі маюць толькі 15 хвілін. Да таго, як увойдзеш у рэфектарый, здаецца, што гэта вельмі доўга, а перад фрэскаю хвіліны мінаюць, як адно імгненне. Часу замала. Хацелася б застацца тут і глядзець — зблізу, здалёк і зноў зблізу, сузіраючы кожны захаваны фрагмент фрэскі, бо ніводная, нават найлепшая рэпрадукцыя, не стварае такога ўражання, як рэальная «Апошняя Вячэра».

Леанарда нарадзіўся ў тасканскай вёсцы Вінчы, а зрабіў свае першыя крокі як мастак у Фларэнцыі, у майстэрні славутага ў тыя часы мастака і скульптара Верок'ё. Захаваўся абраз, у працы над якім малады Леанарда дапамагаў тады свайму настаўніку. Анёл, які кленчыць унізе «Хросту Езуса Хрыста», значна адрозніваецца ад астатняй часткі твора. Кажуць, што Верок'ё, вельмі дасведчаны мастак, убачыўшы намаляваны вучнем фрагмент, мусіў заявіць, што больш не будзе маляваць. Сапраўды, ён заняўся скульптураю, і вельмі паспяхова, а Леанарда развіваўся далей у жывапісе, цікавіўся паэзіяй, музыкай, архітэктурай, дакладнымі

і прыродазнаўчымі навукамі.

У 1482 г. ён прапанаваў свае паслугі міланскаму князю Ладавіку Сфорца, якога называлі Іль Мора. Князь быў уражаны шматбаковымі здольнасцямі і дасканалымі манерамі мастака і наняў яго арганізатарам прыёмаў і забаваў. Рыхтуючы маскарады і прадстаўленні для каралеўскага двара, Леанарда меў вольны час і займаўся назіраннямі за прыродаю, эксперыментамі і праектаваннем розных машын і механізмаў, якія сам прыдумваў. Выпадкова, час ад часу, ён браўся за пэндзаль. Тады ўзнік партрэт Цэцыліі Галерыяні, паўсюдна вядомы як «Дама з гарнастаем». Тады ж таленавіты нараджэнец Тасканіі атрымаў найважнейшую замову ў сваім жыцці, як высветлілася за мінулыя стагоддзі.

У 1495 г. прыёр дамініканскага кляштара пры касцёле Санта Марыя дэлле Грацые замовіў улюбёнцу княжацкага двара фрэску на адной са сценаў рэфектарыя, сцэну з Апошняй Вячэры Хрыста. Леанарда працаваў над ёю на працягу чатырох гадоў, з вялікімі перапынкамі. Час ад часу ён захапляўся іншымі праектамі і цэлымі тыднямі не заходзіў у майстэрню. Нецярплівым замоўцам ён тлумачыў, што гэты час патрэбны яму, каб знайсці адпаведнае натхненне для працы.

Аднойчы ён цэлы месяц не з'яўляўся ў рэфектары, і прыёр кляштара напісаў скаргу самому князю. Калі Ладавіка нагадаў Леанарда пра фрэску, той упэўнена адказаў, што спыніў працу, бо шукае мадэль для Юды, але нідзе не можа знайсці мужчыну з такім брыдкім і злым тварам, як трэба. Аднак, калі прыёр так спяшаецца, то Леанарда можа напісаць здрайцу Апостала з яго самога. Дамініканін не на жарт спалохаўся і нейкі час не турбаваў мастака. Фрэска была завершаная ў.



Кляштар пасля бамбёжак падчас Другой сусветнай вайны.

З таго часу і да сённяшняга дня майстэрства, з якім напісаная «Апошняя Вячэра», захапляе ўсіх, хто яе бачыць. Але не ўсе і не заўсёды маглі ацаніць мастацкую каштоўнасць гэтага твора. Падчас напалеонаўскіх войнаў у кляштары кватаравалі французскія жаўнеры, і рэфектарый працягваў быць сталовым пакоем. Толькі жаўнерам не хацелася ісці туды ў абход, праз калідор. Яны знайшлі простае рашэнне, прабіўшы дзверы ў сцяне, якая аддзяляла кухню ад сталовага пакою. Сапраўды простая і геніяльная думка, калі б не адна дробязь — менавіта на гэтай сцяне знаходзілася «Апошняя Вячэра». Ніжняя цэнтральная частка твора была незваротна страчаная.

Вялікая пагроза для фрэскі ўзнікла напрыканцы Другой сусветнай вайны, калі самалёты саюзнікаў вялі бамбардзіроўку Мілана. Сцяна рэфектарыя была цалкам, да самай столі, абкладзеная мяхамі з пяском, і, відаць, гэта выратавала «Апошнюю Вячэру».

Найбольшаю ж пагрозаю для шэдэўра была і з'яўляецца няўмольнасць часу, які неміласэрна нішчыць вельмі тонкі слой фарбы. З часоў Сярэднявечча на сценах малявалі метадам *al fresco*, на свежай тынкоўцы. Мастак клаў тонкі слой грунту на кавалак сцяны і на працягу некалькіх гадзінаў замалёўваў яго фарбамі. Пігмент замацоўваўся на вільготнай свежай тынкоўцы. Калі слой высыхаў, фарба трымалася вельмі моцна.

Аднак Леанарда не карыстаўся класічным правераным метадам, бо гэта патрабавала хуткага малявання, а паправіць або дамаляваць нешта было немагчыма. Гэтага мастак не мог сабе дазволіць, ён вельмі часта нешта папраўляў і змяняў кампазіцыю сваіх твораў. Відаць, гэтак было і з «Апошняй Вячэрай». Ён скарыстаўся эксперыментальным метадам нанясення фарбы, і праз пяцьсот гадоў твор пачаў сыпацца і выцвітаць проста на вачах.

У васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя распачалася складаная праца па кансервацыі, якая доўжылася 21 год, у пяць разоў даўжэй, чым напісанне фрэскі. Яе пачысцілі, прыбралі верхнія дамалёўкі, як мага больш умацнілі каляровы слой, і дзякуючы гэтаму мы можам убачыць фрэску.

Леанарда вырашыў паказаць сцэну, апісаную ў Евангеллі па-

водле Мацвея, у той момант, калі Езус прамаўляе: «Сапраўды кажу вам, што адзін з вас выдасць Мяне» (Мц 26, 21). Апосталы, размеркаваныя па групах у тры чалавекі, надзвычай эмацыйна рэагуюць на словы Настаўніка. У іх жэстах і міміцы бачныя здзіўленне, шок, роспач, адпрэчванне, спроба высветліць, што значаць гэтыя словы. Юда, павернуты да нас плячыма, трымае ў руцэ мяшэчак — напэўна, са срэбранікамі.

Адзіны, хто застаецца спакойным сярод гэтых драматычных падзеяў, — гэта Езус у цэнтральнай частцы фрэскі. Яго постаць прамяніцца спакоем і дабрынёю. Над Яго галавою няма німба, няма арэолу, толькі вакно за спінаю, праз якое відаць краявід у ясны сонечны дзень. Галава Хрыста знаходзіцца ў цэнтры, на перасячэнні ўсіх ліній перспектывы. Дастаткова аднаго пагляду, каб зразумець, хто з'яўляецца на фрэсцы найважнейшаю асобаю.

Прадуманую кампазіцыю, дасканалую перспектыву, ідэальна перададзеныя эмоцыі можна разглядаць у гэтым творы і сёння. Але часткова геніяльнасць фрэскі для нас страчаная ўжо назаўжды. З ранейшых апісанняў вядома, што металічны цынавы посуд, які стаіць на стале, быў намаляваны так дакладна, што ў ім было відаць адбіткі ўбрання Апосталаў. Цяпер убачыць падобныя дробязі ўжо немагчыма — у такім стане знаходзіцца фрэска.

Аднак наймацнейшае ўражанне ствараецца, калі глядзець на твор з адлегласці, з сярэдзіны пакоя. Геніяльнасць мастака выяўляецца ў неймаверным адчуванні перспектывы. Лініі сценаў, вокнаў і дзвярэй сыходзяцца такім чынам, што ўзнікае ўражанне, быццам евангельская сцэна адбываецца тут і цяпер, а прастора, у якой знаходзіцца стол, — гэта працяг рэфектарыя,



Загадкавы фрагмент фрэскі.

які цягнецца яшчэ далёка за плячыма Езуса і Яго вучняў.

Распавядаючы пра «Апошнюю Вячэру», нельга не ўзгадаць пра схаваныя у жывапісе таямніцы і паведамленні. Ва ўзнікненні розных легендаў на гэты конт вінаваты, зрэшты, і сам Леанарда, пра якога дакладна вядома, што ён вельмі любіў загадкі і рэбусы. Ён сам стварыў сабе вобраз загадкавага і таямнічага мастака, таму не без прычыны сёння кажуць пра мноства схаваных у фрэсцы знакаў.

Адзін музыка і матэматык знайшоў на ёй схаваны нотны запіс кароткага рэквіема. Нехта іншы ўгледзеў падабенства паміж Езусам і Тамашам, дапусціўшы, што Леанарда так інтэрпрэтаваў адзін з апокрыфаў, дзе гаворыцца пра тое, што Тамаш і Езус былі двайнятамі. Падобныя недарэчныя «таямніцы» лёгка абвяргае навука і здаровы розум, як, напрыклад, вядомую загадку з дадатковаю рукою, якая трымае нож і скіроўвае яго ў бок апостала Барталамея. Пасля апошняй кансервацыі стала выразна бачна, што гэта ніякая не таямнічая невядома чыя рука, а рука Пятра, які абапёрся на яе, устаючы ад стала.

Найбольш пра «Апошнюю Вячэру» загаварылі пасля публікацыі рамана Дэна Браўна, дзе распавядаецца пра схаваны ў фрэсцы код, які раскрывае самыя дзівацкія і недарэчныя тэорыі. Аўтар «Коду да Вінчы» звярнуў увагу на той факт, што постаць святога Яна, намаляваная праваруч Езуса, мае адзенне супрацьлеглых адзенню Хрыста колераў і вучань сядзіць у такой позе, што калі б Ян нейкім цудоўным чынам апынуўся з іншага боку ад Настаўніка, то яго галава апусцілася б на плячо Хрыста. Гэтага «ўважлівага назірання» было дастаткова, каб палічыць, што святы Ян — гэта Марыя Магдалена. Тэорыю вельмі лёгка абвергнуць хаця б таму, што калі праваруч Хрыста Магдалена, дзе тады падзеўся святы Ян, які, паводле Евангелля, быў адной з ключавых асобаў у намаляванай сцэне.

Не варта затрымліваць увагу на недарэчных тэорыях. У фрэсцы можна знайсці мноства відавочных сведчанняў геніяльнасці мастака і адначасова сведчанняў вялікай таямніцы — таямніцы Збаўлення. І сапраўды, шкада часу на пошук схаваных кодаў або канспіратыўных паведамленняў у сусветных маштабах. А яшчэ больш шкада, што папулісцкая інтэрпрэтацыя і ўяўная тэорыя змовы прывялі да таго, што мноства людзей, гледзячы на геніяльны твор мастацтва, шукае ў ім схаваныя значэнні, не заўважаючы таленту мастака і прыгажосці намаляванай сцэны.

Сапраўды, варта паехаць у Мілан хаця б толькі для таго, каб наведаць рэфектарый пры касцёле Санта Марыя дэлле Грацые.

*Пераклад з польскай мовы Сабіны Руткоўскай.*
Паводле: *Polonia Christiana*, № 51, ліпень-жнівень 2016 г..



Аркадзь Шпунт

# НДФ–2207

## *Нататкі рэстаўратара*

...Ад сенсацый у наш час не чакаюць дабра, але гэтая не мела ніякай пагрозы, таму і сенсацыяй магла быць толькі для спецыялістаў ды журналістаў. А можа, гэта і ўвогуле не сенсацыя — абраз Хрыста, які *«лічыцца адным з найлепшых твораў Дамеля»*, на стале рэстаўратара ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску...

*«Пад гэтымі сімваламі пакуты і смерці, пад заслонаю тварэння ўласнага пэндзля, пад вялікім алтаром спачываюць астанкі самога Дамеля. Ані ў капліцы, ані ў надворнай яе сцяне грабніцы мастака няма — маўзалеем яму служыць уласны твор»*, — пісаў Уладзіслаў Сыракомля («Мінск», 1992 г., пераклад з польскай мовы Хрысціны Лялько), наведаўшы ў сярэдзіне пазамінулага веку капліцу на Кальварыйскіх могілках.

Але пра які «маўзалей» ідзе гаворка? У цьмяных абрысах, у хаосе пашкоджанняў і забруджванняў рэстаўратару цяжка ўявіць тое, што бачыў Уладзіслаў Сыракомля. Адзінае, што сапраўды бачна і несумненна, дык гэта мноства разрываў палатна і пах распаду, тлену, тое жудаснае пачуццё, якое перажываеш кожны раз, калі сутыкаешся з варварскімі адносінамі да мастацкага твора...

Для рэстаўратара ўсё пачынаецца з хіміка-фізічных даследаванняў і пробнай працы, па выніках якой складаецца «Праграма рэстаўрацыйных мерапрыемстваў» — так называецца дакумент, які папярэднічае кожнаму рэстаўрацыйнаму ўмяшальніцтву. Праца пачынаецца пасля зацвярджэння праграмы музейнаю рэстаўрацыйнаю радаю. Першы пункт праграмы гучыць наступным чынам:

*1. Замацаванне асновы і фарбавага слою жывапісу з дапамогаю BEVA–374.*

...Працэс рэстаўрацыі — гэта амаль медытацыя. Аднастайная праца патрабуе напружанай увагі, але падчас яе ў галаву прыходзяць самыя розныя думкі, тым больш, што на стале не праца невядомага мастака, а, напэўна, сапраўды, знакамітага Яна Дамеля.

Вядома, што Ян Дамель пісаў карціны на гістарычныя тэмы, партрэты, пейзажы, шмат працаваў для касцёлаў, паспяхова праяўляючы сябе ў розных стылях — і класіцызм, і неакласіцызм, і рамантызм былі падуладнымі яго пэндзлю. У музеях Літвы, Польшчы і Расіі карціны мастака займаюць пачэсныя месцы. У Беларусі захаваліся ўсяго тры яго творы: «Святы Юзаф з Дзіцяткам Езусам» у вішнеўскім касцёле; «Святая Канстанцыя» — у Нацыянальным мастацкім музеі; «Вызваленне Паўлам I Касцюшкі» — у музеі Ваньковічаў у Мінску. Аднак ці ўсе гэта ве-

---

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

даюць? Як і тое, што Ян Дамель — беларускі мастак. Гавораць жа некаторыя, што гэта творца, так бы мовіць, трайной нацыянальнай прыналежнасці, а «па месцы адсідкі, несумненна, рускі». Спадабаўся яго пейзаж «Захад сонца ў Табольску» — дык можна і ў рускія мастакі запісаць! Калі ісці за такою логікаю, то і кардынал Свёнтэк, які «па месцы адсідкі» 10 гадоў правёў у Гулагу ў Інце і ў Варкуце, «таксама рускі», і такіх «рускіх» на постімперскай прасторы, і царскай, і савецкай, проста безліч — бяры і ўзбагачай рускую культуру!

Ян Кшыштаф Дамель (1780–1840) нарадзіўся ў Курляндыі, у Мітаве (цяпер Елгава, Латвія). Скончыў Віленскі ўніверсітэт. 1820–1822 гг. правёў у ссылцы ў Табольску, Томску і Енісейску. З 1822 г. жыў у Мінску, дзе і пахаваны на *«могілках мінскай арыстакратыі»* — так назваў Уладзіслаў Сыракомля Кальварыйскія могілкі. І лепшы свой твор, сваю апошнюю карціну, Ян Дамель напісаў у Мінску, і цяпер яна рэстаўруецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Рэстаўрацыяй кіруе Аляксандр Лагуновіч, а дапамагаюць яму Святлана Ішмаева, Сяргей Шаціла і Кацярына Грачова. Праца працягваецца паўгода і блізкая да завяршэння.

*2. Расчыстка адваротнага боку палатна.*

...Чамусьці амаль заўсёды трэба даказваць, што гэта беларускае, а не польскае ці літоўскае, ці якое-небудзь яшчэ. Вядомая гісторыя. Гісторыя Беларусі, якую мы ўяўляем, чытаючы Адама Міцкевіча (чый ён?) і Францішка Багушэвіча (мужыцкі адвакат!). Гісторыя Беларусі, якую мы ўсё яшчэ адкрываем, у тым ліку праз Караткевіча і праз фотаздымкі Яна Булгака, углядаючыся ў твары і пейзажы ў амаль містычным нетутэйшым святле...



Фрагмент карціны Яна Дамеля да рэстаўрацыі.

Зрэшты, у гэтым выпадку ніхто нічога не аспрэчвае і не даказвае. Проста на рэстаўрацыйным стале ляжыць палатно, якое пакуль цяжка назваць карцінаю, але рэстаўрацыя дакажа, што гэта карціна, і належыць яна пэндзлю Дамеля, які жыў і працаваў у Мінску.

*3. Выдаленне дэструктыўнага лаку, які страціў аптычныя ўласцівасці, з фарбавага слою жывапісу.*

...Запыленае палатно памерам тры на тры метры прывезлі з экспедыцыі па «зачыненых культавых памяшканнях» яшчэ ў 1970-я. З асцярогаю расклалі на падлозе: здавалася, што старое палатно з разрывамі рассыплецца пад рукамі. Выява не чыталася. Паглядзелі, згарнулі ў рулон і змясцілі ў НДФ — навукова-дапаможны фонд, пад нумарам 2207. І гадоў на сорак быццам забылі. Тады ў музеі нават не было вялікага стала, таму што не было вялікай майстэрні. Не было і кваліфікаваных спецыялістаў. Іх увогуле не было. І незразумела было, што гэта за палатно. Не было магчымасці

даследаваць.

З часам многае змянілася, і аднойчы, правяраючы захаванасць палотнаў на рулонах, праверылі і НДФ–2207. Аварыйны стан палатна патрабаваў тэрміновага паратунку, апрача таго, ужо можна было даследаваць жывапіс, каб вызначыць яго месца ў калекцыі музея.

...Замацавалі аснову жывапісу і фарбавы слой. Расчысціўшы жывапіс ад памутнелага лаку, убачылі ў залатым ззянні анёла з чашаю і спакутаваныя вочы Збаўцы. «З'явіўся Яму анёл з нябёсаў і ўмацаваў Яго...»



Рэстаўратары Святлана Ішмаева і Аляксандр Лагуновіч падчас працы над карцінаю Я. Дамеля.

*4. Склейванне разрываў палатна, выраб «пратэзаў» для страчаных частак палатна.*

...Няўжо гэта тая карціна, пад якою, назваўшы яе найлепшаю ў сваёй творчасці, Ян Дамель завяшчаў пахаваць сябе?

У аснове кампазіцыі карціны — евангельскі тэкст ад Лукі, адзіны, у якім гаворыцца пра з'яўленне анёла напярэдадні ўкрыжавання Хрыста. Няма ні зморaных сном вучняў, ні ўзбуджанага натоўпу на чале са здраднікам, ні задняга плану... За спінаю Хрыста — цемра. Кампазіцыйны рух імкнецца ўверх — там анёл у залатым ззянні, і туды звернутыя спакутаваныя вочы Збаўцы. Мастак выбраў сюжэт, які падкрэслівае трагічную адзіноту Хрыста. Быць ці не быць — гэта не пра Бога, а пра чалавека. Магчыма, у апошнія гады свайго жыцця Ян Дамель адчуваў гэта найбольш востра. Зрэшты, раней ці пазней трагізм адзіноты спазнае амаль кожны, каму дадзены розум...

*5. Расцяжка палатна на падрамніку, выпрамленне дэфармацый палатна.*

...Біяграфія Яна Дамеля магла б напоўніць сюжэт аповесці або фільма. Яго жыццё было насычаным прыгодамі, працаю, кантактамі з няпростымі людзьмі, барацьбою за існаванне. Што ні кажы, а тыя, хто нарадзіўся пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, жылі ў эпоху вялікіх узрушэнняў: нашэсце і разгром Напалеона, цяжар панавання Расійскай імперыі, філаматы і філарэты, масоны, шляхта, авантурысты, наёмнікі, касмапаліты...

Дзіўна, але праз два гады пасля смерці Яна Дамеля высветлілася, што нікому не вядомыя абставіны яго нараджэння, выхавання, першых гадоў маладосці. І цяпер мы ведаем пра яго не больш, чым яго сучаснікі. І ведалі б яшчэ менш, калі б не яго далучанасць да адной крымінальнай справы — ён, рамантычна-бездапаможны, добры, няздольны на рашучыя ўчынкі, сябраваў з фальшываманетчыкам Ігнатам Цэйзікам — непераўзыдзеным ювелірам, «беларускім Банвенута Чэліні», адным з найбольш вядомых паўстанцаў 1830 года, які рабіў фальшывыя грошы, «каб падарваць эканоміку ворага», а пад канец жыцця так захапіўся гэтаю справаю, што яна стала для яго хваравітаю маніяй. Ян Дамель даў яму свой пашпарт для выезду за мяжу і забяспечваў яго папераю, на якой рабіліся фальшывыя асігнацыі. Вось і саслалі мастака ў Сібір, на ўсялякі выпадак, каб пазбегнуць магчымых наступстваў у будучыні...



Рэстаўратар Аляксандр Лагуновіч склейвае разрывы палатна.

*6. Дубліроўка на BEVA–371 Film.*

...У сувязі з гісторыяй пра фальшывыя грошы Дамель у архіўных дакументах згадваецца часцей, чым у сувязі з мастацтвам. Калі б не ўзбуджэнне следчай справы супраць Ігната Цэйзіка, Ян Дамель з'ехаў бы ў Пецярбург, бо яго незапатрабаванасць і безграшоўе ў Вільні былі ўжо невыноснымі. І быў бы ён тады сёння польска-літоўска-рускім мастаком, а не польска-літоўска-беларускім. Зрэшты, сібірскія пейзажы Яна Дамеля найлепшыя ў яго пейзажнай творчасці, асабліва «Захад сонца ў Табольску»...

Пагадзіцеся, што трэба сапраўды мець талент, працалюбства, добры, вясёлы характар, каб, будучы ссыльным, пасябраваць з самім гаспадаром Сібіры — генерал-губернатарам. М. Сперанскі паходзіў з народу і прыцягнуў да сябе ўвагу імператара дзякуючы свайму працалюбству і здольнасцям, і менавіта гэтыя якасці ён убачыў і ацаніў у ссыльным мастаку.

Пасля ссылкі Ян Дамель прыехаў у Мінск. Тут ён завяршыў свой жыццёвы шлях і тут напісаў сваю апошнюю карціну, якая... зараз будзе нацягнутая на падрамнік.

*7. Нацягванне карціны на падрамнік.*

...Ян Дамель адносіўся да сваёй творчасці як да рамесніцтва. Ён не чакаў ніякага натхнення, а проста браў заказ, выконваў яго ў тэрмін і атрымліваў за гэта грошы. У яго не было маёнтка, і яму заўсёды былі патрэбныя грошы. Ён шмат працаваў.

...Дзіўна, але калі з небыцця раптам паўстае карціна, фарбы якой захавалі ў сабе адбіткі пальцаў мастака, разумееш, што мінулае адваёўвае сабе месца ў будучыні. І менавіта рэстаўратар адкрывае далягляды будучыні для непаўторнага мінулага.



Карціна Яна Дамеля «Малітва ў садзе Аліўным» у працэсе рэстаўрацыі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

*8. Стварэнне рэстаўрацыйнага грунту ў месцах страты жывапісу.*

...Біяграфічныя дадзеныя Яна Дамеля вандруюць з выдання ў выданне. Віленскі перыяд яго творчасці добра пададзены Т. А. Карповіч у зборніку «Паведамленні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» (выпуск 6, 2005 г.) дзякуючы дакументам, знойдзеным у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі — там захоўваецца і біяграфія мастака, напісаная ім самім. Успаміны і сведчанні яго сучаснікаў вельмі супярэчлівыя, але дакладна тое, што Ян Дамель — таленавіты align рознабаковы мастак і яго карціна пасля рэстаўрацыі зойме належнае месца ў беларускім жывапісе XIX стагоддзя.

*9. Нівеліроўка стратаў фарбавага слою карціны. Аднаўленне страчаных фрагментаў жывапісу. Пакрыццё лакам.*

...Для рэстаўратараў ператварэнне старога запыленага палатна ў мастацкі твор — справа звыклая, але ў гэтым выпадку ўсе пагадзіліся: так, сенсацыя! Ян Дамель пазнаў бы свой твор «Малітва ў садзе Аліўным» пасля нашай рэстаўрацыі. І Уладзіслаў Сыракомля таксама пазнаў бы гэту карціну...

*P. S. 21 сакавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбудзецца прэзентацыя адрэстаўраванага твора Яна Дамеля.*

# Адкуль я магу ведаць, што гэта голас Бога?

Прапануем чытачам размову з дырэктарам Тамістычнага інстытута ў Варшаве Паўлам Крупам OP. Тамістычны інстытут быў заснаваны Ордэнам дамініканаў у Польшчы ў 1958 годзе па благаслаўленні кардынала Стэфана Вышынскага для вывучэння еўрапейскай тэалагічнай традыцыі ў святле навукі святога Тамаша Аквінскага, выдання твораў сярэднявечных тэолагаў, а таксама адукацыйнай дзейнасці (лекцый, сімпозіумаў, дыспутаў), якая дапамагае сучаснаму чалавеку ўвайсці ў свет класічнай філасофіі і тэалогіі.

*— Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вучыць, што сумленне — гэта найпатаемнейшае месца і своеасаблівы санктуарый чалавечай душы, дзе ён прабывае сам-насам з Богам. То бок, гэта ўказанне на пэўную містычную рэчаіснасць. А ў іншым месцы Катэхізіс акрэслівае сумленне як «суд розуму». У гэтым можна заблытацца.*

— *Synderesis* і *conscientia*!

*— Вы не палегчылі мне гэтага разумення!*

— Я ведаю, што пачаў размову «проста з моста». Гэты падзел паняццяў адбыўся з падачы святога Тамаша Аквінскага, які ў першай частцы другога тома «Сумы тэалогіі» разважае над тым, што такое сумленне і як яно дзейнічае. Падставаю для разважанняў Тамаша былі адрозненні ў вучэннях Арыстоцеля і іншых старажытных філосафаў. Хрысціянства ж атрымала ў спадчыну не толькі Стары Запавет, а і ўнёскі грэцкай культуры, для якой істотнымі былі пытанні чалавечай маралі і этыкі.

*— То бок, Тамаш адрозніваў два ўзроўні сумлення?*

— Я б сказаў, два спосабы разумець сумленне. Першы спосаб ён назваў *synderesis*. Гэта значыць: тое, што было дадзена нам звыш, тое, што чалавек атрымлівае разам са сваім існаваннем і што выяўляецца ў яго імкненні да добрага стану цела і душы. Маё імкненне да шчасця вядзе да таго, што я ў асноўным здольны зразумець, што для мяне добра, а што дрэнна.

*— Атрымліваецца, што тут асноўнай кропкай адліку буду я сам?*

— Менавіта так. У этыцы гэта зводзіцца да простага правіла: чыні дабро, унікай зла. Чалавек імкнецца да таго, што дае яму радасць, спакой, прыемныя адчуванні, і ўнікае таго, што перашкаджае яму гэтага дасягнуць.

*— І дзе ж тут месца для містычнай сустрэчы з Богам?*

— *Synderesis* — гэта не зусім тое, што Катэхізіс называе санктуарыем душы. Тамаш, хіба, бачыць у *synderesis* Божы дар, але апісвае яго хутчэй як пэўную рысу чалавечай натуры, нешта накшталт інстынкту — найвышэйшага, аднак, за інстынкт абараняць жыццё, размнажацца або харчавацца. Заўважце, мы міжволі кажам сабе: гэта добра, а гэта дрэнна.

*— Мы, хіба, яшчэ часцей кажам: «Адчуваю, што гэта добра, мне здаецца, што гэта дрэнна».*

— Міжволі — не значыць бяздумна. У маральнай ацэнцы неабходна задзейнічаць інтэлект, бо інакш можна вельмі заблытацца. Узгадайце казку Ганса Хрысціяна Андэрсена пра Снежную каралеву, вельмі мудрую казку. Гісторыя пачынаецца з таго, што д'ябал зрабіў люстэрка, і ўсе прыгожыя і добрыя рэчы выглядалі ў ім брыдкімі, а ўсе дрэнныя рэчы выглядалі дасканалымі. Калі люстэрка разбілася, яго аскепкі разляцеліся па ўсім свеце. Адзін з іх трапіў у вока Каю. І што ж адбылося? Кай і далей бачыў навакольны свет, але бачыў наадварот. Тое, што дагэтуль здаваўся добрым, стала цяпер здавацца дрэнным: Герда, яго дарагая сяброўка, пачала быць нязноснаю дзеўкаю; сад, дзе яны разам бавіліся, ператварыўся ў зараслі бадылля, а любімая бабуля стала шкоднаю старою бабаю. І наадварот, калі з'явілася Снежная каралева, ад якой усе міжволі ўцякаюць, не могучы нават самі сказаць, з якой прычыны, Каю яна здаецца цудоўнаю прыгажуняю. Гэта яго ўспрыманне.

*— Якое не мае нічога супольнага з аб'ектыўнай рэальнасцю.*

— Мы менавіта таму не можам давяраць выключна ўласным пачуццям, бо яны, як бачна ў казцы, раптам могуць цалкам змяніцца з нейкай прычыны, і тое, што мы бачылі як дабро, мы пачынаем успрымаць як зло. Таму да *synderesis*, таго натуральнага ўзроўню сумлення, які з'яўляецца Божым дарам, дзе я магу сустрэцца з Панам Богам, калі я наогул дазваляю Яму ўвайсці

ў маё жыццё, далучаецца яшчэ і тое, што святы Тамаш называе *conscientia*, то бок, разумовая ацэнка маіх учынкаў. *Conscientia*, калі паглыбіцца ў сярэднявечную этымалогію слова, складаецца з дзвюх частак.

*— «Con» — значыць «з», а «scientia» — значыць «веданне».*

— Але не нейкае агульнае «веданне», а практычнае, з якога вынікае дзеянне. А *«con»* паказвае, што веданне ўключае ў сябе розныя дадзеныя, якія павінны дапамагчы інтэлекту распазнаць, ці з'яўляюцца ўчынкі, якія я зрабіў або збіраюся зрабіць, добрымі або злымі.

*— Якія дадзеныя Вы маеце на ўвазе?*

— Маё выхаванне, досвед, прачытаныя кнігі, аўтарытэты, мая вера, Святое Пісанне і гэтак далей. Усё гэта я збіраю на працягу жыцця і выкарыстоўваю, каб з дапамогаю розуму адрозніваць добрае ад злога.

*— І гэта можа не мець ужо нічога агульнага з нашымі пачуццямі.*

— Святы Тамаш вельмі цікава разважае над гэтымі пытаннямі. Ён кажа: «Я магу, аднак, мець пачуцці, якія супярэчаць суду розуму. Калі я іду на вайну, каб бараніць Айчыну, ставячы самога сябе пад пагрозу калецтва або смерці, а сваіх блізкіх — пад пагрозу страты, усё ўва мне крычыць: "Уцякай!". Але я не ўцяку, бо хоць на ўзроўні першаснага *synderesis* мне здаецца, што гэты ўчынак, які ставіць мяне ў небяспеку, з'яўляецца злым, у сваім розуме (*conscientia*) я лічу, што ён добры. Такім чынам, мае пачуцці пераможаныя розумам».

*— Вернемся яшчэ раз да збору дадзеных, якімі кіруецца нашае сумленне. Яны могуць быць памылковымі. І што тады?*

— Святы Тамаш перадусім ставіць такое пытанне: «Калі нехта мае памылковае веданне, памылковае распазнанне і зробіць насуперак гэтаму, ці будзе гэта добры ўчынак ці злы?»

*— Злы, таму што мы павінны кіравацца сваім сумленнем.*

— Менавіта! Гэты чалавек чыніць насуперак таму, як ён разумее сітуацыю. А сумленне, кажа святы Тамаш, нават калі яно памылковае, заўжды накладае на нас абавязак. Аднак ужо ў наступным раздзеле Тамаш разважае над іншым пытаннем, а менавіта: «Ці заўсёды памылковае сумленне апраўдвае нашыя злыя ўчынкі?», і дае ўпэўнены адказ: «Дзеянне згодна з памылковым сумленнем не заўжды апраўдвае нашыя злыя ўчынкі». Гэта добра зразумела на прыкладзе гітлераўцаў, якіх судзілі падчас Нюрнбергскага працэсу. Яны тлумачылі свае дзеянні такім чынам: «Мы былі ўпэўненыя, што чынім добра, што дзейнічаем на карысць слушнай справы, і да таго ж, мы выконвалі загады сваіх кіраўнікоў». Але гэта зусім іх не апраўдвае, бо яны павінны былі ведаць, што забойства некалькіх мільёнаў людзей у канцэнтрацыйных лагерах — гэта зло! Кім жа трэба быць, каб не ўсведамляць гэтага? Святы Тамаш яшчэ ў XIII стагоддзі казаў, што ў нас ёсць абавязак фармаваць сваё сумленне, адкрываць яго для розных аўтарытэтаў і правяраць яго. Бо сумленне — святы Тамаш дае вельмі цікавае параўнанне — гэта ацэнка нашага розуму, а не голас аднекуль звонку, які падказвае нам, што можна рабіць, а чаго нельга.

*— Гучыць цікава, тым больш, што ад душпастыраў мы часта чуем, што сумленне — гэта голас Бога, які гучыць у нашых сэрцах.*

— Таму людзі бянтэжацца і кажуць: «Але я не чую ніякага голасу».

*— Або задаюць пытанне: «Адкуль я магу ведаць, што голас, які я чую, гэта голас Бога, а не мой уласны?»*

— Гэтыя перакананні добра ілюструе галівудская парачка: чорцік і анёлак, якія шэпчуць нам на вуха розныя падказкі, або цвыркун з казкі пра Пінокіа, які з'яўляецца яго сумленнем і часта перасцерагае: «Не рабі гэтага, бо інакш цябе спасцігне тое і тое!» Падобна, што людзям уласціва змяшчаць сваё сумленне недзе звонку. Аднак яно з'яўляецца цалкам рацыянальным поглядам на нашыя ўчынкі, ацэнкаю, якую дае наш розум. Гэта ніякія не нашэптванні анёлка, чорціка або нават самога Пана Бога.

*— Дык дзе ж ва ўсім гэтым месца для Яго?*

— Хаця сумленне з'яўляецца маім унутраным разумовым суджэннем, яно не можа быць замкнутае для голаса звонку. Нашыя адносіны з Богам абапіраюцца на тое, што Ён прыходзіць і кажа: «Я прапаную табе вось гэта і вось гэта, а ты вырашай і выбірай! Можаш сказаць "так", але можаш сказаць "не"». Аднак для святога Тамаша было відавочна, што Бога трэба слухаць. І зусім не таму, што Бог мае вялікую моц і каленам прыціскае мяне долу, не даючы ніякай магчымасці варухнуцца, а таму, што Бог ведае лепш. У мяне няма такой магчымасці распазнання, як у Яго.

*— Я не маю столькі дадзеных, колькі мае Ён.*

— Менавіта так. І калі Бог кажа: «Не забівай, не чужалож, не крадзі», Ён ведае, чаму так павінна быць. І таму я не павінен дзейнічаць насуперак Яго запаведзям.

*— Няўжо да таго, як пачаць*

*філасофскія разважанні над запаведзямі, мы спачатку павінны паразважаць пра самога Бога?*

— Зразумела, гэта канкрэтная праца, якую павінен выканаць мой розум, каб прызнаць Бога найвышэйшым аўтарытэтам.

*— А калі чалавек не верыць у Бога?*

— Тады ён паставіць на месца Бога ў найгоршым выпадку ўласныя інтарэсы, а ў лепшым — закон або Канстытуцыю. Прычым як хрысціянін я мушу працытаваць айца Інакенція Бачэньскага, вядомага дамініканіна, філосафа, словы яго вельмі мяне ўразілі. Напрыканцы 80-х гадоў айцец Бачэньскі прыехаў у Польшчу з швейцарскага Фрыбурга. Ён быў легендарнаю асобаю, таму нашая базыліка ў Кракаве аж трашчала, столькі людзей у ёй сабралася. І падчас сваёй лекцыі айцец сказаў: «Гуманізм без веры ў Бога абсалютна пазбаўлены сэнсу, бо немагчыма знайсці ніводнага рацыянальнага аргумента, паводле якога чалавек павінен быць стварэннем выключнага значэння, акрамя таго аргумента, што ён быў створаны Богам і Бог палюбіў яго», і дадаў: «Кожны гуманізм, які адкідае Бога, знішчыць сам сябе, бо не мае такога найвышэйшага закону, які кажа, што чалавека варта аберагаць».

*— Зірнуўшы навокал, цяжка не згадзіца з айцом Бачэньскім, на вялікі жаль.*

— Я згодны з гэтым.

*— Фармаванне сумлення перадусім асацыюецца з рэлігійнай сферай.*

— Я не магу з гэтым пагадзіцца. Калі б сумленне было выключна рэлігійнай катэгорыяй, трэба было б прыняць тое, што няверуючыя людзі не маюць сумлення. На шчасце, рэчаіснасць сведчыць пра адваротнае. Таму ў тым сэнсе, у якім мы сёння ўжываем гэтае слова, сумленне з'яўляецца не рэлігійным, а філасофскім і агульначалавечым паняццем.

*— Аднак цяжка ўявіць размову пра грэх, які з'яўляецца рэлігійнай катэгорыяй, без размовы пра сумленне.*

— Так, з хрысціянскага пункту гледжання, калі мы робім нешта насуперак свайму сумленню, мы называем гэта грахом, бо падобны ўчынак пярэчыць і дадзенаму нам Богам розуму, і аб'яўленай Ім праўдзе. Таму ўсялякія «разумнікі» і нахабнікі імкнуцца гэтак раздзьмухваць межы свайго сумлення, каб пасля спакойна заявіць: «Я не адчуваю, што гэта пярэчыць майму сумленню, таму гэта не грэх». Часцей за ўсё, гэта датычыць грахоў, звязаных з сексуальнасцю. Тады гучыць каронны аргумент: «Але я яго (або яе) так кахаю!»

*— І што Вы адказваеце ў такіх выпадках?*

— Я кажу, што тут справа не ў пачуццях, бо не заўжды тое, што мне прыемна і даспадобы, з'яўляецца добрым. На жаль, людзі адразу пачынаюць думаць, што Пан Бог забараняе ім тое, што прыносіць радасць і задавальненне.

*— І што тады рабіць?*

— Трэба было б пачаць ад вучэння аб аскезе эпікурэйцаў, паводле якога можа стацца, што жыццё па Божых запаведзях, якія я прымаю, а гэта значыць змяшчаю ў сабе як дадзеныя для ўласнага сумлення, можа быць больш прыемным, чым ноч, праведзеная з каханым чалавекам у любоўных забавах.

*— А чаму не пачаць з вучэння Касцёла аб дашлюбнай чыстасці?*

— Не, я лічу, што найперш трэба вучыць людзей думаць, гэта значыць — вучыцца пераходзіць ад аргументаў да высноваў, а з гэтым сёння існуюць вялікія праблемы. Адукацыя ў старажытнасці і ў Сярэднявеччы пачыналася з пісання і чытання, і толькі пасля настаўнік пераходзіў да навучання логіцы: калі вучань ужо можа скласці сказ, трэба дбаць пра тое, каб у гэтым сказе адно вынікала з другога.

*— Прычынна-выніковае мысленне?*

— Людзі Сярэднявечча называлі яго аргументацыйным мысленнем, працай кажучы, разважаннямі. Калі Касцёл гаворыць пра нейкія забароны і наказы, ён мае для гэтага пэўныя абгрунтаванні, за гэтым стаяць нейкія развагі. У той жа час мноства людзей наогул не задаецца такім пытаннем і не шукае на яго адказу, а толькі кажа: «Ксёндз мне так наказаў, ксёндз мне гэта забараніў».

*— А я лічу інакш...*

— Тады падумай, выканай разумовую працу, рассудзі, што Бог ці ксёндз хочуць табе сказаць. Паразважай над часовымі (і гаворка ідзе не толькі пра нежаданую цяжарнасць) і вечнымі наступствамі тваіх учынкаў. Ніхто не хоча, каб ты быў няшчасны! Але, ведаеце, я маю такі досвед споведзяў, калі прыходзяць людзі, якія прызнаюцца, што жывуць у пазашлюбнай сувязі і не моляцца або не прымаюць удзелу ў святой Імшы. Як жа я пачну гаворку з пытанняў сексу? Я пачынаю з асноўных базавых рэчаў.

*— З першай запаведзі, а не з шостай?*

— Менавіта так. Вучэнне аб устрыманні абапіраецца на пэўны светапогляд, зрэшты, не толькі рэлігійны, бо пэўныя маральныя прынцыпы развіваюцца і па-за абшарам рэлігіі. Тут зусім не маецца на ўвазе, што хтосьці

павінен быць паслухмяным нейкай норме — і кропка. Такім чынам ніколі не выхаваць справядлівага, праведнага чалавека. Часта мы хвалім скандынаўскую праўдзівасць і шчырасць. Я сам перажыў шок, калі шмат гадоў таму ехаў аўтамабілем праз Данію і бачыў паабапал дарогі драўляныя столікі, на якіх гаспадары выкладвалі ў сетках плады ўраджаю, каб кожны мог іх набыць. Ніхто гэтага не пільнаваў! Я папрасіў свайго сябра, мясцовага жыхара, затрымацца, бо хацеў пабачыць усё сваімі вачыма. Сапраўды, вось выкладзеныя морква, буракі, ляжыць апісанне прадуктаў і ўказаныя кошты. А побач — скрынка, куды можна пакласці грошы. І ўсё! Тады я сказаў сябру: «Па праўдзе, у нас праз 15 хвілін знеслі б нават сам столік!»

*— Чаму скандынавы так умеюць, а мы — не?*

— Падобна да таго, што гэта звязана са свядомасцю скандынаваў, укаранёнай у ранейшым ладзе пратэстанцкай маралі, якая вельмі сурова асуджала крадзеж, лічачы яго адным з найгоршых злачынстваў. За яго пагражалі адсячэнне рукі і грамадскі астракізм да канца жыцця. Цікава, што хоць падобнае адбываецца сёння ў ісламскіх краінах, гэта чамусьці не змяняе паўднёвых жыхароў. У свеце не кажуць пра арабскую праўдзівасць і шчырасць, а пра скандынаўскую — кажуць. Значыць, на Поўначы дзейнічае нешта іншае, апроч страху перад пакараннем.

*— Можа, скандынавы адкрылі, што праўдзівасць і шчырасць заўсёды маюць такую ж адплату?*

— Хіба што так. Паглядзіце, гэта ўсё складаецца ў пэўную цэласнасць. Спачатку практыка адсячэння рук, то бок, фармаванне цноты. А пасля пачынае гучаць голас розуму, які кажа: «Фактычна цнота ўсім нам прыносіць карысць». Калі мы чытаем Святое Пісанне і творы айцоў Касцёла, у іх таксама бачнае развіццё духоўнага жыцця ад нявольніцкага, калі чалавек баіцца пакарання, да сыноўскага, калі чалавек паслухмяны Айцу, бо адчувае, што Той любіць яго, і давярае Айцу. Але гэта цэлы працэс, у якім розум адыгрывае вельмі важную ролю.

*— Такім чынам, мы ізноў вяртаемся тут да збору адпаведных дадзеных і фармавання свайго сумлення. Толькі адны будуць чэрпаць гэтыя дадзеныя з кніг ксяндза філосафа Галіка*, а іншыя — з адказаў айца тэолага Рыдзыка**. І ў каго тады будзе лепш сфармаванае сумленне?*

— Часта мы выбіраем тыя, а не іншыя аўтарытэты толькі для таго, каб пацвердзіць свой спосаб мыслення, сваю тоеснасць. А святы Тамаш некалі сказаў: «Важна не тое, што кажуць філосафы, а тое, як усё адбываецца ў свеце». Сёння ў нас з гэтым вялікая праблема, мы рэдка даходзім да аб'ектыўнага, наколькі гэта магчыма, ведання.

*— То бок, варта вяртацца да крыніцаў?*

— Так. Думай і шукай, тады атрымаеш больш шанец даведацца, як сапраўды ідуць справы. Я глыбока перакананы, што людзей уводзяць у зман не пошукі праўды, а спыненне на ўзроўні паўправўды. Не розум становіцца прычынаю нашых памылак, а дрэннае выкарыстанне розуму або наогул яго невыкарыстанне. У той жа час у Касцёле мы вельмі рэдка заахвочваем людзей мысліць і шукаць, затое вельмі часта кажам ім: «Павінна быць так і так, і кропка».

*— І што ў такім выпадку павінен рабіць Касцёл, каб фармаваць сумленне людзей?*

— Перадусім Касцёл павінен падтрымліваць усе ініцыятывы, якія дбаюць пра ўзровень адукацыі ў школе, асабліва пра гуманістычна-філасофскую адукацыю. Мне здаецца, апошні званочак даўно ўжо празвінеў. У сучаснай моладзі вялікія праблемы з чытаннем і разуменнем таго, што яны чытаюць, часта яны не здольныя лагічна выказвацца. Таму навучыць моладзь мысліць — гэта першае, асноўнае заданне да таго, як мы наогул пачнем гаварыць пра катэхізацыю, літургію і прапаведаванне.

*Размаўляла Анна Сасноўска.*
*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*
Паводле: «*W drodze*», № 11, 2015 г.

* Тамаш Галік — чэшскі рыма-каталіцкі святар, філосаф, тэолаг і навуковец. Нарадзіўся 1 чэрвеня 1948 г. у Празе. Прафесар сацыялогіі ў Карлавым універсітэце Прагі, прэзідэнт Чэшскай хрысціянскай акадэміі. Чытае лекцыі ва ўніверсітэтах Оксфарда, Кембрыджа і Гарварда. Адзначаны шматлікімі ўзнагародамі, у тым ліку прэміяй Рамано Гуардзіні за надзвычайныя заслугі ў інтэрпрэтацыі сучаснага грамадства, медалём за выдатную дзейнасць у міжрэлігійным і міжкультурным дыялогу, ганаровым тытулам «Чалавек супакою — 2010» за развіццё дыялогу паміж хрысціянамі і юдэямі.

** Тадэвуш Рыдзык CSsR — польскі манах рэдэмптарыст, грамадскі дзеяч, доктар тэалогіі, выкладчык і кіраўнік навуковай Рады ўніверсітэта ў Торуні. Нарадзіўся 3 траўня 1945 г. у Олькушы. Заснавальнік і дырэктар польскага «Радыё Марыя» і тэлеканала *Trwam*, штодзённай газеты *Nasz Dziennik*. Узнагароджаны за працу ў галіне рэлігійных СМІ, аднак сваёю дзейнасцю неаднаразова выклікаў крытыку грамадскасці за ўльтраправыя палітычныя перакананні, польскі нацыяналізм і нецярпімасць светапогляду.

Андрэй Шпунт

# САРМАЦКІ МІЛЬТАН

*«Праўдзіва Бака піша...»*
Адам Міцкевіч, «Пан Тадэвуш».

*Спрабуючы данесці да чытачоў «Нашай веры» святой памяці вобраз суайчынніка, зразумеў, што раблю гэта дзеля папаўнення шэрагу класікаў нашай літаратуры. Безумоўна, гэта здабытак абодвух народаў былой Рэчы Паспалітай, таму спадзяюся, што дадзеная публікацыя стане ўнёскам у справу вяртання яшчэ аднаго імя ў культурнае лона Бацькаўшчыны.*

...Расейскія грэнадзёры, якія мёрзлі каля Новага Палаца напрыканцы лістапада 1795 г., чулі, як з боку апартаментаў былога караля і вялікага князя даносіліся падобныя на ўсхліпванні гукі. Станіслаў Аўгуст сапраўды плакаў... ад смеху. Разам са світаю. Каля каралеўскага крэсла валялася прывезеная аднекуль з літоўскай правінцыі кніжка нейкага кс. Бакі SJ «Нататкі аб непазбежнай смерці» (Вільня, 1766). Кніжка была разгорнутая, здаецца, на гэтым месцы:

*Смерць-матуля, быццам дуля,*
*ўжо пад носам вострыць косы.*
*О грэшнік жа ўпарты!*
*зацяты, пракляты.*
*Хвост падцісні, каб як блісне*
*смерць касой, ты змог душой*
*Змагацца, збаўляцца*
*ад згубы, рахубы.*
*Смерць-бабуля, як цыбуля,*
*Плакаць змусіць, як прыдушыць.*

(Тут і далей пераклад вершаванага тэксту з польскай мовы Ганны Шаўчэнка.)

Сябар генерала Ясінскага, удзельнік паўстання 1794 г., шляхціц са Слонімшчыны Раймунд Корсак, праз якога кніжка кс. Бакі трапіла да караля, не адмовіў сабе ў задавальненні разам з пачынаючым пісьменнікам Леанам Бароўскім (коштам дабрачынцаў, якіх не прыйшлося шукаць) зрабіць у 1807 г. другое выданне гэтага шэдэўра са сваёй жартаўлівай прадмовай і дэдыкацыяй Л. Бароўскага да віленскага бурмістра ў парадыйным стылі *a la Бака*.

Імя ксяндза з Літвы такім чынам апраўілася ў лаўры, але сумніўнай славы. Сапраўды, позняе барока не асабліва багатае на выдатныя фігуры, як пісаў польскі даследчык творчасці кс. Бакі Антоні Чыж, — нават «не асобы, хутчэй натоўп», але на гэтым тле постаць нашага ксяндза яшчэ больш адметная. Ярлык *a la Бака* азначаў вершы, вартыя хіба што пустога смеху. «Бака асёл», «Бака кака», «Бака срака» — гэткія смелыя надпісы, стылізаваныя пад славутага паэта, пакінуў на палях кнігі біскуп Людвіг Лэнтоўскі.

Сёння ў Польшчы, акрамя перавыданых твораў цалкам рэабілітаванага кс. Бакі, мы бачым безліч прысвечаных яму навуковых і папулярных публікацый; часопіс «*Fronda*» ў 1995 г. устанавіў паэтычную прэмію імя кс. Юзафа Бакі, а рок-гурты «*Budzy i Trupia Czaszka*» і «*Armia*» ў 2004 г. выпусцілі сумесны альбом «*Uwagi Józefa Baki*», пабудаваны на арыгінальных тэкстах.

У нас жа з таго часу, як у 1855 г. Уладзіслаў Сыракомля адрадзіў імя кс. Бакі, толькі ў 1993 г. у ЭГБ была змешчаная згадка пра безыменнага аўтара, прысвечаная «польскаму паэту і каталіцкаму прапаведніку». Чаму ён стаў «польскім», адказваць не трэба: гэтак жа адбылося з Міцкевічам, Чачотам, Сыракомлем ды іншымі творцамі. І не толькі таму, што прагныя суседзі больш адбіралі, чым аддавалі. Занядбанне нацыянальнай спадчыны — асобная тэма, якой прысвечана не адна публікацыя.

Але нават у польскага генеолага Севярына Урускага беларускасць Бакаў герба «Масальскі зменены» не выклікала сумненняў. Пісаў, што паходзілі з заможнай беларускай фаміліі зямянаў Масальскага княства ў Севершчыне, перасяліліся (не пазней за пачатак XVI ст.) са сваімі ўладарамі ў Віленскае ваяводства і прынялі іх герб. У дакументах сустракаюцца ў прыватнасці імёны

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.

Грыгорыя, старосты рагачоўскага (1573) і старосты гродскага троцкага (1600); Міхала, падстаросты мсціслаўскага (1632); Яна Казіміра, падчашага троцкага; Самуэля, стольніка смаленскага (1648) і інш. Нарэшце згадваецца «дабрадзей езуітаў» (як назваў яго кс. Ян Пашакоўскі SJ) Адам Бака, скарбнік мсціслаўскі і ўладальнік маёнткаў на Меншчыне, у сям'і якога 18 сакавіка 1707 г. нарадзіўся сын Юзаф.

Зерне, кінутае Адамам, лягло ў дабратворную глебу. У 16 гадоў Юзаф уступае ў Таварыства Езуса, стаўшы на доўгі і напружаны шлях дасканалення, каб быць сапраўдным езуітам. У 1735 г. прыняў святарскае пасвячэнне, а ў 1740 г. склаў манаскія абяцанні.

За сціплымі радкамі біяграфіі кідаецца ў вочы не зусім характэрная для езуіта рэч: за гады вучобы, як пісаў Караль Эстрайхер, ён «не здабыў, аднак, ніводнай навуковай ступені». З іншага боку, чытаючы вершы кс. Бакі, менш за ўсё думаеш пра яго навуковую кваліфікацыю. Нароўні з навукоўцамі Таварыства Езуса патрабавала місіянераў, палымяных прапаведнікаў, якія ў часы Контррэфармацыі вярнулі ў лона Касцёла шмат заблукаўшых авечак і ў розных канцах свету прыводзілі да Езуса цэлыя кантыненты. Менавіта гэтай якасцю вылучаўся малады кс. Бака, і менавіта яму выпаў гонар прамаўляць гамілію аб добрай смерці ў Менску 18 верасня 1739 г. на пахаванні маршалка надворнага літоўскага Ігнацыя Завішы. Трэба ўявіць сабе барока ва ўсёй яго трыумфальнай пышнасці. Катафалк літаральна патанаў у моры святла ад 4 тысяч свячэй і 10 тысяч аліўкавых лампадаў (У. Сыракомля дадаў яшчэ 2 тыс.), ад золата адзення безлічы святарства ў атачэнні бляску і шматквецця пяхотных і кавалерыйскіх аддзелаў. Мабыць, так зіхацеў двор Ерузалемскага Храма ў апошні дзень Свята Кушчаў. У паветры лунаў водар ладана з прысмакам пораху ад пахавальных гарматных салютаў. У. Сыракомля піша, што, мабыць, тады сціплы і пабожны кс. Бака, паглядзеўшы на «веліч і мізэрнасць чалавека, першы раз задаўся думкай апявання непазбежнай смерці». Услед за класікам асмелімся дадаць, што, магчыма, тады ж ён напоўніцу адчуў пакліканне да місіянерскай працы.

Прыкладна ў тыя ж часы Адам Бака падараваў свайму сыну 10 тысяч злотых, а таксама вёскі Сліжын і Янушковіцы (у заходняй частцы Барысаўскага пав.), і на атрыманыя грошы ў в. Блонь (Ігуменскі пав., пры ўпадзенні р. Цітаўка ў Свіслач, за 60 вёрстаў на паўднёвы ўсход ад Менска) кс. Бака заснаваў езуіцкую місію, якая атрымала назву *Missio Bakana*, з касцёлам і рэзідэнцыяй (не захаваліся). «Сціплы сын, — заўважае Сыракомля, — пакінуў айцу заслугу фундацыі».



Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Ласкавай у Варшаве.

Біёграф кс. Бакі Юльян Барташэвіч адзначае, што асада славілася на ўсю Літву не багаццем, а значэннем. Гэта быў свайго роду апорны пункт накшталт крыжацкага бургу сярод бяскрайніх пушчаў, адкуль нястомны кс. Бака ў 40–50-я гг. XVIII ст. рабіў свае «рэйзы» — даносіў Божае слова да шляхецкага і сялянскага люду.

Наколькі нам вядома, ён хутка завязваў кантакты, будучы чалавекам жывым, інтэлігентным і ў той жа час не пазбаўленым грубаватага гумару. Мясцовая шляхта неаднойчы звярталася да кс. Бакі, каб напісаў вершам нейкі ліст ці віншаванне, што ён рабіў з ахвотаю і лёгкасцю.

Лёс калісьці паўсюдна вядомай *Missio Bakana* У. Сыракомля параўноўвае з лёсам Троі, якую ледзьве адшукалі намаганнямі Шлімана. Сёння ЭГБ згадвае вёску Блонь у вялікіх артыкулах толькі ў сувязі з дзейнасцю ў ёй у XIX — пач. XX ст. сялянскіх арганізацый сацыялістычнага і антырэлігійнага кірунку: шматлікімі гэткімі ж рэвалюцыянерамі — прадстаўнікамі шляхецкага роду Бонч-Асмалоўскіх. Крыўдна. Такая вось гісторыя.

Дык вернемся хутчэй у часы кс. Бакі, якому ў душпастырскіх падарожжах былі цесныя навакольныя межы. Перыядычна ён наведваў Вільню, дзе набыў вялікую папулярнасць як прапаведнік, у 1763–1764 гг. у Наваградку выконваў абавязкі надворнага капелана ў Ганны Людвікі Радзівіл, у наступным годзе (1765–1766) служыў суперыёрам варанчанскай місіі. Невядома, з якіх прычынаў кс. Бака пакінуў місію ў Блоні і з 1767 г. стала


UWAGI
O ŚMIERCI
NIECHYBNEY
WSZYSTKIM POSPOLITEY
WIERSZEM WYRAŻONE
PRZEZ
XIĘDZA BAKĘ S. J.
PROFESSORA POETYKI
a sumptem JMC Pana Xawerego STEFANIEGO Obywatela Miasta J.K.M. WILNA do druku na pożytek Duchowny podane Roku 1766. drugi raz nakładem Amatorow z przemową Raymunda KORSAKA w Wilnie 1807. Roku wydane, a teraz po trzeci raz 1828. Roku przedrukowane.
Warszawa.
W DRUKARNI PRZY ULICY MAZOWIECKIEY
Nr. 1349.

Вокладка кнігі кс. Бакі
«Uwagi o śmierci niechybnej», 3-е выд.

жыў у Вільні ў доме пры касцёле св. Казіміра, дзе працаваў катэхізатарам. Як і раней, ён праводзіў актыўную душпастырскую дзейнасць, выконваючы абавязкі прапаведніка і апекуна Брацтва добрай смерці і Кангрэгацыі мяшчанаў, а таксама быў прэфектам капліцы Божага Цела пры акадэмічным касцёле св. Яна. Скасаванне Таварыства Езуса не адбілася на яго абавязках, а Віленская акадэмія дала яму ў 1773 г. ступень доктара тэалогіі.

У 1780 г. кс. Бака, які дагэтуль ніколі не пакідаў межаў ВКЛ, прыехаў па нейкіх справах у Варшаву і 2 траўня раптоўна памёр. Быў пахаваны з вялікімі ўшанаваннямі ў былым езуіцкім касцёле НПМ Ласкавай, дзе спачывае ў атачэнні біскупаў, вяльможаў і іншых дабрадзеяў Касцёла і Рэчы Паспалітай.

«Нататкі аб непазбежнай смерці» — гэта пабожны зварот да ўсіх станаў Рэчы Паспалітай. Кніга стала адным з этапных твораў у гісторыі польскай літаратуры і, спадзяемся, калісьці і ў нашай зойме сваё адпаведнае месца (як ужо занялі ў фундаментальнай анталогіі «*Nie chyliłem czoła przed mocą*» (Вроцлаў, 2008), што ахоплівае пяць стагоддзяў беларускай паэзіі і каля сотні творцаў — сумесным праекце Прэзідэнта польскага ПЭН клуба Адама Паморскага і беларускага перакладчыка, вядомага грамадскага дзеяча Лявона Баршчэўскага, дзякуючы якім кс. Бака, перакладзены на беларускую мову, «вярнуўся да вытокаў» (паводле выказвання Адама Паморскага).

Як згадвалася вышэй, першае выданне «Нататкаў...» адбылося ў Вільні ў 1766 г., але шырокі розгалас пачаўся толькі пасля выдання ў 1807 г. (Корсак) і асабліва у 1855 г., калі ў Вільні Уладзіслаў Сыракомля выдаў ілюстраваны томік з красамоўнай назвай — «*Baka odrodzony*».

Агульная рэакцыя была прыкладна такой, як у Фелікса Бянткоўскага ў «Гісторыі польскай літаратуры» (Варшава — Вільня, 1814): «Пабожны аўтар кс. Бака, пішучы свае вершы для настаўлення, не думаў, што стануць служыць да стварэння пустога смеху, але на самай справе, нават са скрушаным сэрцам узяўшы тыя вершы ў рукі, вельмі часта трэба смяяцца, паколькі такія смешныя і трывіяльныя ўжывае звароты і выразы, што аб першапачатковай думцы аўтара цалкам забываеш». Можна прывесці шмат падобных ацэнак, калі пагартаць падручнікі і даследаванні XIX і пач. XX ст., прысвечаныя польскай літаратуры.

Паступова, крок за крокам адбывалася своеасаблівая рэабілітацыя, пераасэнсаванне, адкрыццё нанава кс. Бакі. Адзіны са стаўпоў польскай літаратуры — Юзаф Ігнацы Крашэўскі, лічыў яго добрым паэтам і тлумачыў яго высмейванне неразуменнем гістарычнага кантэксту, а Генрых Жавускі ўвогуле ацэньваў кс. Баку як «адзінага з найвыдатнейшых польскіх паэтаў». Заўважым: хаця ў выніку першай павярхоўнай рэакцыі імя кс. Бакі стала хадзячаю назваю, гэта не перашкодзіла Леану Бароўскаму назваць «бессмяротнага пяўца» (як скажа У. Сыракомля) «сармацкім Мільтанам». Нарэшце, у 1948 г. у даследаванні «Аб польскай паэзіі XVIII ст.» Вацлаў Баравы ўпершыню разглядае паэзію кс. Бакі не як гістарычны кур'ёз, падвяргаючы яе ўсебаковаму аналізу. Хіба ж крытыкі творчасці кс. Бакі не разумелі, што ён пісаў так не таму, што не ўмеў інакш, а наўмысна смела спалучаў рэчы смешныя і сур'ёзныя, набліжаўся да народнай стылістыкі, ствараў свайго роду *memento mori*, прызначанае для ўсіх станаў, бо гэта насамрэч было не выраджэнне літаратуры эпохі Сасаў, а цэлая плынь рэлігійнай літаратуры, што ставіла мэтаю наблізіць адвечныя каштоўнасці да масавага чытача. У гэтым сэнсе для езуіта кс. Бакі мэта сапраўды апраўдвала сродкі. Аднак, ці было складанне тых рыфмаў такім ужо прымітыўным? Крыштаф Кёлер прыводзіць выдатны прыклад: «Бака паўстае геніяльным аўтарам, які можа страсянуць сваімі чытачамі <...> у страшэнна цяжкім рытме <...>:

*Куфар поўны залатое воўны,*
*руно залатое — але ж з труною.*
*Тваe цюкі — клопат цяжкі,*
*А кажухі — боль ліхі.*



Касцёл у Блоні да 1917 г. Архіўны здымак.

Чатыры склады чатыры разы, а потым страшэнны галоп чатыры разы па тры склады! <...> ці здолееце вы ў такіх кароткіх словах распавесці, у чым змяшчаецца багацце: «Сабаліны», <...> шляхецкі, магнацкі сімвал багацця, але Бака бачыць, на чым тое багацце будуецца, на болі, бо кажа «*sobole są bole*», зразумела?» Дарэчы, трэба згадаць, што ўжо першы твор кс. Бакі — панегірык у гонар дабрадзея езуітаў дынабургскага старосты Яна Людвіга Плятара (*Comitia honorum et aviti splendoris Joannis Ludovici Plater. Wilno,1736*) — быў напісаны майстэрскай лацінай.

Яцак Кавальскі ў артыкуле, прысвечаным кс. Баку, змешчаным у часопісе «*Polonia Christiana*» ў раздзеле «Майстар формы і зместу», піша: «Апошнія даследаванні яго творчасці і асобы засведчылі, што не быў вынаходнікам свайго „сечанага“ babвершаскладання. Не вынайшаў таксама шэрагу выразаў, метафар, прымавак, якія ўплятаў у сваю паэзію. Усё гэта было ўжо вядома і практыкавалася яго польскімі (і літоўскімі. — А.Ш.) папярэднікамі і равеснікамі ў манаскіх габітах. Аднак ніводны з іх не здабыў славы Бакі. Бо арыгінальнасць Бакі заключаная ў чымсьці большым: у незвычайна майстэрскім складанні ўсіх тых літаратурных рэсурсаў у цэлае». Далей Кавальскі нагадвае, што Корсак, «віноўнік» яго папулярнасці, выдаў толькі тое, што лічыў графаманскім і забаўным, адпрэчыўшы незвычайна прыгожыя вершы і разважанні з першай часткі тома, і таму яны надоўга зніклі з поля зроку чытачоў і даследчыкаў і былі вернутыя толькі пасля Другой сусветнай вайны намаганнямі Вацлава Баравога.

Гэта былі менавіта адны з тых вершаў, якімі быў так узрушаны Ян Лехань, польскі аташэ па культуры ў Францыі ў 1930-я гг., вытанчаны інтэлектуал і паэт — ён пакінуў найцікавейшы дзённік, які вёў у эміграцыі ў Нью-Ёрку. Запіс ад 22 жніўня 1952 г.: «натрапіў на рэлігійныя вершы Бакі, сапраўдная, салідная, багатая і поўная прыгожых арабескаў паэзія. Як так магло быць, што быў ён на працягу двух стагоддзяў пасмешышчам і амаль стаў прыказкай, што высмейвае графаманію». Адзнака Леханя, які не здымаў капелюша перад славутасцямі, дарагога каштуе!..

*Праз цярнёвую карону Тваю, Збавіцелю Пане,*
*адпусці грахі маіх думак.*
*Праз закрытыя вочы Твае на крыжы адпусці*
*грахі майго позірку.*
*Праз твар Твой збіты і вусны, смяротным болем*
*скутыя, Езу мой, даруй правіны майго языка,*
*і я буду адгэтуль найчасцей размаўляць пра*
*Цябе і на Тваю хвалу.*
*Праз прыбітыя рукі Твае адпусці правіны маіх*
*рук і стрымай іх ад ліхога дотыку.*
*Праз бок Твой, дзідай працяты, адпусці правіны*
*маіх жаданняў і ўчыні мяне слугою паводле*
*Твайго сэрца.*
*Праз прыбітыя ногі Твае да крыжа адпусці грахі*
*маіх ног і скіруй іх на шлях збаўлення, каб я*
*сузіраў Цябе праз вякі і, як сэрафім, Цябе вечна любіў.*


ЛІТАРАТУРА

1. Бака Юзаф//ЭГБ. Т. 1. — Мінск, 1993. — С. 281.
2. Шыбека З. Блонская сялянская арганізацыя // ЭГБ. Т. 2. — Мінск, 1994. — С. 49.
3. Мараш Я. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. — Мінск: Вышэйшая школа, 1974. — 288 с.
4. Baka Józef. Uwagi. (Opracowanie, komientarz i posłowie Antoni Czyż i Aleksander Nawarecki). — Lublin, 2000.
5. Baka Józef //Wielka encykłopedia powszechna ilustrowana. T. V. — Warszawa, 1891. — S. 731.
6. Baka Józef — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://pl.wikipedia.org/wiki/J%C3%B3zef_Baka. Час доступу: 17.06.2015.
7. Baliński M. Dawna Akademia Wileńska. — Petersburg, 1862. — S. 208—209.
8. Bartoszewicz J. Kościoły warszawskie rzymsko-katolickie opisane pod względem historycznym. — Warszawa, 1855.
9. Bartoszewicz K. Księgi humoru polskiego. T. III. — Petersburg, 1897.
10. Bentkowski F. Historya literatury polskiey. T. I. — Warszawa — Wilnia, 1814. — S. 488—489.
11. Budzyńska N. «Ej do nieba nam potrzeba!». — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.opoka.org.pl/zycie kosciola/media/pk. Час доступу: 21.06.2015.
12. Czyż A. Ja i Bóg. Poezja mietafizyczna późniego baroku. — Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk—Łódź, 1998.
13. Estreicher K. Baka Józef//PSB. T. I. — Kraków, 1935.— S. 222—223.
14. Koehler K. Baka Józef SJ. — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.palus-sarmatica.pl/. Час доступу: 29.05.2015.
15. Koehler K. Od Baki do Budzyńskiego//Fronda, № 15/16. — Warszawa, 1999. — S. 43–55.
16. Kotarski E. Józef Baka. — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://literat.ug.edu.pl/books.htm. Час доступу: 29.05.2015.
17. Kowalski J. Sława i nieporozumienie, czyli rzecz o księdzu Bace//Polonia Christiana. № 19. — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.pch24.pl/. Час доступу: 17.06.2015.
18. Kozioł P. Ksiądz Baka. — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://culture.pl/tworca/ks-jozef-baka. Час доступу: 29.05.2015.
19. Ksiądz Baka powrócił do źrodła (размова Ёанны Шчэнснай з Адамам Паморскім). [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://wyborcza.pl/0,0.html. Час доступу: 17.06.2015.
20. Lechoń J. Dziennik. T. II. — Warszawa, 1992. — S. 516—517.
21. Nieznanowski S. Baka Józef //Encykłopedia katolicka. T. I. — Lublin, 1995. — S. 1267.
22. «Nic nie miło, gdy się zgniło» — tanatyczny chichot w poezjach ks. Józefa Baki. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://literat.ug.edu.pl/~literat/baka/index.htm. Час доступу: 17.06.2015.
23. Prejs M. Poezja późniego baroku. — Warszawa, 1989.
24. Syrokomla W. Baka odrodzony. — Wilno, 1855.
25. Syrokomla W. Mińsk//Teka wileńska. № 2. — Wilno, 1857. — S. 190—193.
26. Uruski S. Baka h. Massalski//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. I. — Warszawa, 1904. — S. 70—71.



# Іна Снарская

*«Хмары пахнуць трывогай, радзімай...»*
К. Галчыньскі

**Іна Снарская** — паэтка, журналістка, рэдактар тэлебачання Палтаўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Лтава». Нарадзілася ў Полацку. Скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут і Палтаўскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя В.Г.Караленкі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Кветка гарынь», «Дзьве зямлі — дзьве долі», «Верасовыя песні зары». Член Саюза беларускіх пісьменнікаў, Нацыянальных сьпілак пісьменнікаў і журналістаў Украіны. Вершы Іны Снарскай перакладаліся на ўкраінскую, румынскую, польскую і англійскую мовы. З 1987 года жыве ва Украіне.

* * *

Чары-хмары і дарога...
Будзь ласкавы, Бог,
Да кавалачку зямнога
Раю ўсіх трывог.

Усіх сумных, усіх кволых
На маёй зямлі
Захіні і ветрам волі
Наталі палі.

Вечар. Хмары, як кудзеля.
Рай мой, пачакай,
Пакуль я ступлю з надзеяй
На сівы прычал.

І пякучы, і балючы,
Болем дарагі,
Кожнай кветкай ён навучыць
Як скарыць снягі.

* * *

Вугал ночы — край малітвы,
Кроў дажджу, спакой самотных.
У далонь зары наліта
Сто грахоў маіх смяротных.

Сто спакус маіх адчайных
Паяднаць душу і цела...
Там, дзе кнігаўка крычала,
Толькі свечачка ўцалела...

* * *

Гара, а ў гары — пячора,
Там пчолы жывуць залатыя,
Там ты і я, нібы ўчора,
Шчаслівыя і маладыя.

Гара, а ў гары — пячора,
Чорная, як смала.
Ластаўка там жыла ўчора,
Сёння ляцець не змагла.

Шчасце-гара, гара-гора, —
Вечнасць гартае радкі...
Сёння і заўтра, і ўчора —
Хвалі адной ракі.

* * *

Душу бяссонную маю
Ратуюць дрэвы.
На сёмым небе, на краю,
Іх родны бераг.

На сёмым небе іх спакой.
Не б'е пад сэрца
Калянай вогненнай рукой
Шалёны вецер.

Не разрывае на шматкі
Галінкі-лёсы.
Там за хвілінамі вякі
Цякуць у восень.

Там карані, як паясы, —
Не страшна ўмерці.
Мяне завуць мае лясы
На мове сэрца.

* * *

Вершы — ад слова «верыць».
Вера ў далоні Бога.
Будзе да веку вернай
Маці мая, дарога.

Будзе да веку першай,
Лепшай, сунічнай будзе.
Сэрца сагрэе вершам,
Калі ўжо й мяне не будзе.

* * *

Гэты дзень — спелы, як яблык.
Далоў трывогу, віват спакой!
На снезе танцуюць анёлы радасці,
Бачу іх побач з сабой.

Хто сказаў, што людзі не ўмеюць лётаць?
Я адваротнае дакажу —
Надзену на шыю каралі з лотаці,
Ступлю на мяжу.

Гэты дзень — крышталёвая звонкая ваза.
Мне анёлак падасць руку...
І неба, роднае для адважных,
Пацалуе ў шчаку.

* * *

Як многа ўжо родных лягло
Пад поўні тугое крыло.
Плывуць яны хмарамі, дымам,
Гаротным маім успамінам
Па небе глыбокім,
Песняй далёкаю,
Слязой па шчацэ,
Свячой па рацэ.

## Дарозе

Сівее нітка стомленых дарог.
Мне дарагая кожная. Да сэрца
Дарогаю нам дакрануўся Бог,
Ля вогнішча прысеўшы, каб сагрэцца.

Душу сваю ратую, як магу:
Малітвай, вершам, жытнім спелым словам.
Дарогаю брыду, іду, бягу
І зноў вастру жыцця свайго аловак.

* * *

Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь
На скрыжалях вятроў і дарог,
У далонях сунічнага неба,
На шляху каралёў і нябог.

За ракой, за абшарам сусвету
Чарадзейныя ёсць астравы,
Там і вечар рыфмуецца з верай,
Там і сосны — сёстры травы.

Мы сустрэнемся ўсе нечакана —
Па крыві, па сумленні радня...
І рукі не падыме Каін,
І прыме яго зямля.



# Валеры Максімовіч

## І ЖАЛЬБА, І ПЯШЧОТА, І ЛЮБОЎ

*Памяці маёй мамы*

**Валеры Максімовіч** — паэт,
літаратуразнаўца,
доктар філалагічных навук.
Нарадзіўся ў 1962 г.
у вёсцы Траянец на Лагойшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Аўтар зборнікаў вершаў «Мяцежнай
споведзі скрыжалі» (2012),
«Сярод блукаючых планет» (2014).
Даследуе нацыянальную мастацкую
традыцыю, а таксама праблемы эстэтыкі
і паэтыкі беларускай літаратуры.
Працуе ў Інстытуце філасофіі
НАН Беларусі.
Жыве ў Мінску.

### НА РАЗВІТАННЕ

Ты больш не вернешся сюды,
На сынаў кліч не адгукнешся.
І дзесьці згубяцца сляды
Твае ў высокім паднябессі.

Ды толькі сэрца з думкай той
Ніяк не можа пагадзіцца —
З усёй рашучасцю сваёй
Імкнецца зноў нястомна біцца.

З цямрэчы скрушнай, з небыцця,
Суздром спавітае адчаем,
Як толькі моцы ёсць, наўсцяж
Матулю родную гукае.

Ды ўсё дарма. Аглух той свет.
А я крычу, крычу ад болю,
Хоць знаю, мама, што цябе
Мне не даклікацца ніколі.

Цяжкі і даўкі жаль спаўе
Да глыбіні душы да самай...
Дзе мне шукаць сляды твае
І як вярнуць цябе мне, мама?!

Ты znічку ў вышы запалі
На самым золку, рана-рана...
Ў расе нябёсаў на зямлі
Твае я бачу слёзы, мама.

## МАТУЛІ

Мая ты родная, мне не хапае слоў,
Каб выказаць усю сваю самоту
І жальбу, і пяшчоту, і любоў,
І скрушны боль палыннай адзіноты.

Здаецца мне, што неба ўпала ніц
І сонца ў вышы чорны дыск хавае...
Я ўсё прыпамінаю да драбніц, —
Мне так цябе, матуля, не хапае.

Як веры даць, што восеньскай парой,
Калі няўзнак у лепшы свет пайшла ты,
Я стаў раптоўна круглым сіратой
І наша апусцела ў момант хата?

І сад, і агарод, і твой квятнік
Застылі ў анямелым утрапенні.
І разам з імі я душой панік
Сярод здранцвелых, нерухомых ценяў.

Ніколі не вярнуцца мне назад
І не спазнаць ранейшага спакою...
Усюды, дзе ні кіну свой пагляд,
Стаіць твой воблік, мама, прада мною.

І плакаць бы, ды не стае мне слёз, —
Цяжар гнятлівы цісне камяніцай.
Чаму ж, чаму нелітасцівы лёс
Прымусіў прад жыццём цябе скарыцца?

Прашу, дай моцы, Божа правы мой,
Каб даастатку сэрца мне не зраніць,
І дараванай ласкаю Тваёй
Святую зберагчы пра маці памяць.

## ПАМІНАЛЬНАЯ

Пахмурныя дні — то дажджыць, то заснежыць...
У слоце пранізлівай і гаркатной
Балючая думка мне сэрца вярэдзіць:
Няма ўжо са мною мамы маёй.

Асеннім, гнятліва-даўкім адвячоркам
Яна адплыла ў векавечным чаўне...
Так скрушна, мае дарагія, так горка
І так невыносна тужліва мне.

Здаецца, што свет цэлы жальбай працяты —
Гучыць развітальны зямны паланэз:
Ссамоціўшыся, каля самае хаты
Аб чымсьці задумаўся мамін бэз.

Засмучаным позіркам — сумна-расстайным —
Ўглядаюцца вокны у цемень начы
І так заклікаюць матулю адчайна:
Устань, гаспадынька, устань, не маўчы!..

І печ азалела-астылая ўмольна
І роспачна просіць сагрэцца цяплом...
А мама маўчыць — у жытле сваім дольным
Заснула яна векавечным сном.

Зрабі так, Гасподзь міласэрны і моцны,
Каб там, дзе спачын ужо на вякі,
Маму маю цеплынёй мілоснай
Сагрэлі малітвы маёй радкі.

Пашлі Ты ёй літасць сваю і збавенне —
Ласкава і шчыра аб гэтым прашу,
Хай светлай любові Тваёй праменні
Збаўленча асветляць яе душу.

## МАМЕ

Ты жывая, мама, ты — жывая!
Веру ў гэта ўсёй сваёй душой.
Я цябе да сэрца прытуляю
І жыву, і дыхаю табой.

Ведаю, што напрадвесні самым
Мне цябе паслаў ласкава Бог,
І таму найменне-слова «Мама»
Для мяне — свяшчэнны абярог.

Ты са мной, здаецца мне, на яве,
Зрэдку ў сны завітваеш мае,
А сустрэцца нам не выпадае:
Часу, як заўсёды, не стае.

Ды яднае нас адна сцяжына —
І душой мне нельга пакрывіць:
Родная, павер мне, немагчыма
Нас з табой навекі разлучыць.

І калі жыццё на ўскрайку самым
Спыніць сваю мерную хаду,
З імем дарагім і родным — Мама —
Да цябе, знадзеяны, прыйду.



# Ленэ Майер-Скуманц

**Ленэ Майер-Скуманц** — пісьменніца, паэтка. Нарадзілася 7 лістапада 1939 года ў Вене. Вывучала германістыку і класічную філалогію, мае педагагічную адукацыю. Працавала рэдактарам часопіса для дзяцей «Вялікі свет», стварыла новую рэлігійную літаратуру для дзяцей. Аўтар больш за 40 кнігаў, сярод якіх «Анёл для Монікі» (1965), «Бэтлеемская зорка» (1980), «Маленькая сава» (1998, перакл. на 42 мовы), «Ханііл — анёл на зямлі» (2011), «Я з вамі. Вялікая Біблія Дона Боско для дзяцей» (2011). Узнагароджана Аўстрыйскай дзяржаўнай прэміяй у галіне літаратуры для дзяцей і юнацтва (1965, 1981, 1990, 1994) і інш. прэміямі, мае ганаровае званне прафесара (з 1990 г.), узнагароджана ордэнам святога Грыгорыя Вялікага (2000). Жыве ў Вене.

## *Павуцінка*

Пасадзіць куст ляшчыны,
ружавы куст,
не ў сваім садзе, а ў садзе
ў сяброў.
Дзікі вінаград, што ужо ўвосень
азарае сцяну прыгожым полымем.

Мы навучыліся гэтаму ў старых сяброў
і вучым гэтаму новых сяброў.

Паўсюль
з саду ў сад
цягнуцца тонкія нітачкі
ад сябра да сябра.

Можа, яны зробяцца павуцінкай.

Ветліваму павучку, які жыве там,
ты можаш даць
колькі хочаш імёнаў.
Адно з іх: Дзякуй.
Другое: Пяшчотнасць.

## *Велікодныя птушкі*

Я змайстравала велікодных птушак, вялікіх і малых,
з пенапласту і пер'яў і ўсялякіх рэшткаў.
Яны калыхаюцца на крылах з шаўковай паперы,
параскрывалі хвасты-веера
і лунаюць на тонкіх нітках
пад столлю.
Выберы сабе самую прыгожую!

Маленькай велікоднай птушцы
хопіць галінкі вярбы,
але вялікую птушку табе трэба
павесіць над пісьмовым сталом!
Няхай яна лётае там да Тройцы,
птушка радасці, птушка імкнення,
птушка надзеі, птушка жыцця.
Яна выпаўзла з яйка,
як са змрочнай пячоры,
як з цёмнай магілы,
і на святле расправіла крылы.
Жыццё атрымлівае крылы, вось тое,
што кажа мне мая велікодная птушка.

### *Прычасце*

Твой знак, што Ты хочаш быць са мною:
Хлеб, які я ем.
Езус, так блізка, так цалкам са мною хочаш Ты быць.

Калі я потым на шляху дадому
бачу суседа ў ягоным садзе
і прыхіляюся да штыкетніку,
і смяюся яму і крычу:
«Як справы ў Вас і ў радысак?»,
а ён усміхаецца і ідзе да градак,
выцягвае першую, свежую чырвоную радыску
і дорыць мне...
Тады, Езус, на самай справе каля штыкетніку былі двое,
двое, што павіталі суседа
маім голасам.
Двое, якім ён падараваў радыску.
Мы двое, Езус.
І двайная радасць.

### *Быць дома*

Унутры ты, як дом
з мноствам пакояў.
Маеш месца для многага,
перш за ўсё вельмі шмат прасторы для людзей,
якіх ты любіш,
з усім, што любяць яны.

Тое, чаго ты цярпець не можаш,
ты засоўваеш у кладоўку,
яна таксама ёсць у гэтым тваім доме,
табе трэба часам праветрываць і аглядаць яе.
Сякі-такі стары хлам
ты смела можаш спаліць.

Адзін пакой ты пакідаеш свабодным для флейты,
адзін проста дзеля таго, каб глядзець і маўчаць.
Але ў самым унутраным пакоі жыве Бог.
Дзверы да Яго адчыненыя.
Ты можаш увайсці, калі пажадаеш,
можаш быць у Яго дома.

### *Дараванне*

Дараваць іншаму,
калі ён прыходзіць і просіць аб гэтым
і кажа: «Не крыўдуй», —
не так цяжка для нас.
Дараваць іншаму,
калі ён і не думае
прасіць нас аб гэтым —
калі яму ніколечкі не шкада,
калі ён зусім не разумее,
як мы пакрыўдзіліся, —
тут дараваць нам вельмі цяжка.

І пакуль мы не зможам зрабіць гэта,
Дух Божы валаводзіцца з намі,
Ён вельмі заняты
і пыхкае ад напругі —
калі можна так выказацца...

### *Першы каштан*

Першы каштан кожную восень
я засоўваю ў кішэню паліто.
Гладжу яго кончыкамі пальцаў.
Моцна сціскаю яго ў кулаку.

Першы каштан у гэтую восень
даў мне мой сябар.
«Вазьмі адразу ж вось гэты», — сказаў ён,
бо ён ведае, як мне падабаецца
насіць каштан у кішэні паліто.

Ён невялікі і не вельмі бліскучы,
на яго карычневай паверхні белая плямка.
І ўсё ж такі гэта асаблівы першы каштан.
Падараваны, а не знойдзены.
Я гладжу яго кончыкамі пальцаў,
і ў мяне ў жываце становіцца цёпла,
быццам там сядзіць тоўстая, задаволеная кошка
і муркае.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Алены Сямёнавай-Герцаг.*
*Паводле зборніка малітваў і вершаў*
*Л. Майер-Скуманц «Я хачу чуць так добра».*




Анатоль Брусевіч

# ШЛЯХ ДА ЛЮБОВІ

## *Пра «Выбраныя творы» Дануты Бічэль (Мінск: «Беларуская навука», 2016)*

Восемдзясят восьмы том кніжнага праекту «Беларускі кнігазбор» асабліва парадаваў гарадзенцаў — пад яго вокладкай выйшлі «Выбраныя творы» Дануты Бічэль, паэткі, чыя творчасць сёння найбольш дасканала адлюстроўвае эстэтычную і духоўную сутнасць наднёманскай часткі беларускай вербальнай прасторы. Зрэшты, не адной толькі паэзіяй заваёўваліся сэрцы землякоў: дзякуючы Д. Бічэль ажывіліся і іншыя сферы культуры. Чаго варты толькі музей Максіма Багдановіча ў Гародні! Дарэчы, пра яго стварэнне шаноўны чытач зможа даведацца ад самой стваральніцы ў трэцяй частцы «Выбраных твораў», дзе змешчаны эсэ, успаміны ды розныя замалёўкі пераважна з жыцця літаратурнай Гарадзеншчыны. Я ж згадаў пра музей М. Багдановіча, каб акрэсліць эстэтычныя арыенціры Д. Бічэль, паказаць эвалюцыю пісьменніцы, правесці чытача па звілістых сцежках яе матываў і вобразаў. Таму музей М. Багдановіча для нас — своеасаблівы маяк альбо знак, што дапаможа ў «вандроўцы» па старонках творчасці Д. Бічэль, раздзяляючы яе шлях на ўмоўныя перыяды (бо любая перыядызацыя — рэч вельмі няпэўная): «дамузейны», «музейны» і «постмузейны».

Вершы «дамузейнага» перыяду (з кніг 60-х і 70-х гг.) запрашаюць чытача ў вельмі светлы, крыху наіўны, наскрозь рамантычны свет цнатлівага харaства — у чароўную казку, дзе «*Пад казачным дубам, над Нёманам сінім // хлапец прызнаваўся ў каханні дзяўчыне*». Каханне і любоў — відаць, тыя галоўныя апоры, на якіх ад самага пачатку

**Анатоль Брусевіч** – паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы (1999), там жа — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Жыве і працуе ў Гродне.

трымаецца паэзія Д. Бічэль. Трохі пазней матыў кахання знікне, але затое матыў любові вырасце да ўзроўню творчага канцэпту. Гэтак з любові да бацькоўскай хаты вырастае любоў да цэлага Краю, а з любові да роднай прыроды вырастае любоў да добрага Творцы Сусвету. Згадаем: «*Нехта добры, хто пануе цішай, // Нехта дужы, гэты свет калыша*»...

Шлях ад маленькай любові да вялікай не бывае лёгкім. Ён пакручасты, нібы Нёман, які «*цячэ праз сэрца*» паэткі і становіцца нечым большым, чым проста вобраз, трапна адлюстроўваючы самыя розныя адценні думак і пачуццяў. У вершах Дануты Бічэль, як і ў паэзіі Адама Міцкевіча, гэта важны складнік мастацкага свету, бо выконвае мноства функцый: ад стварэння прасторава-часавых мадэляў да вырашэння эстэтычных задач. Нёман робіцца ўвасабленнем спагады, мудрасці, радасці, сяброўства, кахання, часам — тугі і заўсёды сімвалам свайго, роднага, блізкага, беларускага:

*Далеч азвецца громам —*
*так Беларусь пяе!*
*Ажно азарыцца Нёман —*
*чыстае вока яе.*

Звяртаючы ўвагу на падабенства мастацкай манеры Д. Бічэль і А. Міцкевіча, нельга не згадаць адзін вельмі запамінальны матыў: ратуючы сваіх гераіняў, аўтар знакамітай балады «Свіцязь»ператварае іх у кветкі. Ёсць не менш цікавыя пераўтварэнні і ў Д. Бічэль: «*Я са сцежкі ў гушчэчы збілася, // сінім ценем на травы ўпала // ды крынічкай на золку стала*». А яшчэ, як і А. Міцкевіч, Д. Бічэль нярэдка ўводзіць у сваю паэзію рэаліі з жыцця беларусаў, нават стварае ўласныя фальклорныя мадэлі:

*— Хопіць мне дакукі.*
*Жыта сеяў дзед.*
*Я ж вазьму жалейку ў рукі,*
*павандрую ў свет.*

Нехта сее жыта, нехта знаходзіць іншыя спосабы ратаваць, абуджаць свой Край. Паэтка робіць гэта звонкім вершам, шчырай песняй. І Край абуджаецца, прыслухоўваецца, як расце слова «*...у дубоў на вачах, // на ціхіх дажджах*». Словы, якія шчодра сее Д. Бічэль, падаюць на ўрадлівую глебу спрадвечнай народнай мудрасці: няма нічога мілейшага за Радзіму. З тых простых словаў вырастаюць прыгожыя вершы, у якіх родны Край быццам райскі куток, дзе думкі людзей чыстыя, а добрыя справы робяцца затак («*Я кашулю затак хлопцу мыла...*»). Магчыма, камусьці падасца, што ў сваіх вершах, асабліва ранніх, Данута Бічэль ідэалізуе гэты Край і яго людзей, але гэта хутчэй не ідэалізацыя, а рамантызацыя ўсяго беларускага. Дзеля гэтага паэтка не шкадуе вобразна-выяўленчых сродкаў, часам нават змяняе ўстойлівыя слоўныя адзінкі: «*Беларусь, белы вывадак белых варон, // вылятае пад сонца са стрэх, навакол...*». Дарэчы, разбурэнне фразеалагізмаў, гульня са словам — яскравая прыкмета мадэрнісцкай стылістыкі, наяўнасць якой не дзівіць у вершах Д. Бічэль, бо яе паэзія, узгадаваная на традыцыях А. Міцкевіча, увесь час імкнецца да крыху іншай паэтыкі і эстэтыкі, той, якую абжываў Максім Багдановіч — адзін з нашых першых мадэрністаў.

Мадэрністы — хіба найлепшыя майстры ўрбаністычных пейзажаў. Запамінальная гарадская лірыка пачынае адваёўваць сабе прастору і ў творчасці Д. Бічэль. І не проста гарадская, а гарадзенская:

*Вежы касцёлаў, дрэвы і неба*
*ліўнем памыюцца да чыстаты.*
*Але патопу баяцца не трэба —*
*надта высока ў Гародні масты!*

З вялікім замілаваннем гаворыць Д. Бічэль пра свой родны горад. Так, яна палюбіла яго светлай любоўю, у якой Гародня паўстае ў такім мілым і нечаканым вобразе: «*На досвітку ад холаду дрыжыць, // бы кацянятка, горад мой любы*». Зрэшты, гараджанкай лірычная гераіня Д. Бічэль так і не зрабілася — як толькі выдараецца нагода, яна вяртаецца туды, адкуль родам — у сваё вясковае анёльскае дзяцінства, дзе можна нізаць каралі з жалудоў, у юнацтва, дзе «*Звязалі апошні снапок на дажынкі, // і вочы яшчэ не замглілі дажджынкі*», дзе не шэры асфальт пад нагамі, а сцежка, абапал якой растуць вершы-кветкі: «Купальнік», «Вар-вялі», «Бальсан», «Пралескі», «Верас», «Галадок», «Барадульнік», «Цвінтарэй», «Зязюліны зёлкі». Паэтызацыя роднай прыроды — таксама адна з яскравых рысаў творчасці Д. Бічэль. І тут гаворка ідзе не пра апяванне пейзажаў: прырода роднага Краю для Дануты Бічэль не толькі крыніца эстэтычнага захаплення, але і прадмет філасофскага роздуму:

*Маўклівае лона Радзімы —*
*задумлівы верас,*
*вымярзаў і гарэў,*
*але вырас і пахне... Яшчэ раз*
*нахіліся прад ім,*
*пакланіся хоць зёлкам на вернасць...*

Вершы Д. Бічэль, створаныя ў 1980–1990-я гады, належаць да «музейнага» перыяду яе твор-

часці. Гэта быў час пошукаў і для паэткі, і для яе лірычнай гераіні. Пошукаў не новых, а старых адвечных ісцінаў, якія сцерліся ў штодзённай мітусні. Таму заканамерны зварот паэткі да гістарычных вобразаў (вершы «Барбара», «Рагнеда», «Баторава горка» і інш.). Здаралася, што некаторыя крытыкі папракалі паэтку за скажэнне гісторыі, аднак сёння мы выдатна разумеем, што гэта таленавітая інтэрпрэтацыя мінуўшчыны, паэтызацыя старажытнасці, стварэнне своеасаблівага гістарычнага фону, на якім чытач можа выразней убачыць праблемы сучаснасці. Гэтак у свой час рабілі рамантыкі.

Яшчэ адна заўважная змена, якая адбылася ў паэзіі Д. Бічэль у гэты перыяд — паступовае пашырэнне творчай прасторы за кошт геаграфіі. Побач з дамінантным вобразам малой радзімы з'явіўся не менш яркі вобраз радзімы вялікай. Так, поруч з вобразам Нёмана, які па-ранейшаму застаецца «бацькам» (цэнтральным гідронімам у мастацкай карціне свету), праз вершы паплылі не толькі яго «сваякі» («*Бацька Нёман з прытокамі Моўчадзь, // Гаўя, Вілія, Ведзьма, Дзітва...*»), але і іншыя беларускія рэкі — Дняпро (вершы «Дняпро ў Ляўках», «Дняпро»), Бярэзіна, Сож, Прыпяць. А побач з галоўным горадам — Гародняй, павырасталі іншыя гарады, мястэчкі ды вёскі: Вільня, Крычаў, Гярвяты, Гальшаны, Гудагай, Глінішчы... Між тым, цэнтр паэтычнага свету Д. Бічэль нязменны: наднёманскі край, дзе плывуць хатнія рэкі, дзе і самой можна стацца рэчкаю (міжволі згадваецца Ганна Лівія — гераіня рамана Джэймса Джойса «Памінкі па Фінегану», жанчына-рака):

*Нёман-братка і вучыць, і няньчыць —*
*Хмару, Сэрвач і Белую Ганчу!*
*Нёману ў няволю здаюся —*
*Котра, Чорная Ганча, Дануся...*

Край — гэта яшчэ і людзі. Якраз у «музейны» перыяд Д. Бічэль стварае цэлую галерэю цікавых вобразаў-партрэтаў: Францішка Багушэвіча і Элізы Ажэшкі, Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, Ядвігіна Ш. і Гальяша Леўчыка, Ларысы Геніюш і Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава. Вядома, партрэты тых, каго любіла і ведала асабіста, выканала больш цёплымі фарбамі, мусіць тымі самымі, якімі малявала тату і маму, дзетак, а потым унукаў.

Яшчэ адной адметнай рысай, якая вельмі яскрава праявілася ў «музейны» перыяд, становіцца паэтычная міфатворчасць — адна з дамінантных прыкметаў усёй сусветнай літаратуры XX ст. і пачатку XXI ст. Аднак заўважым, што міфатворчы аспект паэзіі Д. Бічэль звязаны не столькі з язычніцкімі архетыповымі канстантамі, як у многіх беларускіх аўтараў, але перш за ўсё з культурнымі кодамі хрысціянскага канону.

«Постмузейны» перыяд творчасці Д. Бічэль, які распачынаецца на мяжы стагоддзяў, адрозніваецца ад двух папярэдніх магутным хрысціянскім пафасам. Хрысціянская паэзія Д. Бічэль вельмі рэдка апранае бліскучыя святочныя «арнаты», аддаючы перавагу суровым строям манахаў францішканаў. Аднак пад гэтай простай вопраткай-формай заўсёды крыецца глыбокі змест хрысціянскага светасузірання, ад якога чытач адчувае радасць і лёгкасць:

*У тым блакіце, дзе анёлаў крылы*
*спляліся з хмаркамі ў вяночак мілы,*
*сусвет трымае белы Галубок.*
*Сусвет трымаць яму даў права Бог.*

Кожны такі верш, як споведзь — ні хітрасці, ні падманнай гульні там няма — ёсць спакой і святло. Кожны верш Д. Бічэль мае і сваю таямніцу, і сваё дакладнае прызначэнне. Кожны верш, як добры настаўнік, цярпліва тлумачыць хрысціянскае веравучэнне, каб яго вучань-чытач усё зразумеў правільна, а калі не зразумеў, то адчуў праўду сваім добрым сэрцам. Кожны верш, як малітва, у якой яднаюцца любоў з верай быць пачутаю:

*Ружанец — канат у нябёсы.*
*Малітва і пацеркі-слёзы.*
*Малітва — на беразе лодка.*
*Маліцца на беразе лёгка.*
*На беразе светла маліцца,*
*як поўная сэрца крыніца,*
*але, як засушана сэрца,*
*любоў дапаможа сагрэцца.*

Лірыка як род літаратуры і так мае шмат агульнага з малітвай, але калі паэты робяць малітву лірычным жанрам, іх паэзія становіцца ўзнёслай. Шчырыя вершы-малітвы гучаць і з вуснаў Дануты Бічэль («Малітва за Антоніка», «Малітва да святога Антонія», «Малітва да апостала Андрэя», «Малітва душаў да святога Андрэя Баболі» «Малітва за Яначку, які пабыў тут некалькі гадзін, і за ўсіх ненароджаных» і інш.). Нельга не згадаць і прыгожы вершаваны цыкл «Крыжовы шлях Збаўцы нашага Езуса Хрыста», які можна назваць вяршыняй не толькі творчасці Д. Бічэль, але і ўсёй усходнеславянскай хрысціянскай паэзіі. Апроч несумненных мастацка-эстэтычных вартасцяў, адметнасць гэтага цыклу ў магчымасці яго выкарыстання на практыцы — у традыцыйным каталіцкім набажэнстве, якое ўзнаўляе ў памяці вернікаў асноўныя моманты пакутаў Хрыста. Нагадаем, што

набажэнства складаецца з 14-ці стацый, кожная з якіх звяртае ўвагу на трагічнасць апошніх гадзін зямнога жыцця Езуса. Усе гэтыя моманты знаходзяць годнае ўвасабленне ў паэтычным цыкле, які Д. Бічэль завяршае «Малітвай на заканчэнне Крыжовага шляху». У ёй паэтка-плачка падводзіць чытача да тонкай мяжы паміж святлом веры ў выратаванне і праўдай пазнання Боскай мэты:

*Езуса Кроў па кроплі праз часу імжу*
*утварае збаўлення хлеб белы...*
*Божы святар несмяротную жывую душу*
*корміць Хрыстовым містычным Целам.*

Крочыць да Бога можна рознымі сцяжынамі. Просты чалавек ідзе шляхам малітвы, пакаяння, веры. Паэт ідзе тым самым шляхам, але глядзіць не ў дол, а ўверх, таму коле босыя ногі апалымі зорамі вершаў. Сцяжына Д. Бічэль шчодра ўсыпаная вершамі рознай формы з розным напаўненнем. Чужыя вершы паэтка таксама ўмее зрабіць сваімі, асцярожна пераклаўшы іх, як часам перакладаюць з аднаго месца ў іншае каштоўныя рэчы.

Паэтычны пераклад паэзіі — самы складаны з усіх відаў перакладу. Складанасць крыецца перш за ўсё ў мове як спосабе адмысловага светасузірання: перакладаючы верш з адной мовы на іншую, перакладчык насамрэч падмяняе чужое светабачанне сваім. І калі светабачанне паэта і перакладчыка блізкія, то падмену можна і не заўважыць, таму найлепш перакладаць блізкіх па духу творцаў. Для Д. Бічэль такімі творцамі сталі найперш Караль Вайтыла (Папа Рымскі Ян Павел II), Ян Твардоўскі, Мацей Юзаф Кананові́ч, Міраслаў Качмарэк. Іх паэзія вельмі складаная, бо яна апелюе і да душы, і да розуму, насычаная мноствам няпростых тропаў і сімвалаў, звязаных з хрысціянскім светаўспрыманнем. Між тым, пераклады гэтых няпростых твораў атрымаліся ў Д. Бічэль бліскучымі, а беларуская літаратура ўзбагацілася прыгожымі, глыбокімі вершамі, значна пашырыла сваю эстэтычную прастору.

У трэцюю частку «Выбраных твораў» Д. Бічэль увайшлі празаічныя тэксты — успаміны і эсэ. Упершыню з прозаю паэткі чытач пазнаёміўся ў кнігах «Хадзі на мой голас» (Гродна-Вроцлаў, 2008), «Мост святога Францішка» (Мінск, 2010) і «Правінцыя святога Францішка» (Гродна, 2013). Вось як адрэагаваў на першую кнігу прозы Д. Бічэль народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч: «*Ваша кніга — самае выдатнае, што я ў гэтым жанры за апошнія гады прачытаў. І я зразумеў, чаму. Вы пішаце пра дарагіх і блізкіх Вам людзей не атрамантам, а слязой — такой цёплай, такой горкай і такой магічнай, што з ёю захоча зліцца і сляза чытача (маю і сябе на ўвазе). <...> У кнізе Вы робіце высновы — вельмі слушныя. І выносіце прысуды — суворыя, нават жорсткія, але — і балючыя, і гэта галоўнае, што яны балючыя. Гэта было, ёсць і будзе адзнакай таленту...*» (з ліста да Д. Бічэль ад 5. 12. 2008 г.).

Большасць празаічных тэкстаў Д. Бічэль — паэзія, запісаная не ў слупок. І гэта адбываецца не таму, што празаічны талент пісьменніцы нейкі не такі. Прычына тут у неверагодна магутнай паэтычнай стыхіі, якую немагчыма кантраляваць. Гэтай стыхіі цесна ў фарватары празаічных жанраў, нават у такім шырокім і глыбокім, як эсэ. І яна выплёсківаецца далёка «за берагі», заглушаючы празаічны пачатак. Проза Д. Бічэль — гэта суцэльная плынь свядомасці: чытаючы яе, міжволі згадваеш творы Марсэля Пруста — амаль тыя ж мастацкія прыёмы (асабліва часта — прыём рэтраспекцыі), такое ж шырокае кантэкстуальнае поле, напоўненае гістарычнымі постацямі, асобамі пісьменнікаў, мастакоў, грамадскіх дзеячаў і звыклых людзей. Але М. Пруст занадта расцягвае час і прастору ў сваіх творах, а Д. Бічэль, наадварот — сціскае часава-прасторавыя межы. Асобныя празаічныя тэксты пісьменніцы вельмі блізкія да літаратуры магічнага рэалізму. Вось што пісаў у 1931 г. аўтар тэрміна «магічны рэалізм», французскі крытык Эдмон Джалу: «*Роля магічнага рэалізму заключаецца ў тым, каб знайсці ў рэальнасці дзіўнае, лірычнае і нават фантастычнае — тыя элементы, дзякуючы якім штодзённае жыццё становіцца даступным для паэтычнага, сюррэалістычнага і нават сімвалічнага пераасэнсавання*». Гэтыя словы трапна адлюстроўваюць сутнасць творчасці Д. Бічэль — і яе прозы, і паэзіі, і (часткова) мастацкіх перакладаў. І прыводзім мы гэтае выказванне не так проста, а каб навесці шаноўнага чытача на думку, што сістэма айчыннага вербальнага мастацтва працуе гэтак жа добра, як і ў нашых суседзяў — блізкіх і далёкіх, што не трэба шукаць цудаў недзе за далягладам, калі цуды тут, побач, у тым ліку і ў кнізе «Выбраных твораў» Дануты Бічэль.

Міхась СКОБЛА




# Залатая Горка Ірыны Багдановіч

*Ірына Багдановіч. Залатая Горка: вершы, пераклады, артыкулы. — Мінск: «Кнігазбор» (серыя «Кнігарня пісьменніка»). — 2015, 400 стар.*

«Ад абразоў святых біў нейкі спакой няземскі... Мне ж хацелася высокага зразумення і вялікіх учынкаў». Гэтыя словы ксяндза-паэта Казіміра Сваяка адразу ўспомніліся, як толькі я пераступіў парог касцёла Яна Хрысціцеля ў Камаях, што на Пастаўшчыне. Абразы на сценах віселі тыя самыя (адзін напісаны знакамітым Альфрэдам Ромерам), што і ў 1915 годзе, калі малады Кастусь Стэповіч пачынаў тут сваю святарскую службу. Хіба «Пагоня» з навачаснай фрэскі імкліва ляцела кудысці на захад, у бок недалёкай Вільні, мо таксама «ўспомніўшы Вострую Браму святую». Тут Стэповіч-Сваяк імкнуўся да «высокага зразумення» з Богам і людам, таму ў камайскім храме каторы ўжо год ладзяцца Сваякоўскія паэтычныя чытанні — пад духоўнай апекай мясцовага пробашча Яцэка Хутмана.

У старадаўнюю святыню (год пабудовы — 1606!) сабралася паўнютка людзей, якія сваім дыханнем перамаглі дваццаціградусны мароз, што ўпарта шчаміўся ў раз-пораз адчыняныя дзверы. Нават каменная падлога, ад якой спачатку веяла проста ледавіковай халадэчай, пад канец Імшы адчувальна пацяплела.

А яшчэ вернікі грэліся словам — малітоўным і паэтычным, слухаючы выступы пастаўскіх і сталічных паэтаў, што перамяжоўваліся адпаведнымі нагодзе спевамі. Сталага веку мужчына, які нясмела падцягваў «Магутны Божа», нахіліўся да сваёй суседкі па лаве: «Чула, Ядзя, што з амбоны казалася?» І са смакам паўтарыў: «*Не з чужога прымусу, // не крадком-патайком // беларус беларусу // мусіць быць сваяком!*»

Проста на маіх вачах людзі раднелі душамі, як быццам у Камаях нанова ўзнікаў той «Хаўрус сваякоў», які сто гадоў таму заснаваў у гэтых мясцінах святар-паэт, што праз сваё літаратурнае імя хацеў пасваячыцца з усімі суайчыннікамі.

У той дзень у касцёле шматкроць згадвалася і імя даследчыцы Ірыны Багдановіч, якая фактычна паставіла Казіміра Сваяка ў класічны шэраг, падрыхтаваўшы для серыі «Беларускі кнігазбор» том ягонай спадчыны, амаль адначасова

---

**Міхась Скобла** — паэт, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» і выдавецтва «Беларускі кнігазбор», у Міністэрстве культуры і друку. Аўтар кніг паэзіі «Вечны зніч» (1990), «Вочы савы» (1994), «Нашэсце поўні» (2001), «Акно для матылькоў» (2009), зборнікаў пародый «Розгі ў розніцу» (1993), вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), краязнаўчых нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), радыё-дыялогаў «Вольная студыя» (2009), эсэ «Саркафагі страху» (2016). Уклаў фундаментальныя анталогіі паэзіі: «Краса і сіла: беларуская паэзія XX ст.» (2003), «Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX ст.» (2008), збор твораў Л. Геніюш ды інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000).

выдаўшы ў той самай серыі кнігу і другога паэта-святара — Вінцука Адважнага. А яшчэ ў полі яе пільнага зроку — святары Адам Станкевіч і Леў Гарошка, славуты і даследаваны з усіх бакоў Адам Міцкевіч і таямніча-напаўлегендарная Адэля з Устроні, прадстаўнік княскага роду Мікалай Радзівіл Сіротка і «мужыцкі адвакат» Францішак Багушэвіч, збіральнік «беларускіх песняў з-над Нёмна і Дзвіны» Ян Чачот і амаль забытая ў Беларусі Зоф'я Манькоўская, якой Уладзіслаў Сыракомля (таксама «падапечны» Ірыны Багдановіч) са смяротнай лажніцы прадыктаваў наказ: «Спявай пасля мяне на сіратлівай Літве».

Усе названыя — героі новай Ірынінай кнігі «Залатая Горка», што выйшла ў свет прыканцы мінулага года. Усе яны «людзі на ўзвышшы» — паводле трапнага вызначэння аўтаркі. Дарэчы, згаданае выслоўе стала б добрай вобразнай характарыстыкай для ўсяго нашага народа, які даўно і відавочна вырас з купалаўскага «людзьмі звацца» і мележаўскага «людзі на балоце». Усіх іх (і не толькі іх) Ірына Багдановіч далікатна пераводзіць па кладцы таго самага «высокага зразумення» з XX у XXI стагоддзе. О, як патрэбныя такія праваднікі сёння, калі ў вірах каламутнае Леты патанаюць адзін за адным тыя, каму нашчадкі не захацелі кінуць выратавальны круг памяці. Чамусьці чытач наш у наступнае стагоддзе перакрочыў — нібы перасяліўся на другую планету, пакінуўшы як непатрэбшчыну наробак цэлых пакаленняў.

Хто б сёння ведаў пра віленскую паэтку шляхцянку Габрыэлю Пузыню, якая ў сваім маёнтку арганізавала мастацкі салон, дзе бывалі Станіслаў Манюшка і Уладзіслаў Сыракомля, калі б не пераклады і крытычныя тэксты Ірыны Багдановіч?

Хто б увядоміў для паспалітага чытача паэта з Віленшчыны Антона Гарэцкага, які ў вершы «Бітва на Бярэзіне» кінуў нязвыклы для нашага вуха папрок Напалеону: «*Бог табе даверыў меч дзеля свабоды, // каб ты з гвалту й цемры вызваляў народы, // а не хапаў троны дзеля пыхі-славы, // паглядзі ж на вынік страшны і крывавы*». У працытаваным вершы — уся трагедыя ліцвінаў-беларусаў на французска-расійскай вайне 1812 года, якую нашы школьныя падручнікі па савецкай інерцыі працягваюць называць Айчыннай.

Гэй, аматары ваенных рэканструкцый, чаму вам так хочацца, надзеўшы напалеонаўскі ківер, пастраляць з бутафорскіх гарматак? Ірына не страляе, але перакладзены ёю верш Антона Гарэцкага — больш важкі за любое ядро.

А ў каго сёння дайшлі б рукі сабраць зборы твораў згаданых ужо Казіміра Сваяка і Вінцука Адважнага? Прычым з расцярушанай перыёдыкі, якую саму́ю трэба збіраць, бо ў беларускіх бібліятэках, звычайна, некамплекты. (Прынагодны дзякуй літоўскай Бібліятэцы Урублеўскіх, якая нядаўна абліччбавала і выставіла ў свабодны доступ больш за сотню заходнебеларускіх газетаў і часопісаў.)

У Ірыны Багдановіч рукі даходзяць да ўсяго і да ўсіх. І калі чытаеш «Залатую Горку», разумееш, якія гэта былі самаахвярныя і мэтаскіраваныя людзі — той жа Сваяк, той жа Адважны, а поплеч з імі — і Андрэй Зязюля, і Янка Быліна, і Адам Станкевіч. Апошні меў такі аўтарытэт у народзе, што нават атрымаў прапанову ад савецкай улады ўзначаліць Каталіцкі Касцёл на тэрыторыі ўсяго СССР. Адмовіўся. Пра што агент *Мефіста* (мянушка, дадзеная ксяндзом) неадкладна паведаміў у Маскву. Адам Станкевіч быў арыштаваны, высланы ў Гулаг, дзе і памёр. «*От ожирения сердца*» — як цынічна напісала ў сваім «*заключении*» тая самая ўлада, якая прапаноўвала ксяндзу паўнамоцтвы мітрапаліта.

Насёрбаўся лагернай баланды і ксёндз Язэп Германовіч, які цалкам апраўдана ўзяў сабе літаратурнае імя Вінцук Адважны. Трэба было сапраўды мець у душы адвагу, каб у страхотлівым 1937-м у фактычна прыгранічнай Вільні публікаваць такія іранічныя замалёўкі: «*У Саветах — поўна воля, // а ў калгасах — свішча поле. // Мужык — пан! Ён толькі знае, // што машыну падганяе. // А машына, хай Бог крые, // аж пацее — зямлю рые! // Растуць дыні, як падушкі; // на вярбе — чырвоны грушкі... // Адным словам, ўсё як трэба, // не хапае толькі... хлеба*». Аўтара верша саветы запомнілі, дапільнавалі ажно ў кітайскім Харбіне і — на 25 гадоў выслалі ў Гулаг. А чырвоныя грушы на беларускай вярбе раслі яшчэ больш за паўстагоддзя...

«Залатая Горка» Ірыны Багдановіч нагадвае мне «Залатую ружу» Канстанціна Паўстоўскага. Памятаеце — яе герой Жан Шамет па майстэрнях ювеліраў вызбірваў залатыя пясчынкі, каб выкаваць з іх залатую ружу. Так і аўтарка «Залатой Горкі» вышуквае залацінкі беларускай паэзіі там, дзе які-небудзь высакалобы

крытык толькі грэбліва зморшчыцца. Даводзілася і мне неаднойчы чуць сентэнцыі накшталт: ну колькі можна прыцягваць за вушы ў беларускую літаратуру польскамоўных паэтаў XIX стагоддзя і глядзець на іх праз павелічальнае шкло? Маўляў, мова — радзіма паэта.

Што ж, літара — матэрыя ўпартая, але ж ёсць яшчэ і дух — усё ж субстанцыя першасная, які, як вядома, лунае дзе захоча. Ён можа выказацца і праз чужую графічную сістэму, як тое паказальна адбылося з Адамам Міцкевічам.

«У нас ёсць свой Міцкевіч (Якуб Колас)», — чую я ад літаратурных пурыстаў.

Дык няхай будуць два Міцкевічы — навошта самазбядняцца?

Канстанціну і турэмныя сцены на радзіме дапамагалі «Новую зямлю» пісаць, а Адам у Парыжы нудзіўся, душыўся горкім выгнанніцкім хлебам, нямеючы душой. І тады ўдзельніца паўстання 1830 года Габрыэля Гюнтар-Пузыня (так, тая самая) прыслала яму кварту вады з Нёмана, які фігураваў у Міцкевічавых санетах як хатняя рака (*domowa rzeko moja*). І паэт напісаў «Дзяды».

У адной з паэмаў Ігара Шклярэўскага, чый беларускі дух таксама прасочваецца праз мярэжы чужой мовы, кожны п'е са сваёй ракі — Васіль Быкаў — з Нёмана, Віктар Казько — з Прыпяці, Віктар Астаф'еў — з Енісея, акадэмік Дзмітрый Ліхачоў — з Ладагі...

І Ірына Багдановіч, як тая віленская шляхцянка, як магілёвец Шклярэўскі, дае напіцца нараджэнцам Беларусі з іх родных рэк. Так мне бачыцца яе разнажанравая творчасць, прадстаўленая на старонках «Залатой Горкі».

Мушу трохі сказаць і пра тое, што мне бачыцца ў кнізе неабавязковым. Усё ж не варта было аўтарцы вышукваць багаборчыя матывы ў вядомым вершы Максіма Танка *«Ave Maria»*. Гэта гімн прыгажосці. Ну не носяць каталіцкія (ды і праваслаўныя) манашкі паранджу, і наўрад ці мужчынскія замілаваныя пагляды іх зневажаюць. І ўжо дакладна не абразіў нічыіх рэлігійных пачуццяў Анатоль Вялюгін у вершы «Спелы бор», параўнаўшы сасновы бор з храмам. Адзіная праблема ў гэтым вершы — тое, што ва ўсіх выданнях у самы апошні момант разумныя карэктары абавязкова ўносілі праўку-памылку. У паэта было: «у спелым ле*ц*е спелы бор», а ў кнігах выходзіла: «у спелым ле*с*е спелы бор». Бор — у лесе... На жаль, пракралася гэтая памылка і ў «Залатую Горку».

Як прыкры недагляд у кнізе 2016 года выдання чытаецца і сцвярджэнне, што прыведзены там цалкам верш Ларысы Геніюш «Хрыстос васкрос, і свет прачнуўся...» «дасюль не быў надрукаваны ў спадчыне паэтэсы». Ён даўно апублікаваны — у першым томе юбілейнага двухтамовіка (2010) у ліку 74-х іншых твораў, што склалі цэлы вялікі раздзел «З архіўнай схованi».

А каб не заканчваць гэтыя нататкі крытычнымі заўвагамі (па сутнасці — дробязнымі), прыгадаю, як аднойчы мы з Ірынай Багдановіч удзельнічалі ў міжнародным паэтычным фестывалі ў Друскінінкаі (фотаздымак з таго дзейства трапіў і ў «Залатую Горку»). Літоўскія, польскія і беларускія паэты чыталі вершы за столікамі ў кавярні, з чоўнаў на возеры, у старым храме... От, бубнілі сабе пад нос — асабліва такой дзіўнай манерай чытання вызначаліся нашы суседзі (не ў крыўду ім будзь сказана). І тут выйшла Ірына, сагрэла ўсіх сваёй сонечнай усмешкай і павяла верш — як песню над ракою, як малітоўную фугу на нябачным аргане: «*Бэз безупынны, бязлітасны, бэз летуценны, // бэз як бязмежжа памкненняў, пачуццяў іграння. // Бэз каралеўскі, сармацкі, бухмата-праменны, // бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня»... Закончылася чытанне словазлучэннем «трыумф урачыстых»*, дык трыумф і наступіў — літоўцы з палякамі пляскалі і крычалі «бравісіма», як у тэатры.

А потым мы з Ірынай стаялі каля друскінінкайскага касцёла ў жоўтай лістоце. А потым слухалі музыку ў музеі Чурлёніса, дзе я ўпершыню ў жыцці проста фізічна адчуў тое, пра што ведаў даўно, не надаючы яму асаблівага значэння. У Чурлёнісавай гасподзе ноты не проста прагучалі, яны нібы *пахваліліся* нам сваім высокім паходжаннем: *Do — Dominus* (Бог), *re — rerum* (матэрыя), *mi — miraculum* (цуд), *fa — familias planetarium* (сям'я планетаў), *sol — solis* (сонца), *la — lacteal via* (Млечны Шлях), *si — siderae* (нябёсы). І гэта было дзівосна...

Вось які незвычайны чалавек — паэтка і збіральніца залацінак беларускай літаратуры Ірына Багдановіч!




*«Некалі даўно ў адной тэалагічнай кнізе я прачытала, што сэнс каталіцкай літургіі ў тым, каб прышчапіць людзям пачуццё велічы і магутнасці Божай, а таксама пачуццё нашай уласнай немачы і ўбоства. Першае пачуццё без другога зробіць вас пыхлівымі, а другое без першага выкліча ў вас жаданне забіць сябе і зробіць непрыдатным для евангелізацыі. Але калі ў вас жывуць абодва, вы можаце быць вучнямі Хрыста. Мне здаецца, тое самае датычыць і гісторый, якія мы мусім распавядаць».*

Барбара Нікалозі

**Інтэрв'ю Зоі Раманоўскі з галівудскім сцэнарыстам і прадзюсарам, каталічкаю Барбараю Нікалозі**

# Хрысціяне ў Галівудзе. Хрысціяне ў мастацтве



Барбара Нікалозі ўжо больш за 20 гадоў жыве ў Лос-Анджэлесе і вельмі добра ведае, якое месца займаюць хрысціяне ў Галівудзе. Яна заснавальніца і ганаровы старшыня некамерцыйнай арганізацыі *Act One, Inc.,* якая праводзіць падрыхтоўку і навучанне хрысціянаў для працы сцэнарыстамі і выканаўчымі прадзюсарамі ў Галівудзе. Нікалозі — сцэнарны аналітык, выканаўчы прадзюсар, кансультант, удзельніца праектаў «Мукі Хрыстовыя» (*The Passion of the Christ*), «Новая Жанна д'Арк» (*Joan of Arcadia*), «Ратуйце Грэйс» (*Saving Grace*). Яна — член Гільдыі пісьменнікаў Заходняй Амерыкі, піша кінасцэнарыі не толькі для галівудскіх, але і для іншых кінакампаній. Апошні яе праект — паўнаметражная экранізацыя мемуараў «Суровая міласэрнасць» (*Severe Mercy*) для кампаніі *Origin Entertainment*. У Рыме праходзяць здымкі фільма «Фаціма» па яе сцэнары. Барбара Нікалозі — ад'юнкт-прафесар ва ўніверсітэце Азусы ў Каліфорніі і рыхтуецца атрымаць ступень доктара філасофіі ў галіне творчага пісьменніцтва ў брытанскім універсітэце *Bath Spa University*.

У 1998 г., калі аўтар артыкула, Зоі Раманоўскі, пазнаёмілася з Барбараю Нікалозі, яна належала да сакрэтнага таварыства хрысціянаў у Галівудзе *InterMission*, куды ўваходзілі людзі, якія працавалі ў індустрыі відовішчаў. «Сакрэтнае таварыства» — гэта не жарт: сустрэчы адбываліся патаемна, імёны чальцоў таварыства не публікаваліся і не абмяркоўваліся на публіцы. Пазней узнікла арганізацыя *Act One*, і праз восем гадоў *InterMission* перастала існаваць у тым ліку і з той прычыны, што *Act One* і іншыя хрысціянскія групы здолелі паспяхова прадставіць у Галівудзе хрысціянаў як кемлівых мысляроў і цудоўных апавядальнікаў.

У гэтай размове Барбара Нікалозі распавядае пра цяперашняе становішча хрысціянаў у Галівудзе, іх уплыў на індустрыю відовішчаў і магчымыя перспектывы развіцця.

— *Барбара, распавядзіце, калі ласка, якое месца хрысціяне займаюць у Галівудзе.*

— Калі я ўпершыню сюды прыехала, ніхто з тых, хто быў у мэйнстрыме індустрыі, не браўся за праекты, адкрыта звязаныя з духоўнасцю або рэлігіяй. Бог у Галівудзе «сапраўды памёр». <...> Існавала меркаванне, што рэлігія — найстрашнейшы забойца кінафільмаў. <...> Усё змянілася са з'яўленнем фенаменальна папулярных стужак «Мукі Хрыстовыя», «Хронікі Нарніі», «Уладар пярсцёнкаў». Яны на працягу пяці гадоў білі рэкорды па касавых зборах, і тады ўсе нібы «захварэлі на рэлігію». Паўсюль можна было пачуць: «Гледачам "Мукаў"

гэта мусіць спадабацца». Узнік вал рэальна дрэннага кіно, якое здымалі галівудскія студыі без ніякай павагі і сапраўднага разумення таго, што такое фільм, напоўнены духоўнасцю і вераю. Я маю на ўвазе стужкі «Валадарства Нябеснае», «Кніга Ілая», «Ной», «Зыход: багі і каралі», і апошнюю катастрофу — «Бэн Гур». Я памятаю, як прыйшла на прэзентацыю «Канстанціна» і знаёмы журналіст сказаў мне: «Барбара, табе гэта спадабаецца, там ёсць усе твае штукі». Я падумала: «Усе мае штукі? Што гэта значыць?» Гэта аказалася кіно з Кіану Рыўзам, там былі і дэманы, і дошкі для выклікання духаў, і асвячоная вада, і крыжы, і ладан, і спірытызм... у стужку напхалі ўсяго, што мела хоць якія-небудзь адносіны да хоць якой рэлігіі. Усе падобныя фільмы правальліся ў пракаце, і галівудскія кінакампаніі палічылі, што поспех рэлігійнай кінастужкі — шчаслівая выпадковасць і феномен Мэла Гібсана. А пасля сталі ўзнікаць кінапраекты евангельскіх хрысціянаў.

Яны распачалі «партызанскую вайну», здымаючы кіно для сваіх вернікаў, і знайшлі спосаб атрымліваць ад яго прыбытак. Зразумела, лічбы непараўнальна меншыя, чым у мэйнстрымавым кіно, але студыі заўважылі гэты маленькі поспех і сталі радасна распаўсюджваць фільмы сярод хрысціянаў і атрымліваць свае невялікія грошы. Цяпер амаль кожная кінастудыя мае рэлігійны аддзел, які займаецца пошукам кантэнту для гэтай рынкавай нішы. У гэтага медаля два бакі. Добры — у тым, што індустрыя вялікага кіно размаўляе з людзьмі пра веру і не ўспрымае нас як ненармальных. Дрэнны — у тым, што гэтыя фільмы загналі нас у «гета», і калі ты прыносіш у студыю сапраўды добры праект, такі як «Марыя, Маці Хрыста» або «Суровая міласэрнасць», табе, па-першае, кажуць: «Гэта занадта складана для хрысціянаў, яны не любяць выклікаў для сябе», а па-другое: «Можна задаволіць гэтую аўдыторыю, затраціўшы нашмат меншыя грошы, чым каштуе гэты фільм». Я ўсё гэта чула ад выканаўчых прадзюсараў кінастудый.

Інакш кажучы, вось што яны маюць на ўвазе: «Для чаго плаціць 40 мільёнаў за фільм пра веру і нешта звышнатуральнае, калі можна зрабіць яго за 2 мільёны? Там не будуць здымацца зоркі, не будзе вялікага рэжысёра, не будзе добрага сцэнара, але мы ўставім некалькі цытатаў з Бібліі, і атрымаецца міленькая меладрама, якая прынясе нам 30 мільёнаў». Гэтая пазіцыя катастрафічна знішчальная для Касцёла, для мастацтва і для грамадства ў цэлым, бо цудоўныя праекты, інспіраваныя вераю, проста не ўспрымаюць усур'ёз і не працуюць з імі.

Існуе яшчэ адзін дрэнны аспект гэтай сітуацыі: хрысціяне зразумелі, што, каб зарабіць грошы на кінастужках, трэба зрабіць іх аб'ектам палітычных гульняў. Здыміце жудаснае кіно, але назавіце яго «Бог не памёр» і паклічце хрысціянскую супольнасць падтрымаць яго на «шоў Галівуда». Гэта спроба знайсці палітычную тэму, якая згуртуе хрысціянскую аўдыторыю, замест таго, каб ствараць нешта сапраўды прыгожае. А праўда ў тым, што нам патрэбны не мітынг, а досвед асабістага пакаяння, нам трэба зацікавіць людзей, якія не вераць, што мы верым.

*— Вы маеце на ўвазе, што ў індустрыі знікла мастацтва, знікла прыгажосць?*

— Так, гэта нават перастае быць мэтаю ў стварэнні кіно, што вельмі мяне засмучае. Дастаеўскі сказаў, што прыгажосць выратуе свет, але мы нават не імкнемся да гэтага, а жадаем набраць балы ў палітычнай гульні, якую мы ўжо прайгралі.

*— Дык ці можа існаваць такое кіно «для сваіх, для тых, хто ў тэме», а не для пашырэння культуры?*

— Можа існаваць. Але мы павінны імкнуцца ствараць фільмы, якія прамаўляюць да розных катэгорый людзей на розных узроўнях. Гэта цудоўна атрымлівалася ў Фланэры О'Конар*. Язычнікаў глыбока кранае чалавечы канфлікт у яе гісторыях. Хрысціяне ўспрымаюць іх на іншым узроўні, заўважаючы, як яна прамаўляе аб Божай ласцы. А калі вы — каталік, то не толькі ўбачыце абодва гэтыя аспекты, але і атрымаеце задавальненне ад таго, што яна была «наша» (гэта жарт)!

Мы не мусім займацца пошукам спосабаў, каб нашыя людзі лепш думалі пра сябе саміх, а мусім пасаромецца таго, як мала мы дасягнулі. Некалі даўно ў адной тэалагічнай кнізе я прачытала, што сэнс каталіцкай літургіі ў тым, каб прышчапіць людзям пачуццё веліч і магутнасці Божай, а таксама пачуццё нашай уласнай немачы і ўбоства. Першае пачуццё без другога зробіць вас пыхлівымі, а другое без першага выкліча ў вас жаданне забіць сябе і зробіць непрыдатным для евангелізацыі. Але калі ў вас жывуць абодва, вы можаце быць вучнямі Хрыста. Мне здаецца, тое самае датычыць і гісторый, якія мы мусім распавядаць.

Я лічу, што прынцып павінен быць такі: прыгажосць неабходна спалучыць з адной з нашых фундаментальных вызначальных дактрынаў. Ёсць тэмы, з якімі мы можам працаваць, каб вынік атрымаўся асабліва магутны і пераканаўчы, бо гэтыя тэмы хрысціянскія па сутнасці. Я вызначыла восем такіх. Адна з іх належыць О'Конар: «Заўжды прысутная Божая ласка». Напрыклад, можна стварыць кіно, дзе з'яўляецца нешта таямнічае, звышнатуральнае і страшнае, пераследуе людзей і жадае захапіць іх, як гэта робяць д'ябал, цялеснае, матэрыяльнае. Загадкава, але не атрымаецца

растлумачыць гэтую ідэю ў межах аднаго толькі «трыумфу чалавечага духу». Калі гэтае кіно будзе яшчэ і прыгожае, яго можна будзе назваць хрысціянскім. Прыгажосцю, паводле традыцыйнай філасофіі, я называю ўсё, што нясе ў сабе гармонію і святло.

Іншы прыклад: тэма «радасць і пакуты непарыўна злучаныя». Кампанія *Pixar* выкарыстала яе ў мультфільме «Галаваломка» (*Inside out*), выказаўшы думку, што нельга атрымаць паўнату радасці, не прыняўшы пакутаў і болю. Я ледзь з крэсла не звалілася! І, апроч усяго, адна з асноўных ідэяў мультфільма, аб «скрыначках памяці», узятая з апошняга раздзелу «Споведзі» святога Аўгустына. Такім чынам, мне здаецца, калі справа датычыць духоўнага кіно, гэта не толькі, або нават не столькі, канцэпцыя «Ой, трэба экранізаваць біблійныя гісторыі і здымаць кіно пра святых». Не, нам неабходна ствараць гісторыі, якія нейкім незвычайным, настойлівым, прыгожым чынам, затрымліваючыся ў памяці і ўздзейнічаючы на пачуцці, нясуць у свет сутнасныя ідэі таго, у што мы верым.

*— Як Вы лічыце, ці ёсць месца ў кіно для сакральнага мастацтва?*

— Так, але толькі без банальнасцяў і бязглуздзіцы! Аспект мастацкага павінен тут моцна пераважаць, у адрозненне ад апавядальна-відовішчнага.

*— Блокбастары гэтага лета праваліліся ў пракаце. Чаго ім не хапіла, на Вашую думку?*

— Сусветная аўдыторыя за апошнія некалькі гадоў перастала хадзіць на блокбастары. Дзякуй Богу! Тэндэнцыя назіраецца з 2012 года, а ў 2016-м амаль усе рэйтынгавыя стужкі праваліліся, за выключэннем мультфільма «У пошуках Доры» (*Finding Dory)* кампаніі *Pixar*. Аматары кіно, здаецца, нарэшце перасыціліся экшэнам і пустою відовішчнасцю.

Арыстоцель, пералічваючы шэсць элементаў твора, называе відовішчнасць апошняю. Спачатку ідзе сюжэт, пасля — персанаж, тэма, дыкцыя (дыялог), музыка (тон) і толькі пасля — відовішчнасць. У Галівудзе пасля выхаду стужкі «Пашча» (*Jaws, 1975*) відовішчнасць паступова выйшла на першае месца, пасля — персанаж: гэта датычыць кіназорак і акцёрскага бізнесу, і толькі пасля даходзіць да сюжэта фільма. А на апошнім месцы сёння стаіць тэма — пра што гэтая кінастужка і чаму гэта павінна мяне зацікавіць. У гэтым сутнасць праблемы: сёння ствараюцца гісторыі ні аб чым, гісторыі аднаго моманту. І аўдыторыя масава адмаўляецца гэта глядзець.

Індустрыю выратуе менавіта тэматычнасць. Грашовыя крыніцы ў Галівудзе спустошаныя, фільмы фінансуюцца па складаных глабальных механізмах. Фільмы на сапраўды добрыя, моцныя, агульначалавечыя тэмы скіраваныя на мужчынскую аўдыторыю 18–35-ці гадоў, гэта асноўная мэтавая аўдыторыя для ўсёй кінаіндустрыі ў апошнія дзесяцігоддзі. Але, працуючы над доктарскай дысертацыяй па адной з найлепшых еўрапейскіх праграмаў у галіне творчага пісьменніцтва, я прыйшла да наступнай высновы: праблема ў тым, што кінаакадэмія масава вучыць людзей быць апавядальнікамі ў культурнай прасторы, дзе выгадна не дапускаць існавання такіх паняццяў як чалавечая прырода або чалавечая гісторыя. Гісторыяй называюць усё што заўгодна, і ў выніку гэтага гісторыя сама становіцца пустою, становіцца нічым.

Але людзі прагнуць гісторый, бо, як заўважыў Арыстоцель, да гэтага схільная чалавечая натура, і мы ходзім у кіно, шукаючы таго, што заспакоіць гэтае прагненне. Але, за рэдкім выключэннем, мы заходзім у кінатэатр «галоднымі» і выходзім адтуль таксама «галоднымі» і з пачуццём агіды. Чаму б тады Касцёлу не заняцца гэтаю справаю і не запоўніць вакуум? Чаму мы не вучым людзей ствараць гісторыі? Менавіта гэтым мы павінны займацца. Касцёл павінен служыць культуры.

*— Заснаваўшы праграму Act One, што Вы можаце сказаць пра тое, як навучаць людзей ствараць гісторыі?*

— Важны момант маёй біяграфіі — гэта тое, што я, як ад'юнкт-прафесар, выкладаю ў каледжы *Honors* ва ўніверсітэце *Azusa Pacific*, побач з Лос-Анджэлесам, па праграме *Great Books*, «Вялікіх кніг»**, якая выкарыстоўвае сакратаўскую методыку. Гэта мой свядомы выбар. Я люблю сваіх вучняў у праграме *Act One* і ўсіх, хто мае дачыненне да праграмы, але, працуючы з ёю, я зразумела адно: недастаткова сабраць разам хрысціянаў і вучыць іх распавядаць гісторыі. Неабходная больш глыбокая фармацыя.

Такім чынам, мы даем студэнтам строгую пісьмовую праграму і з дапамогаю вялікіх кнігаў змушаем іх зацікавіцца вялікімі ідэямі. Мы дапамагаем ім усвядоміць, што сучасны мадэрнізм — гэта глупства, дапамагаем зразумець разгубленасць іх сучаснікаў, убачыць тыя памылкі, што глыбока пранікліі ў нас, таму што мы жывем у гэтым асяродку. Калі студэнты атрымалі салідны базіс, мы выбіраем сярод іх тых, хто добра піша, і працуем з імі, навучаючы прынцыпам будовы візуальнага аповеду гісторыі. <...>

Цікавыя гісторыі ствараюць цікавыя людзі. Адно толькі тое, што вы — хрысціянін, яшчэ не робіць вас цікавым чалавекам. Трэба быць хрысціянінам і чалавекам, які ўмее думаць. Таму, калі мы гаворым, што Касцёлу трэба заняцца праблемаю дэфіцыту добрых гісторый, гэта не азначае, што праблема будзе вырашана хутка.

*— Што неабходна сёння хрысціяніну — чалавеку мастацтва, каб дасягнуць поспеху?*

— Тое, што і заўжды было неабходна. Калі Фланэры О'Конар спыталі, чаму яна стала пісьменніцаю, яна адказала: «Таму што ў мяне гэта добра атрымліваецца». Пытанне ў тым, ці ёсць у вас талент? Ёзаф Піпер, каталіцкі філосаф-неатаміст, сказаў, што кожны мусіць быць чалавекам мастацтва. Ён меў на ўвазе, што ўсе мы павінны развіваць у сабе тое, што вучыць нас ствараць і засяроджвацца на дэталях, але людзі, якія становяцца прафесіяналамі ў мастацтве, пакліканымі будаваць і пашыраць культуру, абавязкова мусяць быць таленавітымі. Магчыма, вы маеце добры густ у мастацтве і абазнаныя ў ім, але не маеце таленту, і гэта можа значыць, што вы пакліканыя рознымі спосабамі падтрымліваць людзей мастацтва. Нам гэта патрэбна.

Па-другое, неабходна вялікая падрыхтоўка. Гэта, ізноў жа, значыць атрыманне фармацыі, якая дазволіць чалавеку мастацтва бачыць праблемы сучаснасці, заўважаць, чаго чалавек прагне сёння і чаму. Недастаткова аднаго толькі спачування або эмпатыі, неабходна разумець, што не ў парадку. Гэта не значыць, што трэба рабіць з мастацтва місію, але ў сваё мастацтва вы мусіце цалкам укладаць уласную асобу. У сваім мастацтве і ў Касцёле мы на працягу апошніх 50-ці гадоў робім вялікую памылку, мяркуючы, што адказам на секулярную прапаганду павінна быць святая, пабожная прапаганда. Адказам павінна быць прыгажосць, заснаваная на нашым светапоглядзе.

Атрымаўшы добрую фармацыю, ідзіце навучацца ў лепшыя свецкія вышэйшыя навучальныя ўстановы. Там вы атрымаеце найлепшы падыход, доступ да сучаснага абсталявання і паспяховых педагогаў. Аднак неабходна мець «прышчэпку» ад супрацьлеглых вашым поглядаў, з якімі вы там сутыкнецеся. Я пайшла вучыцца ў *Northwestern*, які ўваходзіць ў дзясятку лепшых кінашколаў, хаця факультэт быў цалкам марксісцкім, і нас, студэнтаў, нават называлі «пралетарыятам»! Але я гэта цярпела, бо там можна было многаму навучыцца.

Я ведаю, што гэта вельмі палохае многіх бацькоў католікаў. Але не ўсе яшчэ разумеюць адно: калі мы хаваемся ўсё глыбей у сваю пячору, шукаючы бяспекі, мы не толькі яе не знаходзім, бо ўнутры сем'яў адбіваюцца ўсе памылкі эпохі, у якую жыве чалавек, але і свет становіцца ўсё горшым. Бог дае нам ласку не для таго, каб мы развіваліся і квітнелі ў сваіх пячорах, а каб мы развівалі і ўзбагачалі гэтую культуру. Мы павінны быць для яе закваскаю.

Ёсць прычыны, якія змушаюць мяне не выкладаць у каталіцкіх навучальных установах. Гэта месцы, дзе ўсё яшчэ важная каталіцкая артадаксальнасць, дзе чытанне вялікіх кніг — абавязковае патрабаванне. За апошнія два дзесяцігоддзі я наведала ўсе гэтыя ўстановы і выбрала пэўную колькасць студэнтаў для працы ў Галівудзе. Мне непрыемна гэта казаць, але амаль ніхто з іх не меў поспеху і не змог працаваць у індустрыі ў асноўным таму, што ім бракавала энергіі, крэатыўнасці і смеласці працаваць у гэтай сферы. Занадта часта яны ў рэшце рэшт знаходзілі новую «пячору», збіралі групку людзей з падобнымі перакананнямі і нічога не стваралі.

Таму цяпер я не без прычынаў выкладаю ў найбольшым некаталіцкім хрысціянскім універсітэце ў краіне. Каля адной трэці выкладчыкаў і студэнтаў тут — католікі, але галоўнае, што, вызнаючы праўду і веру, яны даюць добрае музычнае і спартовае выхаванне, а таксама мноства розных навуковых спецыялізацый. Я прыйшла да высновы, што трэба працаваць са студэнтамі, якія не баяцца культуры, у якой існуюць, і не пагарджаюць ёю.

*— Давайце затрымаемся на гэтым пытанні. Вы прымушаеце многіх бацькоў хрысціянаў задумацца, калі кажаце, што трэба выхоўваць дзяцей так, каб яны маглі вучыцца ў эпохі, у якую жывуць.*

— Калі вашае дзіця таленавітае, сапраўды таленавітае ў сферы мастацтва, тады свет адчайна патрабуе яго таленту, і невыпадкова яно нарадзілася менавіта ў гэты час. Падобнае пакліканне — асаблівы дар, і калі бегчы ад яго, гэта зруйнуе асобу. Нельга гарантаваць такому дзіцяці бяспеку, прымусіўшы яго стаць праграмістам або медсястрою. Магчыма, яно не перастане хадзіць у касцёл, але страціць радасць у жыцці.

*— Такім чынам, бацькі мусяць дапамагаць дзецям зразумець, што яны невыпадкова жывуць менавіта ў гэты час, што Бог стварыў іх, каб быць тут і цяпер...*

— Менавіта так. Нашыя дзеці мусяць заззяць у гэтыя часы, яны павінны стаць маякамі ў цемры, якая ўсё больш згушчаецца. Мы ўсе бядуем, што Касцёл ізноў пачынаюць пераследаваць, нібыта гэта нешта новае для нас. Я памятаю, як напрыканцы 80-х гадоў вывучала эклезіялогію з адною законніцаю, і яна сказала, што пераслед — гэта пятае вызначэнне Касцёла (акрамя паняццяў «адзіны, святы, каталіцкі і апостальскі»). Праўда ў тым, што менавіта ў часы пераследу Касцёл разумее, чым сапраўды з'яўляецца, бо тады мы найбольш прыпадабняемся да Хрыста. Я б сказала бацькам так: «Як вы рыхтуеце сваіх дзяцей, каб яны маглі свяціць у буру? Калі вы вучыце іх знаходзіць маяк і хавацца ў бяспецы ў яго падвале або забірацца ў глухія закуткі, каб іх святло ніхто не ўбачыў, значыць вы ўсё сапсавалі. Мы мусім вучыць дзяцей глядзець у будучыню адкрытым позіркам, без страху, не ганарыста, не прагнучы надыходу нейкіх бяспечнейшых часоў».

У маёй улюбёнай кнізе «Браты Карамазавы» цудоўныя словы гучаць з вуснаў святога старца Засімы, які вучыць чуллівага Алёшу і раіць яму знаходзіць радасць у пакутах. Мне здаецца, на гэта і павінна скіроўвацца сёння каталіцкае выхаванне.

*— І ўсё адно ў Галівудзе адчуваецца недахоп каталіцкай прысутнасці. Чаму так?*

— Тут насамрэч мноства каталікаў, але збольшага яны або не практыкуюць, або не разумеюць, што ім рабіць у мастацтве як вучням Хрыста. Чаму? Як кажуць італьянцы, рыба пачынае гніць з галавы — фармацыя каталіцкіх людзей мастацтва не ідзе зверху. Біскупы ЗША павінны былі заснаваць сцэнарную школу ў Галівудзе яшчэ ў 1927-м або 1935-м, або 1946-м, або на хвалі сексуальнай рэвалюцыі, або калі надышла эра блокбастараў і стала зразумела, што Галівуд развучыўся апавядаць гісторыі. Калі свет веры, цнотаў і філасофіі аддзяліўся ад свету апавядання гісторый, нам засталася адна відовішчнасць. Я зразумела гэта яшчэ ў 80-я. Але ніколі не існавала сапраўднай пастырскай апекі для людзей, якія працуюць у мастацтве і індустрыі відовішчаў.

Некалі даўно я рабіла даклад у Амерыканскім каталіцкім універсітэце, і напрыканцы мне сказалі, што гэта апошнія заняткі па сцэнарным майстэрстве і курс закрываецца. Я падумала: «Я нешта прапусціла? Кіно ўжо больш не будуць здымаць?» У біскупскім універсітэце не рабілася акцэнту на тое, якое важнае для культуры і грамадства ўменне распавядаць гісторыі, гэтага няма і цяпер. Калі скласці спіс з 20-ці найлепшых кінашколаў у свеце, там не будзе ніводнай каталіцкай. Гэта пастырскі недагляд.

*— А што б зрабілі Вы? Уявіце: да Вас прыходзяць біскупы і кажуць: «Барбара, распрацуйце для нас стратэгічны план таго, як гэта арганізаваць». Што Вы скажаце?*

— Для пачатку нам будзе патрэбна 100 мільёнаў даляраў. Мы пабудуем цэнтр тут, у Галівудзе, з выхадам на творчую супольнасць. Цэнтр будзе складацца з некалькіх частак: вялікая адукацыйная, яшчэ адна, дзе мы будзем прадстаўляць прыгожыя творы мастацтва (неабавязкова хрысціянскія) і дапамагаць людзям зразумець, чаму гэта добра. Ведаеце, ёсць адна рэч, якая мне даўно і вельмі не падабаецца... Толькі таму, што чалавек мілы або праведны, або выступае ў абарону жыцця, мы не павінны прасоўваць яго кінапраект. Гэта збівае нас са шляху.

У цэнтры будзе вялікая капліца Святога Духа для людзей мастацтва, і кожны ў Галівудзе зможа прыйсці туды і папрасіць памаліцца аб рэалізацыі яго праекту. Цэнтр будзе функцыянаваць як інстытут, даследніцкі, навуковы цэнтр, дзе мы будзем размаўляць з прадстаўнікамі кінаіндустрыі, прапаноўваць ім ідэі, кіраўніцтва, трэнінгі. Мы запросім навукоўцаў з усяго свету, каб разглядаць мастацтва і апавядальніцкае майстэрства ў культуры. Мы зробім у цэнтры вытворчыя майстэрні, каб распрацоўваць там праекты. У нас будзе працаваць тэатр, дзе будуць ставіцца новыя п'есы. Мы будзем імкнуцца арганізоўваць хаця б палову мерапрыемстваў па колькасці, у параўнанні з тым, колькі ўсяго арганізуюць саентолагі. Няўжо гэта калі-небудзь атрымаецца зрабіць!

Уявіце, што Каталіцкі Касцёл вырашыў стварыць місіянерскі рух у мастацтве і індустрыі відовішчаў. Я б проста прытомнасць страціла, даведаўшыся! У архідыяцэзіі Лос-Анджэлеса ёсць святар, які апякуецца працаўнікамі докаў, але няма пастыра для працаўнікоў індустрыі відовішчаў. Гэта ж неразумна! Няхай узнікне такі цэнтр, дзе Касцёл будзе гаспадарыць, які будзе адкрыты свету, дзе мы скажам кожнаму: «Мы вас любім і падтрымліваем, разумеем патрэбы людзей мастацтва і дапаможам вам так, як павінны, а гэта, між іншым, не значыць, што мы будзем здымаць для вас кіно». Касцёл павінен даручаць, даваць паўнамоцтвы для стварэння мастацтва. Мы павінны выхоўваць і расціць людзей мастацтва.

*— Гэта пакуль толькі мара, але Вы самі кажаце, што грошай на мастацтва няма, і, здаецца, так адбываецца паўсюль. Што можа быць найлепшаю альтэрнатываю гэтым 100 мільёнам даляраў і таму ідэалу, які Вы апісалі?*

— Я б хацела бачыць каталікаў, якія ў сем'ях і парафіях будуць зноў выбіраць і вітаць прыгожае ў мастацтве і аповедзе гісторый. Вось што павінна стаць дзейснаю часткаю выхавання кожнага дзіцяці католіка: пісьменніцтва і літаратура, музыка, танец, маляванне, тэатр і прадстаўленне і, зразумела, кіно. Вучыце дзяцей распазнаваць добрае і прыгожае. Вучыце іх знаходзіць добрае паўсюль, без страху, без пыхі, якія часта выстаўляюць католікаў дурнямі перад секулярызаваным светам. Дапамажыце дзецям вучыцца не проста існаваць у гэтай культуры, але і быць важнымі для гэтай культуры. Натхняйце іх захацець зрабіць нейкі падарунак для будучыні. І, можа быць, Бог збавіць іх менавіта такім чынам.

*Пераклад з англійскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «Christians in Hollywood: The good, the bad, and the ugly», «Christians in Hollywood: the crucial role of parents and the Church», http://aleteia.org*

* Фланэры О'Конар (*Mary Flannery O'Connor*, 1925–1964) — амерыканская каталіцкая пісьменніца, адна з найярчэйшых прадстаўнікоў жанру «паўднёвай готыкі».

** Вялікія кнігі (*Great Books*) — збор з прыкладна 100–150 (у залежнасці ад спецыялізацыі студэнтаў) асабліва значных для заходняй культуры кніг ад Антычнасці да сучаснасці, на вывучэнні якіх будуецца адукацыйная сістэма.

Лідзія Камінская

# «ПРАЦУЙМА, БРАЦЦЯ!..»

*Да 135-годдзя з дня нараджэння першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка*



У красавіку 1986 года, калі я працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, нас сабралі на сход, дзе абвясцілі, што Міністэрства культуры Беларусі лічыць мэтазгодным аб'яднаць у адну арганізацыю ўсе літаратурныя музеі, — так узнікла Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска, адною з мэтаў якога было стварэнне музея беларускай літаратуры, а група для новага музея набіралася з супрацоўнікаў існуючых музеяў. Нам абяцалі больш цікавую новую працу і большыя перспектывы. Для новай цікавай працы нас сабралі ў невялікім, гулка-пустым памяшканні на Старавіленскай, 14 — у Гасцёўні Уладзіслава Галубка, і было ў гэтым нешта весела-сімвалічнае: мы ведалі, што трупа Галубка ад пачатку была вандроўнаю і часам працавала ў не вельмі прыдатных для культуры месцах — у свірнах і амбарах, хуценька намаляваўшы на сцяне ці на палатне пейзаж з лесам, полем ці рэчкаю (палатно пасля спектакля не забіралі, пакідаючы надпіс: «Тут быў Галубок з галубянятамі!»). А яшчэ мы ведалі, што ў літаратуры галоўнае жывое слова і дух — менавіта на іх трымаўся сам Уладзіслаў Галубок і ўся трупа пад яго загадам (так яна ад пачатку, з 1920 года, і называлася — Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка).

...Ён быў равеснікам Янкі Купалы — нарадзіўся 15 мая 1882 года на чыгуначнай станцыі Лясная, за 25 кіламетраў ад Баранавічаў. Мяркуючы па поўным імені — Ігнат Уладзіслаў — ён паходзіў з каталіцкай сям'і: яго маці звалі Алінаю (Рэвут), а бацьку, які працаваў на чыгунцы, — Іосіфам (Голуб). Дзед Уладзіслава Галубка Тамаш разам з братамі ўдзельнічаў у паўстанні 1863–1864 гадоў...

Пасля нараджэння Уладзіслава, які быў у сям'і першынцам, яго бацькі пераехалі ў Мінск, дзе Уладзіслаў скончыў царкоўнапрыходскую школу і два класы гарадской вучэльні. Па сутнасці ў асноўных сваіх будучых занятках — празаік, паэт, драматург, мастак, рэжысёр, акцёр, музыкант — ён быў самавукам, самародкам (праўда, яму пашчасціла браць урокі жывапісу ў мінскіх мастакоў). Ён выдатна граў на трамбоне і гармоніку і доўгі час удзельнічаў у аркестры добраахвотнага Таварыства пажарных у Мінску. Так здарылася, што, калі загінуў яго бацька, актыўны ўдзельнік забастовак і рэвалюцыйных выступленняў, Уладзіслаў Галубок, цалкам творчы чалавек, 20 гадоў (!) працаваў слесарам у дэпо, бо на руках у маці было шасцёра дзяцей, а бясплатны праезд па чыгунцы ён выкарыстоўваў для наведвання мастацкіх выставаў у Маскве і Пецярбургу.

Тым часам ва ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі працаваў канторшчыкам, а потым бухгалтарам вядомы паэт-гумарыст Альберт Паўловіч (1875–1951), які напісаў знакамітае *«з ранку росна, у поўдзень млосна, а пад вечар камары, і ніяк сабе для працы не магу дабраць пары»*, — ён і абудзіў у Галубку любоў да жывога роднага слова. Альберт Паўловіч жыў у Мінску ў драўляным доме на Нова-Раманаўскай вуліцы (цяпер — Рэспубліканская). Ён быў вельмі таварыскім, гасцінным чалавекам. Любіў маляваць, музыцыраваць з дзецьмі

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978-1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980-1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986-1992), у часопісе «Роднае слова» (1992-2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

(меў іх пяцёра), добра спяваў, гуляў у шашкі і шахматы, а па начах складаў беларуска-польскі слоўнік і пісаў падручнік «Бухгалтэрыя». Яго дачка, Тамара Паўловіч-Кліменка, ва ўспамінах пра бацьку (А. Паўловіч, «Выбранае», Мінск, 1975) піша, што ў іх дома часта бываў Янка Купала, які любіў маленькую дачку Паўловічаў Янінку і прысвяціў ёй вершык *«Для Янінкі, для цёзкі...»*; заходзілі Якуб Колас, Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок, прыязджаў з Пецярбурга Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла і нават Цётка (Алаіза Пашкевіч) аднойчы ўлетку выязджала з Паўловічамі за горад на маёўку. *«Увесь перыяд ад дзевяностага года і да пачатку першай імперыялістычнай вайны быў перыядам выяўлення і збірання новай беларускай інтэлігенцыі,* — піша Тамара Паўловіч-Кліменка. — *Сярод людзей гэтага кола мой бацька быў самы старэйшы, відаць, таму да яго і цягнулася моладзь. Ды ў нас была даволі прасторная хата, дзе можна было сабрацца гуртам». «Дом А. Паўловіча,* — піша Алег Лойка, — *сапраўды стаў як бы першым клубам беларускай літаратуры ў Мінску, які спрыяў гуртаванню сіл беларускай літаратуры, і ўжо ў гэтым ёсць заслуга Паўловіча»* (Гісторыя беларускай літаратуры, Мінск, 1989).

Для Уладзіслава Галубка гэты асяродак быў вельмі важным, бо, як вядома, часам менавіта асяродак больш істотна, лёсавызначальна ўплывае на фармаванне асобы, чым фармальна атрыманая адукацыя, і пацвярджэнняў гэтаму нямала.

Ужо ў 1906 г. у газеце «Наша Ніва» з'явіўся верш У. Галубка «Доля мужыка», сама назва якога блізкая да зместу першых вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. У 1913 г. у Пецярбургу выйшла кніга прозы У. Галубка пад простаю назваю «Апавяданні», і адразу ж Максім Багдановіч адзначыў, што Уладзіслаў Галубок піша *«бойкія і вясёлыя апавяданні, да чаго мае праўдзівую здольнасць...»*

Адметна, што многія апавяданні У. Галубка блізкія да алегарычных казак жыцця Якуба Коласа, у якіх увасоблена нямала біблейскай мудрасці: *«Лепш быць няшчасным, але відушчым, чымся шчаслівым, ды сляпым»*, — сцвярджае ў Якуба Коласа дуб; *«Уцешцеся, калі знайшлі вінаватага!»* — гаворыць у Якуба Коласа сойка.

У творах У. Галубка сэнсава значныя вобразы старцаў, вандроўнікаў, якія, нібы Апосталы, нясуць сваю шчымліва-горкую праўду па зямлі, а тэма блуднага сына па-свойму асэнсаваная пісьменнікам у апавяданні «Сын вёскі», герой якога, Янук Качарга, высмейваецца з-за яго прэтэнзій на нібыта вышэйшасць, а вёсцы ён даўно ўжо не сын, як, зрэшты, і гораду...

У апавяданні «Навальніца» У. Галубок стварае алегарычны вобраз-малюнак рэвалюцыі, а ў апавяданні «Бор» высмейвае пыху старога баравіка, які прэтэндуе на першынство ў грыбным царстве, а



Трупа беларускіх артыстаў з У. Галубком. 1926 г.

сам увесь паточаны чарвякамі. Працытую ўрывак з апавядання «Навальніца», дзе рэвалюцыя-бура паваліла стары магутны дуб, які «замінаў» маладым дрэўцам, забіраючы ад іх *«пажыву з зямлі»*.

*«...Ударыла маланка, задыміўся і зваліўся апалены дуб. І без ліку пахаваў пад сабой маленькіх дрэўцаў.*

*Навальніца, як цёмны аграмадны птах, уцякала далей. Дождж сціхаў, і дзе-нідзе з-за хмар паказвалася яснае неба. Шмат палягчэла тым дрэўцам, што асталіся ў старане; з прывычкі яшчэ пудліва паглядалі яны на дуб, што распластаны ляжаў у садзе, але ніхто цяпер не гінуў ад вечнай засені, і ўсім стала прасторна. Пачарнеўшы пень старога дуба дзіка глядзеў увысь і адзначаў месца, дзе жыла векавая сіла...»*

*«Дзіка глядзеў увысь...»* — хіба ж гэта не вечнае пытанне ў Неба з надзеяй атрымаць адказ, зразумець, за што і навошта была прынесеная ахвяра...

У апавяданнях У. Галубка асабліва кранальны матыў пазнавання, бо няма ў жыцці чалавека, які б не зведаў горыч стратаў і шчымлівае разуменне іх сэнсу, што прыходзіць (раней ці пазней) праз Божыя знакі. Вось як гэта апісваецца У. Галубком у апавяданні «Парабкі»:

*«Адна памятка ў мяне ёсць, крыжык выцінаны, надта даўні, гэта яшчэ бацька, як нас благаславіў, то абодвум на шыі панадзяваў, мой-то вось дзе, а братні пэўна разам у магіле...*

*...У старой затрэсліся рукі і слёзы пасыпаліся з вачэй. Нічога не кажучы, яна павяла рукой па грудзях, дастала адтуль крыжык і кажа:*

*— Не гэты?*

*Барадач глянуў і заплакаў:*

*— Гэты самы. Гэты, значыць, тут мой брат жыў і памёр во дзе яго крой.*

*Хапіў Прануся на рукі і пачаў моцна цалаваць...»*

Такое пазнанне часам змяняе чалавечы лёс, і тады мы называем яго Божым Провідам, нарэшце разумеючы, для чаго былі дадзены выпрабаванні...

Героі дарэвалюцыйных твораў У. Галубка (пераважна сяляне) жывуць у разуменні штодзённай,

натуральнай прысутнасці Бога, неаспрэчнасці Яго існавання, Яго волі, і гэта проста, звыкла выяўляецца ў іх размовах і развагах (*«Бог святы ведае»; «ну дык з Богам»; «дай Божа ёй здароўе»; «сцеражы нас, Божа»; «калі Бог пазволіць»; «Богу толькі ведама»* і да т. п.) Стары сляпы дзед (апав. «Смерць старца») і яго павадыр хлопчык (у Галубка — *правадыр*) у зімовы дзень жабруючы па вёсках, не проста адпачываюць, убачыўшы, што дарога наперадзе разыходзіцца накрыж, — яны моляцца.

*«— Крыжовая дарога, — адазваўся хлапец.*

*— А то добра, дзеткі: крыху спачнем ды памалюся, бо нейкі цяжар на сэрцы чую, — сказаў дзед.*

*Хлопчык ведаў, як маліўся дзед. Зараз дастаў кантычку з торбы і пачаў голасна вымаўляць слова за словам, пазіраючы то на крыж, то на дзеда: дзед, апёршыся пасінеўшымі пальцамі на плячо правадыра, сціх. Шаптаў сляпы малітву»...*

Дзед усё ж змерзне да смерці, пакуль хлопчык пабяжыць па дапамогу ў вёску, але яго развітальны зямны рух будзе напоўнены дабрынёю і ласкаю: *«цяжка паднялася дрыжачая рука яго і апошні раз пагладзіла галоўку малога Васілька»...*

Безумоўна, на ўсіх творах У. Галубка ляжыць адбітак часу, але яны і сёння кранаюць душу, выклікаючы суперажыванне і нават слёзы, бо напісаныя добрым майстрам з адметнаю жывою моваю. *«У. Галубок, —* піша літаратуразнаўца Сцяпан Лаўшук, *— ведаў безліч фальклорных сюжэтаў, якія патрабавалі мінімальнай апрацоўкі, каб ператварыцца ў творы аўтарскай мастацкай прозы, але такая творчая метода зусім не імпанавала пісьменніку. Нават у апавяданнях, заснаваных на калізіях побытавых анекдотаў, вусных дыдактычных гісторый <...> яму ўдалося ўзняцца над простым бытапісальніцтвам, раскрыць глыбінны сацыяльны падтэкст падзей»* (У. Галубок, «Апошняе спатканне», Мінск, 2007).

Чытаючы ўспаміны пра У. Галубка, разглядаючы тэатральныя фотаздымкі, раптам з радасным здзіўленнем разумееш, што ён быў вельмі шчаслівым: ён меў сапраўды яркія, унікальныя таленты і напоўніцу, лёгка іх рэалізоўваў; ён спазнаў радасць ад сяброўства з такімі ж яркімі, таленавітымі людзьмі; у яго была вялікая, моцная, дружная сям'я — у трупу У. Галубка ўваходзілі ў 1920-я гады яго жонка Ядвіга, дочкі Багуслава, Вільгельміна і маленькая Людміла (будучая жонка мастака Яўгена Ціхановіча); сын Эдуард, пазней літаратуразнаўца і фальклярыст, які займаўся ў трупе бацькі адміністрацыйнаю працаю. Слава пра Галубка і «галубянятаў» грымела па ўсёй Беларусі, бо ён даязджаў са сваімі выступленнямі да ўсіх яе куточкаў і можа таму ў 1920-я гады быў больш папулярны, вядомы, любімы, чым першыя народныя паэты Беларусі Янка Купала і Якуб Колас. У 1928 годзе Уладзіслаў Галубок атрымаў званне народнага артыста Беларусі, але не вельмі гэтым усцешыўся, бо, як ён казаў, усё ж вакол народнае — лепей бы далі заслужанага (ён нават хадзіў у СНК БССР, каб «перарабілі званне»). У. Галубок быў шчаслівым яшчэ і таму, што частка яго жыцця прыпала на залатое дзесяцігоддзе беларусізацыі, калі ўсё нацыянальнае сапраўды шанавалася, а карыстанне беларускаю моваю было прыкметаю інтэлігентнасці, адукаванасці.

У 1926–1931 гг. акцёрам і хормайстрам тэатра У. Галубка быў Нестар Сакалоўскі, вядомы як аўтар Дзяржаўнага гімна БССР; з Галубком выступаў яркі, самабытны скрыпач Міхась Лучанок (бацька Ігара Лучанка), нейкі час у трупе працавалі Міхась Чарот і Алесь Дудар, Васіль Сташэўскі і Іларыён Барашка; будучая знакамітая народная артыстка Беларусі Стэфанія Станюта (1905–2000) у 16 гадоў сыграла сваю першую ролю ў п'есе У. Галубка «Ганка». Цікавыя ўспаміны пра У. Галубка і яго трупу напісаў наш вядомы перакладчык Язэп Семяжон (1914–1990), якому таксама пашчасціла быць партнёрам У. Галубка у спектаклях: *«Сцеражыся, акцёр, —* пісаў Язэп Семяжон, *— калі ты на сцэне, іграючы тую ці іншую ролю, па неахайнасці або трафарэту нешта такое прамямліў альбо дазволіў сабе „адсябяціну“. На мастацкім савеце калектыву тэатра гэта расцэньвалася як незвычайнае здарэнне...»*

Уладзіслаў Галубок быў любімы народам настолькі, што *«...сярод беларускай інтэлігенцыі,* — піша С. Лаўшук у прадмове да кнігі „Апошняе спатканне“, *— доўгі час хадзіла легенда (і ў гэта так хацелася верыць), што сустракалі землякі на гулагаўскіх пуцявінах славутага У. Галубка, нібыта арганізаваў ён новую, „зэкаўскую“ трупу і зноў пачаў вандраваць ад лагера да лагера, каб словам мастацтва палегчыць долю зняволеных»*. Аднак гэта была толькі легенда, і цалкам натуральна, што яна склалася пра чалавека, жыццё якога людзям хацелася доўжыць, бо ў ім была дзівосная бязмежнасць і радасць жыцця.

...Уладзіслава Галубка арыштавалі ў канцы жніўня 1937 года і 28 верасня расстралялі за «нацыяналізм» — усё, што зрабіла яго першым народным артыстам БССР, раптам сталася празмерным. Міжволі прыходзяць на памяць радкі з верша Янкі Купалы «Маё цярпенне»:

*Маё цярпенне, мой крывавы боль —*
*Што значаць перад мукамі мільёнаў,*
*Дзе безнадзейны стогны родзяць стогны,*
*А слёзы грызуць вочы ўсім, як соль!*

*Хоць дух мой ўзносіцца пад неба столь,—*
*Як галавой аб мур там б'е паклоны.*
*Але як мал мой гэты ўздых шалёны...*
*Мой крык перад малітвай свету — ноль!*

*І веру я, што я нішто ў быцці...*

Ад творчай спадчыны У. Галубка захавалася ўсяго шэсць вершаў (хоць напісана было шмат), кніжка апавяданняў і 39 невялікіх п’есаў. *«Падчас арышту У. Галубка і вобыску ў яго кватэры быў канфіскаваны і куфар з рукапісамі,* — піша Анатоль Валахановіч у кніжцы „Уладзіслаў Галубок“ (Мінск, 2013). — *У ім захоўваліся тэксты новых камедый і меладрам, вершаў і апавяданняў, малюнкі і карціны. А ці ж не ўсплылі пазней яго літаратурныя творы, ужо крыху перапрацаваныя, скарочаныя ці пашыраныя і выдадзеныя за свае людзьмі, якія мелі непасрэдны доступ да гэтага куфра і там няблага пажывіліся, падпісаўшы іх сваім прозвішчам?»* Пра тое, што сапраўды «пажывіліся», расказваў і зяць У. Галубка мастак Я. Ціхановіч, але будзем спадзявацца, што праз гады побач з прозвішчам таго, хто такім чынам «ратаваў» спадчыну У. Галубка, з’явіцца нарэшце і яго імя — Бог усіх рассудзіць...

З пейзажных палотнаў У. Галубка ў нашых дзяржаўных музеях няма ніводнага — толькі ў Старадарожскім музеі (прыватным), заснаваным Анатолем Белым, экспануецца карціна У. Галубка «Рака Цнянка», напісаная ім у 1927 годзе.

Рыхтуючы гэты артыкул, я зайшла ў Гасцёўню Уладзіслава Галубка ў Траецкім прадмесці — тое, што я ўбачыла, мяне не здзівіла: экспазіцыя, прысвечаная першаму народнаму артысту Беларусі, месціцца ў доўгім вузкім калідорчыку, які вядзе ў асноўнае памяшканне — гасцёўню, а там месца займаецца living рознымі выставамі, ніяк не звязанымі з Галубком: у мой прыход была выстава «Нефть как искусство». У анатацыі да экспазіцыі пра жыццё і дзейнасць У. Галубка я знайшла чатыры арфаграфічныя памылкі і адну фактычную: там чамусьці напісана, што гасцёўня адчынілася ў 1990 г., а яна адчынілася ў 1982 г., да 100-годдзя з дня нараджэння У. Галубка. Дарэчы, і экспазіцыя Музея гісторыі беларускай літаратуры за 30 гадоў (!) існавання музея таксама чамусьці не створаная, хоць мы і стварылі частковы праобраз музея — выставу «Покліч», якая карысталася вялікім попытам, але праз гады была дэмантаваная як «састарэлая». Дзіўныя мы, беларусы: нібыта і патрыётаў сярод нас нямала, і працаваць умеем, а ўсё роўна неяк не напоўніцу — попел ахвяраў не грукае ў сэрцы... Таму мне захацелася назваць свой артыкул радком з верша У. Галубка «Будучыня» (1912) «Працуйма, брацця!», бо ёсць яшчэ што будаваць у нашым вялікім агульным доме, які завецца Беларуссю.

*Настане дзень, надойдзе час,*
*Мы крэпку столь звядзём,*
*І лепшай прышласцю для нас*
*Быць мусіць новы дом!*

*Працуйма, брацця! Хай хутчэй*
*Наш льецца пот цурком:*
*Прыйджэм і мы святлейшых дней,*
*Як скончым строіць дом!..*

## Уладзіслаў Галубок

# Абразок

Даўно ўжо Наста Мазалёва збіралася купіць у кірмашовы дзень абразок святога Юр’я і нарэшце, як разжылася на грошы ды часу было, паважна паплялася па мястэчку. Кірмаш быў у самым руху. Як ні дабівалася Наста ў кнігароў абразка, хоць запалі — не было аніводнага; хацела ўжо ісці дадому, аж бачыць, яшчэ адзін кнігар застаўся ў старане і стаіць, выглядаючы купцоў, узяўшыся ў бокі.

Наста і валіць проста да яго.

— Чаго, рыбачка? — пытае кнігар.

— А вось шукаю абразка святога Юр’я, дужа хацелася б мець, ці няма ў васпана?

— Ёсць, любудка, — і пачаў поркацца ў шухлядах.

Але як убачыў, што гэтага няма, наважыў пакпіць з бабы і вось дастае малюнак з белым як снег канём і падае.

— Добры мой пане, — кажа Наста, — конь-то Юр’я я пазнаю, а дзе ж сам ён?

— Як дзе? — пытае, нібы здзіўлены, кнігар. — Бачыш лес?

— Бачу.

— Ну, дык ён у лес пайшоў.

— Не, не выпадае неяк без самога... Можа, у пана другі ёсць?

Ізноў пачаў рыцца кнігар і падае вядомага ўсім рыцара Баву Каралевіча на гнядым кані і кажа:

— Лепшага нямашака і не можа быць!

— Во, такі ёсць, — падумала Наста і, заплаціўшы грошы, з вясёлай мінай паплялася дадому. Але дзесьці ў дарозе, як разгледзела, што конь не белы, а гняды, варочаецца да кнігара і пытае:

— Чаму гэта, дзядзечка, конь не белы ў Юр’я, а гняды?

— Бо белы ўжо даўно здох, і ён цяпер на чужым ездзіць, — адказаў кнігар.

*1912*

Паводле: Уладзіслаў Галубок. Апошняе спатканне. — Мінск : «Мастацкая літаратура», 2007. – 279 с.




# СВЯТЛО ПРЫГАЖОСЦІ

У кастрычніку 2016 года ўбачыў свет цудоўны альбом «Традыцыйны беларускі касцюм», аўтарамі якога з'яўляюцца супрацоўнікі аддзела старажытнабеларускай культуры Дзяржаўнай навуковай установы «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» кандыдат мастацтвазнаўства Марыя Віннікава і Паліна Богдан. Іх уласнымі рукамі і навуковымі вышукамі здзейснены сапраўдны цуд дакладнай і густоўнай рэканструкцыі прыгожых строяў народнага адзення розных рэгіёнаў Беларусі: Заходняга і Усходняга Палесся, Падняпроўя, Падзвіння, Панямоння і Цэнтральнай Беларусі, якія прадстаўлены на фотаздымках у натуральным прыродным асяроддзі. Адметна, што пленэрныя фотасесіі былі падрыхтаваныя і ажыццёўленыя таксама аўтарамі альбома: жывымі мадэлямі з'яўляюцца жанчыны і мужчыны розных узростаў у будзённым і святочным аддзенні, прыдатным для розных пораў года.

Выдатны ілюстрацыйны матэрыял альбома суправаджаецца тлумачальным тэкстам і подпісамі на трох мовах — беларускай, рускай і ангельскай, з дапамогай якіх раскрываюцца рэгіянальныя і лакальныя адметнасці традыцыйнага касцюма беларусаў. Ва ўступе адзначана стабільная навуковая ўвага да мастацкіх якасцяў традыцыйнага сялянскага касцюма, пачынаючы з выдання ў 1981 г. альбома Міхася Раманюка «Беларускае народнае адзенне». Але, на наш погляд, гэтая ўвага выявілася яшчэ раней, з экспедыцыйных замалёвак 1960-х гадоў мастака Лявона Баразны. Вялікі пералік манаграфій і калектыўных выданняў апошняга часу на гэтую тэму сведчыць пра невычэрпнасць у ёй мастацкага і навуковага матэрыялаў. Аўтары новага альбома таксама «не прэтэндуюць на паўнату асвятлення такой шматграннай з'явы, як традыцыйны беларускі касцюм», але іх уласным навуковым дасягненнем з'яўляецца максімальная набліжанасць да аўтэнтыкі ў фарміраванні рэгіянальных комплексаў, глыбокі, удумлівы, па-мастацку і тэхнічна









дасканалы падыход да рэканструкцый розных тэхнік ткацтва, пляцення карункаў, вышыўкі і г.д., дакладнае выяўленне генетычна адзінага эстэтычнага густу беларускага народа. Літаральна з кожнай старонкі альбома сыходзіць святло прыгажосці, што ліецца ў душу. У класічных прапорцыях строяў, семантыцы арнаментаў, выпрабаванай зручнасці і практычнасці сялянскага адзення адчуваецца подых глыбокай даўніны...

Высокая культура выдання кнігі — сапраўдная ўдача выдавецтва «Беларуская навука», якое вызначыла альбом як навукова-папулярны. Сваімі высокімі якасцямі гэтая кніга зацікавіць шырокага чытача, але тыраж яе ўсяго толькі 1000 асобнікаў (параўнайце з тыражом альбома М. Раманюка савецкага часу — 20 000 асобнікаў), таму новы альбом ужо стаў рарытэтам. Шукайце і знаёмцеся з ім!

*Тамара Габрусь*

---

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член< карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

Данута Бічэль

# УСЁ Ў СЛОВЕ...

*«...Словы маюць цень, празрыстасць, вагу, апярэнне, валасы, словы маюць усё, што да іх прыліпала, пакуль яны так доўга каціліся па рэках, вандравалі ад радзімы да радзімы, так укараняліся... Яны такія старадаўнія і зусім яшчэ немаўляты, яны жывыя ў навечна забітай труне і ў песціку толькі што расцвіўшай кветкі... Якая цудоўная ў мяне мова, якую дзівосную мову атрымалі мы ад змрочных канкістадораў!.. Заваёўнікі каталіся па дзікіх гарах, па ўздыбленай Амерыцы ў пошуках бульбы, кілбасаў, фасолі, чорнага тытуню, золата, маіса, яек, яны наляталі на ўсё з апетытам, якога не бачыў свет... Яны праглыналі ўсё падрад — рэлігіі, піраміды, плямёны, дзікунства — усё знікала ў вялізных кайстрах, якія яны цягалі за сабою... Яны наступалі, раўняючы з зямлёю ўсё, што траплялася ім на шляху, а варварам на хаду кідалі з ботаў, з бародаў, са шлемаў, з падковаў, кідалі, як каменне, светлыя словы, якія заставаліся ў нас і ззялі... Мова... Мы прайгралі... Мы аказаліся ў выйгрышы... Яны забралі ў нас золата і пакінулі нам золата... Яны забралі ў нас усё і пакінулі нам усё... Яны пакінулі нам словы...»*

Гэта думкі чылійскага паэта, палітыка Пабла Неруды (1904–1973), які за жыццё атрымаў усё, пра што нават не мараць многія паэты свету, — каханне, прызнанне, славу і няславу, прэміі ўласнай краіны, прэміі міру і Нобеля. Ён быў дыпламатам і аб'ездзіў свет як пасланец ад Чылі, ён быў палітычным уцекачом з чужым пашпартам, і яго ратавалі, заступаліся за яго вялікія яго сучаснікі, Пабла Пікаса, напрыклад... Камуніст, грамадзянін свету, ён называў адпаведна свае кнігі: «Месца жыхарства — Зямля». Я чытала і перачытвала яго вершы і кнігу ўспамінаў «Признаюсь, я жил» (1978).

Пабла нарадзіўся ў невялікім горадзе Парраль. Яго бацька Хасэ дэль Кармэн Рэйес Міралес працаваў на чыгунцы рабочым, а маці Роза Нефталі Басаальта Апаса была школьнай настаўніцай (рана памерла ад сухотаў). Імя Рыкарда Эліэсэр Нефталі Рэйес Басаальта паэт замяніў на Пабла Неруда і зрабіў яго ўласным іменем.

Ці можна знайсці апраўданне захапленню паэта іспанскаю моваю, якая прышчапілася да карэнных насельнікаў Чылі? Чылі цягнецца ўздоўж пабярэжжа Ціхага акіяна. Чылі засялялі індзейскія плямёны, каля мільёна чалавек. На пабярэжжы лавілі рыбу плямёны *чанга, ці уру*, плямёны *атакаменьё* засялялі пустыню Атакама, займаліся земляробствам і жывёлагадоўляю. Найбольш развітыя плямёны *манучэ і араўканы* засялялі цэнтральную частку Чылі, яны разводзілі авечак, вырошчвалі бульбу і маіс. Патагонію і Вогненную Зямлю засялялі паляўнічыя і рыбаловы з племя *чон*. Да XV ст. там быў родавы лад. *Індзейцы* змагаліся за незалежнасць з плямёнамі *інкаў*, якія перамаглі на поўначы, утварылі некалькі калоній і абклалі пераможаных данінаю. Але на поўдзень ад ракі Маўле інкаў спынілі. У XVI ст. прыйшлі канкістадоры....

Усіх перамаглі і заваявалі. І навошта вам размаўляць на мовах індзейскіх плямёнаў, калі іспанская мова прыгожая, удасканаленая, мае свае ўзаконеныя правілы?...

Шмат чаго адбывалася ў Чылі. І быў выбраны ў 1970 годзе ад блоку Народнага адзінства прэзідэнт Сальвадор Альенда. Але 11 верасня 1973 года адбыўся ваенны пераварот, які ўзна-

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016). Жыве ў Гродне.

чаліў Аўгуст Піначчэт. Прэзідэнт Альенда загінуў, стадыён «Чылі»ператварылі ў канцлагер. На стадыёне быў забіты спявак Віктар Хара. Калі ў 1990 г. зрабілі эксгумацыю яго цела, убачылі, што ў яго былі патрушчаныя пальцы і ўсе косці, вынялі 44 кулі... Галоўны кат уцёк у Амерыку...

Паэт Пабла Неруда памёр у шпіталі 23 верасня 1973 года...

Гэтак і да нас прыйшлі браты, якія амаль усё загрэблі ў свае мяхі, а нас «навучылі» размаўляць «правільна»... Падаравалі нават тыя «моцныя» словы, якія некалі пакінулі ім татара-манголы.

Каб заблытаць саміх сябе, нашы спрытныя людцы гэтыя матныя д'яблавы словы замянілі больш свойскімі, у тым ліку словам «*блін*», якое сёння ведаюць дзеткі ў садку.

Працэс пачынаўся даўно. Каму зручна нічога не памятаць і не ведаць гісторыі, той не ведае. Чыесьці праўнукі нават не чулі, што за мову некалі забівалі і садзілі ў турмы, а самыя смелыя праўнучкі пачалі наведваць вечарынкі, якія называюцца «Мова нанова». Там збіраюцца і хлопцы. Хлопцы з гітарамі, у вышыванках прыязджаюць са сталіцы, «прывозяць мову» і цацкі для гульні. Самі іх прыдумваюць і самі майструюць.

Мова — гэта наш родавы знак. Мова — гэта душа. Мова адрознівае нас ад усіх іншых. Без мовы мы нямкі, без мовы нас няма, мы знікаем.

Гуляць у нацыянальныя прыкметы — у вышыванкі, маляванкі, у мову — гэта вясёлае самагубства...

Калі Папа Рымскі Францішак, аргенцінец Хорхе Марыя Берголіа, родам з Буэнас-Айрэса, маліўся на стадыёнах і на аэрадроме ў Мексіцы, нягледзячы на сонечную спякоту, усе часткі святой Эўхарыстыі паўтараліся па некалькі разоў на розных прыгожых мовах мексіканскіх абарыгенаў. Чаму?

Калі Папа Рымскі Францішак прыехаў у Кракаў на сустрэчу з моладдзю свету, польскія вернікі, якія размаўляюць з Маці Божай і з Езусам на польскай мове і напісалі на ёй свае лепшыя малітвы і песні, з павагі да Папы Рымскага і да свету, саступілі моладзі галоўнае месца перад Святым Айцом. На малітоўных сустрэчах гучала італьянская, іспанская, ангельская, нямецкая, а зрэдку нават і беларуская мова.

Цікава, колькі беларусаў жыве на Беларусі? Тая статыстыка, якую даюць розныя перапісы, не адпавядае рэальнасці.

Хто ў Беларусі будзе тым паэтам, які скажа так, як Пабла Неруда, што канкістадоры *падаравалі нам золата — прыгожую мову*, знішчыўшы нашу родную? Магчыма, ёсць такі паэт, і не адзін. Чую па радыё — нейкі гродзенскі гурт крычыць пра «дурную» мову...

Нашы продкі жылі пад Каронаю, але па Канстытуцыі Вялікага Княства. Кароль Рэчы Паспалітай выбіраўся і вялікім князем. Але нашы палітыкі перад тым, як ехаць на сойм, збіраліся ў Слоніме ці Вільні і вырашалі палітычныя пытанні Вялікага Княства Літоўскага. Канцлер Леў Сапега выдаў у 1588 г. у Вільні «Статут Вялікага Княства»... Мы мелі мову, на якой Францішак Скарына выдаваў святыя кнігі «Бібліі». Мы мелі мову, на якой Кастусь Каліноўскі выдаваў «Мужыцкую праўду».

У 1918 годзе Браніслаў Тарашкевіч прывёў у сістэму беларускую мову, якая спазнала росквіт і дала нашаму народу сваіх абаронцаў — Францішка Багушэвіча і Цётку, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

У 1933 годзе Савет народных камісараў без вучоных лінгвістаў, без абмеркавання правёў рэформу беларускага правапісу з мэтаю наблізіць беларускую мову да рускай, каб паступовa яе знявечыць і знішчыць. Маё пакаленне, і пасля майго — наступныя пакаленні, вывучылі гэтыя правілы і карысталіся імі. Што чалавек у школе вывучыць, тое ён усё жыццё і ведае. Але мы больш размаўлялі на мове сваіх вёсак і мястэчкаў. Бераглі і шанавалі мову продкаў. Наступная рэформа адбывалася ў 1958-м...

А калі прыйшла воля 90-х, мову раздвоілі на «тарашкевіцу» і «наркамаўку», бо амаль кожны лічыў сябе надта разумным. На жаль, здарылася і рэформа 2008 года. Нельга было ў такі небяспечны для мовы час яе рэфармаваць...

Але, з правіламі і без правілаў, беларуская мова ўсё яшчэ жывая, на ёй добра размаўляць з Богам...

Да нашага Рымскага Папы Францішка на 31-ю сустрэчу з моладдзю свету ў Кракаў прыехала і моладзь з Беларусі. Іх, як родных, разабралі польскія сем'і. Я слухала па радыё галасы польскіх людзей, якія разумеюць беларускую мову, бо знаходзяць у ёй шмат архаічных словаў, што некалі былі і ў польскай мове, але цяпер пагубляліся. Я ведаю адно такое слова — «*вельмі*».

# CONTENTS

We open the new issue of the quarterly magazine «Our Faith» with the excerpts from the book «Benedict XVI. The Final Conversations with Peter **Seewald**" (2016), translated from German by I. Burak (p. 2-7).

We continue to publish translation of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (translated from Spanish by S. Gresvi), as well as translation from English (by Y. Shedzko) of "The Four Loves" by C.S. Lewis (Section V) (p. 8-15).

Teacher of Sacred Scripture, Doctor of Biblical Studies M. Pashuk offers the readers article "Just Enoch", which tells about one of the most interesting figures of the Bible (p. 16-19).

Article "Father Adam Stankievich as a Follower of Francis Skaryna Case" by Candidate of philological science I. Bagdanovich is dedicated to the 500th anniversary of Belarusian book printing and the 125th anniversary of the birth of. A. Stankievich. Here you will also find an excerpt from the article "Doctor Francis Skaryna Is the First Belarusian Printer (1525-1925)" by A. Stankievich. Article "Literary Heritage of St. Paul in the Publications of Francis Skaryna" by Master of Philology A. Akushevich is dedicated to the anniversary of book-printing (p. 20-30).

In essay "To See 'The Last Supper'"by A. Dworakowski (translated from Polish by S. Rutkowska) you will read about one of the most famous works of Leonardo da Vinci (p. 31-33).

Restorer A. Shpunt in his article "NDF-2207" talks about the last painting by artist Jan Damel, returned to life in the restoration workshops of the National Art Museum (p. 34-37).

We propose an interview "How Do I Know that this Is the Voice of God?"of A. Sasnouskaya with Paweł Krupa OP, the director of Tomistic Institute in Warsaw (translated from Polish by J. Shedzko) (p. 38-41).

Historian A. Shpunt in his article "Sarmatian Milton" acquaints the readers with the life and work of J. Baka SJ (p. 42-45).

In the column "Poetry" we place the poems by I. Snarskaya, V. Maksimovich and Lene Meyer-Skumanz (translated from German by J. Semjonowa-Herzog) (p. 46-51).

Literary critic A. Brusievich in the article "The Way to Love" talks about "Selected Works" (2016) by D. Bichel. M.Skobla in his article "Golden Hill of Iryna Bagdanovich" writes about the new book of known scholar of literature I. Bagdanovich (p. 52-58).

Interview of Z. Romanowsky with Hollywood screenwriter B. Nicolosi "Christians in Hollywood. Christians in Art" (translated from English by J. Shedzko) is dedicated to Christian themes in art (p. 59-63).

Article by L. Kaminskaya "Let's Work, Brothers!" is dedicated to the 135th anniversary of the first People's Artist of Belarus U. Galubok, who became a victim of Stalin's repressions (p. 64-67).

Doctor of Art T. Gabrus in her article "The Light of Beauty" introduces the album "The Traditional Belarusian Costume" (2016), prepared for printing by M. Vinnikava and P. Bogdan (p. 68-69).

Famous Belarusian poetess D. Bichel offers the readers her new essay "All in a Word...", where she reflects on the importance of word and native language (p. 70-71).

# RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit Auszügen aus dem Buch „Benedikt XVI. Letzte Gespräche mit Peter Seewald" (2016, aus dem Deutschen von I. Burak) (S. 2-7).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz (aus dem Spanischen von S. Greswi) und des Buches „Vier Arten der Liebe" von C. S. Lewis (Abschnitt V, aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 8-15).

Die Dozentin der Heiligen Schrift und Doktorin der Bibelwissenschaft M. Paschuk berichtet den Leserinnen und Lesern in ihrem Artikel „Der gerechte Henoch" über eine der interessantesten biblischen Gestalten (S. 16-19).

Dem 500. Jahrestag des belarussischen Buchdruckes und dem 125. Geburtstag des Priesters A. Stankewitsch gewidmet ist der Artikel „Priester Adam Stankewitsch als Fortsetzer der Sache von Franzischak Skaryna" von I. Bagdanowitsch, Kandidatin der philologischen Wissenschaften. Hier wird auch ein Auszug aus dem Artikel „Doktor Franzischak Skaryna — der erste belarussische Buchdrucker (1525 –1925)" des Priesters A. Stankewitsch veröffentlicht. An das Jubiläum des Buchdruckes erinnert auch der Artikel „Literarisches Erbe des Apostels Paulus in den Ausgaben von Franzysk Skaryna" von A. Akuschewitsch, Magister der Theologie (S. 20-30).

Über eines der bekanntesten Werke von Leonardo da Vinci wird im Essay „*Das letzte Abendmahl* sehen" von A. Dworakowski (aus dem Polnischen von S. Rutkowska) berichtet (S. 31-33).

Im Artikel „NDF-2207" erzählt der Restaurator A. Spunt spannend über das letzte Bild, das von dem Maler J. Damel gemalt wurde und das in den Restaurierungswerkstätten des Nationalen Kunstmuseums zu neuem Leben erweckt wurde (S. 34-37).

Im Interview „Woher kann ich wissen, dass das Gottes Stimme ist?" können die Leserinnen und Leser das Gespräch von A. Sasnouskaja mit Pawel Krup OP, dem Direktor des Thomistischen Institutes in Warschau, (aus dem Polnischen von J. Schedsjko) nachlesen (S. 38-41).

Der Historiker A. Spunt macht die Leserinnen und Leser im Artikel „Ein sarmatischer Milton" mit dem Leben und Werk des Priesters J. Baki SJ bekannt (S. 42-45).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von I. Snarskaja, W. Maksimowitsch und Lene Mayer-Skumanz (aus dem Deutschen von J. Semjonowa-Herzog) (S. 46-51).

Über das Buch „Ausgewählte Werke" (2016) von D. Bitschel berichtet die Literaturwissenschaftlerin A. Brussewitsch im Artikel „Wege zur Liebe". Über das neue Buch der bekannten Literaturforscherin I. Bagdanowitsch schreibt M. Skobla im Artikel „Solotaja Gorka von Iryna Bagdanowitsch" (S. 52-58).

Die christliche Thematik in der Kunst wird im Interview „Christen in Hollywood. Christen in der Kunst" von Z. Romanowsky mit B. Nicolosi, einem Drehbuchautor aus Hollywood, behandelt (aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 59-63).

Anlässlich des 135. Geburtstags des ersten Volksartisten von Belarus U. Galubka, der zum Opfer der stalinistischen Repressalien wurde, wird der Artikel „Wollen wir arbeiten, Brüder …!" von L. Kaminskaja veröffentlicht (S. 64-67).

Die Doktorin der Kunst T. Gabrusj macht die Leserinnen und Leser im Artikel „Das Licht der Schönheit" mit dem Bildband „Traditionelle belarussische Trachtenkleidung" (2016) bekannt, das von M. Winnikawa und P. Bogdan zum Druck vorbereitet wurde (S. 68-69).

D. Bitschel, die bekannte belarussische Poetin, präsentiert den Leserinnen und Lesern ihren neuen Essay „Alles ist im Wort…", in dem sie über die Wichtigkeit des Wortes und der Muttersprache reflektiert (S. 70-71).

# PODSUMOWANIE

Najnowszy numer kwartalnika «Nasza wiara» rozpoczyna się zbiorem fragmentów z książki «Benedykt XVI. Ostatnie rozmowy z Peterem Seewaldem» (2016, tłum. z języka niemieckiego I. Burak) (s. 2-7).

Kontynuujemy publikację traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) oraz pracy C. S. Lewisa «Cztery miłości» (rozdział V, tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (s. 8-15).

Wykładowca Pisma Świętego, doktor biblistyki M. Paszuk proponuje uwadze czytelników artykuł «Sprawiedliwy Henoch», w którym opowiada się o jednej z najciekawszych postaci Biblii (s. 16-19).

Z okazji 500-lecia białoruskiego druku oraz 125-tej rocznicy z dnia urodzin ks. A. Stankiewicza został umieszczony artykuł kandydata nauk filologicznych I. Bahdanowicz «Ksiądz Adam Stankiewicz jako zwolennik sprawy Franciszka Skaryny». Drukujemy także fragment z artykułu ks. A. Stankiewicza «Doktor Franciszek Skaryna — perwszy drukarz białoruski (1525–1925)». Jubileuszu druku poświęcony jest również artykuł magistra filologii A. Akuszewicza «Dziedzictwo literackie apostoła Pawła w wydaniach Franciszka Skaryny» (s. 20-30).

O jednym z najznakomitszych utworów Leonardo da Vinci opowiada się w eseju A. Dworakowskiego «Zobaczyć Ostatnią Wieczerzę» (tłum. z języka polskiego S. Rutkowskiej) (s. 31-33).

Restaurator A. Szpunt w artykule «NDF-2207» ciekawie opowiada o ostatnim obrazie malarza J. Damela, powróconym do życia w pracowniach konserwatorskich Narodowego Muzeum Sztuki Białorusi (s. 34-37).

W wywiadzie «Skąd mam wiedzieć, że to głos Boga?» czytelnikom proponuje się rozmowa A. Sosnowskiej z dyrektorem Instytutu Tomistycznego w Warszawie o. Pawłem Krupą OP (tłum. z języka polskiego J. Szedźko) (s. 38-41).

Historyk A. Szpunt w artykule «Sarmacki Milton» zaznajamia czytelników z życiem i twórczością ks. J. Baki SJ (s. 42-45).

W rubryce «Poezja» zostały umieszczone wiersze I. Snarskiej, W. Maksymowicza i Lene Mayer-Skumanz (tłum. z języka niemieckiego J. Semjonowa-Herzog) (s. 46-51).

O «Utworach wybranych» (2016) D. Biczel opowiada literaturoznawca A. Brusiewicz w artykule «Droga do miłości». O nowej książce znanej badaczki literatury I. Bahdanowicz pisze M. Skobla w artykule «Złota Górka Iryny Bahdanowicz» (s. 52-58).

Tematyce chrześcijańskiej w sztuce poświęcona jest rozmowa Z. Romanowski ze scenarzystą hollywoodzkim B. Nicolosi «Chrześcijanie w Hollywoodzie. Chrześcijanie w sztuce» (tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (s. 59-63).

Z okazji 135-tej rocznicy z dnia urodzin pierwszego artysty ludowego Białorusi U. Hałubka, który stał się ofiarą represji stalinowskich, drukuje się artykuł Ł. Kamińskiej «Pracujmy, bracia!..» (s. 64-67).

Doktor historii sztuki T. Habruś w artykule «Światłość piękności» zaznajamia czytelników z albumem «Tradycyjny strój białoruski» (2016), przygotowanym do druku przez M. Winnikową i P. Bohdan (s. 68-69).

Znana białoruska poetka D. Biczel proponuje uwadze czytelników swój nowy esej «Wszystko w słowie…», w którym rozważa o ważności słowa i języka ojczystego (s. 70-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con brani tratti dal libro "Benedetto XVI. Le ultime conversazioni con Peter Zeevald" (2016, traduzione dal tedesco di I. Burak) (p. 2-7).

Continua la pubblicazione del trattato di San Giovanni della Croce «La salita al monte Carmelo» (tradotto dallo spagnolo da S. Gresvi) e la pubblicazione del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis "Quattro Amori" (Parte V) tradotto dall'inglese da J. Šedzko (p. 8-15).

La docente della Sacra Scrittura, Dott.ssa di Biblistica M. Pašuk sottopone all'attenzione dei lettori l'articolo "Enoch il Giusto" in cui racconta di uno dei più interessanti personaggi della Bibbia (p. 16-19).

Al 500° anniversario dell'editoria bielorussa e al 125° anniversario della nascita del sacerdote A. Stankevič è dedicato l'articolo della Dott.ssa di ricerca in letteratura I. Bagdanovič "Il Prete Adam Stankevič come successore di Frazisk Skaryna". Accanto si pubblica un brano tratto dall'articolo di A. Stankevič "Il primo editore bielorusso Dottor Franzisk Skaryna (1525–1925)". All'anniversario dell'editoria è dedicato anche l'articolo del master A. Akuševič "L'eredità letteraria dell'Apostolo Paolo nelle edizioni di Frazisk Skaryna" (p. 20-30).

Nel saggio di A. Dworakowski "Vedere "Il Cenacolo" (traduzione dal polacco di S. Rutkowskiej) si racconta di una delle più famose opere di Leonardo da Vinci (p. 31-33).

Il restauratore Arkadz Špunt nell'articolo "NDF-2207" racconta dell'ultimo quadro di J. Damel, tornato alla vita nei laboratori di restauro del Museo di Belle Arti Nazionale (p. 34-37).

Nell'intervista "Come faccio a sapere che questa voce è la voce di Dio?" all'attenzione dei lettori si sottopone la conversazione di A. Sasnouskaya con il Direttore dell'Istituto Tomistico di Varsavia Pavel Krup OP (traduzione dal polacco di J. Šedzko) (p. 38-41).

Lo storico Andrej Špunt nell'articolo "Milton di Sarmazia" fa conoscere ai lettori la vita e l'attività creativa del parroco J. Baki SJ (p. 42-45).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di I. Snarskaya, V. Maksimovič e Lene Mayer-Skumanz (traduzione dal tedesco di J. Semjonowa-Herzog) (p. 46-51).

Il critico di letteratura A. Brusevič nell'articolo "La strada verso l'amore" racconta di "Opere scelte" (2016) di D. Bičel, invece M. Skobla nell'articolo "Collina d'oro" di Iryna Bagdanovič" scrive del nuovo libro della studiosa di letteratura I. Bagdanovič (p. 52-58).

L'intervista all'autore dei copioni holliwoodiani B. Nikolsy fatta da Z. Ramanouski "Cristiani a Holliwood. Cristiani nell'arte" è dedicata alla rappresentazione degli argomenti cristiani nell'arte (traduzione dall'inglese di J. Šedzko) (p. 59-63).

In occasione del 135° anniversario della nascita del primo artista insignito del titolo "Artista del popolo di Belarus" U. Galubok, vittima delle repressioni staliniane, si pubblica l'articolo di L. Kaminskaya "Lavoriamo, fratelli!.." (p. 64-67).

La Dottoressa di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus nell'articolo "La luce della bellezza" presenta ai lettori l'album "Il costume tradizionale bielorusso" (2016) preparato per la stampa da M. Vinnikava e P. Bogdan (p. 68-69).

La famosa poetessa D. Bičel offre ai lettori il suo nuovo saggio "Tutto sta nella parola…", in cui riflette sull'importanza della parola e della madrelingua (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — фрагмент карціны Яна Дамеля «Малітва ў садзе Аліўным» пасля рэстаўрацыі. Нацыянальны мастацкі музей Беларусі.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (79)/2017.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 06.03.2017 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 000 экз. Зак № 269.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*



*Ян Дамель. «Святы Юзаф». Каля 1820 г.*
*Касцёл св.Тадэвуша, в. Вішнева, Смаргонскі р-н.*